САКРАТ ЯНОВІЧ

# СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК



АПОВЕСЦЬ,
АПАВЯДАННІ,
ЗАМАЛЁЎКІ,
ГУМАРЭСКІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1978

Я 64
Бел 2

Я $\frac{70303-109}{М 302(05)-78}$ 140—78



# СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Аповесць

Я шчэ ўвосень 1863 года зарыва Студзеньскага паўстання ў Беларусі ўсё палыхала. Беларусы чакалі вясны, каб, узяўшы самаробную зброю, а таксама косы і сякеры, зноў ісці ваяваць. За волю — за Беларусь без цара і паноў.

Так мела быць.

## 1

Палкоўнік Лосеў паглядзеў у акно: над Вільняй — яснае неба, блакітнае; яно супакойвала нервы.

Ён вярнуўся з нарады ў генерал-губернатара Мураўёва, падчас якой яму давялося выслухаць прыкрую вымову... Справа ў тым, што контрразведчая служба, якую ўзначальвае палкоўнік, аж да гэтага часу не напала на след новага цэнтра, што кіруе паўстаннем у Беларусі.

«Ім здаецца, што даволі моцна хацець, а рэшта само зробіцца!» — Лосеў, як і кожны жандарскі афіцэр, з цяжкасцю даходзіў да разумення сваіх памылак. Перашкаджала гэтаму нейкая прафесіянальная самаўпэўненасць. Адначасова падштурхоўвала яго да рэвізіі

сваёй дагэтулешняй дзейнасці няясцае прадчуванне таго, што губернатар, відаць, пільна шукае казла адпушчэння за няўдачы ў намераным хуткім здушэнні беларускага паўстання. Сапраўды, калегі Лосева ў Варшаве ўжо пачалі жыць спакойна, а тут, у Беларусі і Літве, усё яшчэ поўныя рукі работы...

Сеў за стол ды ўзяўся гартаць дакументацыю апошніх следстваў і аператыўныя зводкі агентуры. Паглыбіўся ў паперы.

«Усё гэта без істотнага значэння,— думаў ён аб чытаным.— Раскрыць цэнтр, што кіруе паўстаннем у Беларусі, нельга пры дапамозе адной агентуры. У нас няма агентаў, якія здолелі б адыграць ролю партнёра ў кантактах з небяспечнымі інтэлігентамі, не выклікаючы прытым падазрэнняў з іх боку і здабываючы іх давер у такой ступені, калі даходзіць да размоваў па шчырасці, адкрывання таямніц... Гэта немагчыма!» — заключыў Лосеў. Перад ягонымі вачыма паўставалі тупыя твары сышчыкаў ды ўсялякіх прадажнікаў з хітрунскімі ўсмешкамі, якія сэнс чалавечага жыцця бачылі ў грашах і салодкай разбэшчанасці. Праца ўяўлялася ім пакутаю, і таму, ідучы на службу ў паліцыю, яны спадзяваліся перш за ўсё лёгкага хлеба. Лосеў быў занадта культурны і інтэлігентны чалавек, каб не мець пачуццяў нянавісці да гэтых людзей, але адначасова ўсведамляць сабе, што іначай у ягонай службе не можа быць.

Гэта, безумоўна, сумная з'ява, што высокі царскі трон даводзіцца ахоўваць з дапамогаю людзінаў, нячыстых на руку ды з апаганеным сумленнем, падумаў палкоўнік. Інтэлігенты з вялікай літары, а тым болей інтэлектуалісты ў паліцыі — на жаль — з'яўляюцца той рэдкасцю, аб якой толькі чуў, быццам пра нейкі каштоўны мінерал...

Перагледзеў ён абы-як пісаныя, з памылкамі, тры рапарты сышчыка, які ўжо на працягу двух месяцаў



сочыць за кватэрай нейкай Марыі Грыгатовіч, западозранай у сувязях з паўстанцкімі канспіратарамі; час ад часу заходзіць да яе мужчына, які, быццам прывід, знікае потым у закавулках Вільні. «Гэты спрытнюга, відаць, найбольш насцярожвае няўдалага шукальніка мяцежнікаў... Было б смехатворна, калі б аказалася, што гэты мужчына з'яўляецца ўсяго толькі пранырлівым каханкам, у якога сядзіць на шыі сварлівая жонка з дзіцем,— палкоўніку палепшыўся настрой. Ён пазваніў, каб падалі яму чаю.— Расканспіраванне цэнтра з'яўляецца надзвычай складанай і сур'ёзнай аперацыяй. Патрэбны дзеля гэтага не прадажнікі; яны, дарэчы, не заходзяць высока ў падпольнай ерархіі, бо не хапае ім вытрымкі, мацаты волі, якую можа даць толькі бязмежная вера ў ідэю. У расканспіраванні цэнтра, што кіруе паўстаннем, патрэбна здрада! Вялікая здрада! А гэта зусім што іншае, чымсьці прадажніцтва. Здраду могуць спарадзіць ідэйныя разыходжанні або раптоўны крах веры ў сэнс ахвяры...— Прынеслі Лосеву чай.— Я залішне тэарэтызую, без канкрэтных арыенціраў...»

Палкоўнік супакоіўся.

Неяк міжвольна ўспаміналася яму падарожжа ў Мінск, у кастрычніку. Там адбывалася следства па справе групы арганізатараў паўстання на Міншчыне, якраз тады схопленых. Адзін з іх, Парфіяновіч, расклеіўся.

«Гэта вашы рэчы?» — пытаў яго палкоўнік Лосеў, паказваючы знойдзеныя пры ім матэрыялы.

«Я ж гаварыў: так, мае!»

«Хто вам перадаў іх: імя, прозвішча таго, адрас?»

«Не ведаю».

«Эй жа...— Лосеў паставіў на арыштаванага вочы, поўныя кпіны: — Браток, не са мною такія штукі! Брацец ты мой, не са мною гуляць у жмуркі». Дзесьці манатонна крычаў вязень і чулася грубіянская лаянка тых, што каталі яго. «Трэба загадаць, каб спынілі

прымяняць гэтакія прасцяцкія метады следства»,— з пагардай падумаў Лосеў пра цвердалобых паліцэйскіх падафіцэраў з быдлячымі характарамі, якім здаецца, што боем можна дабіцца практычна ўсяго.

«Ці вам, палкоўнік, мала майго прызнання, што гэтыя рэчы належаць мне?»

«Я разумею вас: мне дастаткова вядома наконт вашай кіруючай ролі ў паўстанні».

«Калі вам вядома гэта, дык чаго мяне мучыце? Каб я пацягнуў за сабою пабольш сяброў? Вешайце мяне, маскалі праклятыя! Хутчэй!»

«Пан Парфіяновіч, вы культурны і інтэлігентны чалавек, а крычыце, прабачце за параўнанне, быццам буян з гарбарнай Пагулянкі. Ці я вас нечым абразіў?»

«Вы адным сваім знаходжаннем на нашай зямлі абражаеце мяне, усіх маіх суродзічаў!»

«Мне, пан Парфіяновіч, цяжка пярэчыць вам, бо вы маеце рацыю. Але, як мне здаецца, вы атаясамліваеце маю асобу са службовым становішчам, якое я займаю... Калі так, дык дапусцім на хвілінку наступнае: я адракаюся ад займаемай пасады і выязджаю дамоў, у Расію. Ці гэта абазначае, што рэжым улады паслабее? Ці вы лічыце, што пасля майго выезду вас ужо ніхто не будзе дапытваць? А мая пасада будзе пуставаць? А што было б, калі б на маё месца прыехаў нейкі хам з дваранскім званнем, якімі так ахвотна абдорвае губернатар Мураўёў, не без падстаў празваны Вешальнікам, кожную свалату?..»

«Палкоўнік, вы забыліся, з кім гаворыце...»

«Не, пан Парфіяновіч. Я не забыўся: размаўляю з чалавекам, які дзеля ідэі гатоў ахвяраваць уласным жыццём! З чалавекам, якога шаную за гэта і, адначасова, шкадую, што ваша справа пазбаўлена рэальных шанцаў. Паверце мне! Гэта праўда, што я далёкі ад аднадумства з вамі, але, лічу, мы павінны сысціся ў тым, каб менавіта па магчымасці найменш праліць



крыві. Каб ратаваць чалавечыя жыцці! Таму і вырашыў я дапытаць вас...» — Палкоўнік Лосеў адчуваў сябе ў добрай форме: «Не можа быць таго, каб я хоць крышку не пахіснуў упартасці гэтага мяцежніка! А калі ён, дурань, паверыць мне, дык тады будзе мой поўны выйгрыш. Пакажу гэтым паліцэйскім дурылам, як трэба праводзіць следства!»

«Вы хочаце ад мяне прозвішчаў і адрасоў, каб наладзіць арышты...»

«Правільна разумееце мяне: арышт — гэта не смерць. Прапаную вам выбраць меншае зло: пашкадаваць сваіх сяброў, пакуль яшчэ не позна. Хачу дадаць да сказанага, што, прыкладна, увесну паміж намі, пан Парфіяновіч, відаць, не дайшло б да такой гутаркі — паўстанне яшчэ грымела бітвамі, нават пашыралася, і толькі вельмі нямногія ў вас і ў нас разумелі тое, што яно заўчаснае, безнадзейнае, дрэнна падрыхтаванае...»

Лосеў гаварыў Парфіяновічу тую праўду, якая павінна была паслужыць ягонай, жандарскага палкоўніка, праўдзе. Абраны ім спосаб «расшчамлення» заўзятасці падазронага аказаўся трапным, і калі таілася ў гэтым нейкая рызыка, дык адно ў тым, як надоўга ён здолее ўтрымаць разумовую перавагу ў аргументаванні. Парфіяновічу павінна перашкодзіць нянавісць пераможанага, ад якой, хто ведае, ці не зусім блізка да здрады або, прынамсі, да трусасці...

«Вы, палкоўнік, мабыць, ведаеце, якую мае назву тое, што прапануеце мне?»

«Вы, прызнаюся, здзівілі мяне: здавалася, што мы паразумеемся. Цяжка мне зараз успомніць, дзе менавіта чытаў я — апошнім часам ператаміўся! — аб тым, што здрада нечаму меншаму дзеля ратавання большага называецца палітыкай...»

«Салдата не цікавіць палітыка».

«Шкада. Салдат заўсёды з'яўляецца інструментам палітыкі, выконвае яе канкрэтны заказ. Праўда, добры

салдат — гэта не заўсёды добры палітык. Дрэнна, калі тое ж можна сказаць і пра добрага камандзіра; крэпасць павінна абараняцца так доўга, як доўга існуе палітычны сэнс яе ўтрымання. І стратэгічны перш за ўсё. Гэта, вядома, мой намёк у ваш адрас, і мне цікава ведаць, што вы маеце супроць маіх разважанняў?»

«Добра вам гаварыць так, калі ў вас няма жалю! Не вы гэта прайграеце, праўда?»

«Ці я прапаную вам поўны пройгрыш, пан Парфіяновіч? Наадварот, прапаную, калі можна так сказаць, палон, які тым адрозніваецца ад штурму, што няма разні...»

«Толькі шыбеніцы!»

«Не пярэчу. Пытанне — колькі? Чым даўжэй будзе адбывацца агонія вашага парыву, тым больш будзе гэтых шыбеніц! Прабачце мне за гэту маю грубую шчырасць».

«Значыць, я магу паменшыць зло, учыненае вамі, маскалямі?»

«Зараз важна само існаванне зла. Адносна ж яго прычын я схільны прызнаць за вамі некаторую рацыю. Аднак жа ў нас, у мяне з вамі, пан Парфіяновіч, няма часу на дыспуты. Паўтараю: прапаную, замест поўнай гібелі, выратаваць тое, што яшчэ можна выратаваць. Вы добра падумайце над гэтым!»

«Што можа думаць чалавек, якога чакае смерць?»

«Не ўсе арыштаваныя аднолькава вінаваты...» — Палкоўнік Лосеў стаміўся: «Я пачынаю загруба гуляць гэту партыю». У вачах Парфіяновіча ён прыкмеціў слёзы і вырашыў, так сказаць, прыглядзецца да іх. Памаўчалі. Не націскаў на гутарку. Прадчуваў, што праціўнік пахіснуўся ў сваёй устойлівасці, і таму не варта траціць сілы на яго дабіванне: сам паваліцца! Допыт ужо выглядаў на заклапочаную гутарку бацькі з сынам.

«Тут смерць ці ў Сібіры...»

«Вы малады чалавек, і таму не павінны паміраць. І вашы сябры. Вам жа патрэбны жывыя, а не мёртвыя прыхільнікі ідэі...» — Палкоўнік падбіраў «ключ» да, як яму здавалася, ужо апошняга замка, адамкнуўшы які даволі было толькі хутка дзейнічаць. З імклівасцю злодзея! Углядаўся ў Парфіяновіча. Той раптоўна заплакаў. Гідзіўся ён мужчыны, які сядзіць ды плача. Таму загаварыў, нават не думаючы: «Я разумею вас, і, паверце, мне невымоўна прыкра...»

«Вам — прыкра? Жартуеце!»

«Абражаеце мяне...— Палкоўнік апусціў галаву, дастаў насавую хустачку, выцер вочы, у якіх — на дзіва! — таксама паявіліся слёзы, нейкія такія безназоўныя, скамарохаўскія. Высмаркаўся. Глухім голасам дадаў: — Я, вядома, не маю права абражацца...»

«Вы зможаце гарантаваць...» — Парфіяновіч не дагаварыў: «жыццё». Паглядзеў знізу: на мундзір, на каўнер, бараду, нос. У вочы ён не паглядзеў. Згас.

«Поўнасцю»,— Лосеў сказаў гэтае слова тым жа спакойным барытонам, добра пастаўленым, добразычлівым, салідным. Без хібінкі. Пачуўся, як бы толькі што раздалі карты і ён трымае ў руках козыр! Каб не пераспяшаць, пачакаў малую хвілю. «Чалавек наогул, а інтэлігентны ў асаблівасці, заўсёды шукае надзейнага сэнсу свайму існаванню ды ўчынкам. У нашай жа практыцы галоўнае заключаецца ва ўказванні на іншы, яшчэ болей надзейны сэнс — у адпаведнасці з сітуацыяй...»

«Запішыце: матэрыялы — ад Вітажэнца. Жыве ён у Вільні, у Святаянскіх мурах. Усё!»

«Усё?»

«Усё».

«Вы пазналі б яго?»

«Не. Ніколі добра не бачыў я Вітажэнца. Сустрэчы з ім — тры — адбываліся ў пахмурныя ночы, на могілках, што на віленскай Замкавай гары, ля заходняй сцяны вежы Гедыміна».

«Пароль і водзыў?»
«Гэта ўжо залішне, палкоўнік».
«Наадварот, пан Парфіяновіч: вы яшчэ не далі мне галоўнай магчымасці добра задзейнічаць».
«Пароль: Чалавеча добры, я хіба заблудзіўся? Водзыў: Вы не заблудзіліся».
«Дзякую».
«Будзьце праклятыя!»
«Цікава, хто з нас — страшнейшы?!»
Парфіяновіча расстралялі. Ганаровая смерць, гэта не так ужо мала. Зрэшты, шмат скарыстаў ён: меў цэлы месяц пэўнасці ў тым, што застанецца жывы! За гэты час палкоўнік дапытаў яго два ці тры разы, але без істотных вынікаў.
Асочванне могілак на Замкавай гары аказалася безвыніковым. Пасля такіх масавых арыштаў, відаць, былі зменены яўкі. А ў Святаянскіх мурах пражывала некалькі асоб і сем'яў з прозвішчам Вітажэнец. Праўда, падчас чарговага допыту Парфіяновіч паведаміў, што пад прозвішчам Вітажэнец хаваецца сам Кастусь Каліноўскі, аб якім усе паліцмайстры ў Беларусі крычалі, што гэта ён з'яўляецца правадыром паўстання. Аднак жа, апрача прозвішча, нічога канкрэтнага не ведалі аб гэтым чалавеку. Нават і таго, ці сапраўднае яно? Дарэчы, Парфіяновіч зноў неяк зацяўся і толькі плакаў... Асобы з такім характарам, з перавагай эмацыянальнасці над разважлівасцю, не дабіваюцца многага ў сваім асяроддзі; яны, як правіла, плоткі!
Ніводзін з віленскіх Вітажэнцаў не выклікаў падазрэнняў. У некаторых сышчыкі выявілі нейкія паўлегальныя гандлярскія камбінацыі. А да Вітажэнца, які яшчэ кавалер, заходзяць прыгожыя дзяўчаты, найчасцей дзве — кожная з іх у розны час. Хто ведае, ці не дзеля распусты...
«Паспадзяваўся дзед на мёд, ды лёг спаць не еўшы»,— пакпіў з сябе палкоўнік Лосеў, маючы на ўвазе допыт Парфіяновіча і вынікі яго. Пацёр зmoranыя вочы, падышоў да ўмывальніка і халоднай вадою абмыў твар, намачыў карак.
Усё яшчэ не знаходзіў ён канцэпцыі для задуманай аперацыі.



## 2

Увечары ў дзверы кватэры Марыі Грыгатовіч, што жыла на Зарачанах, пастукаў мужчына.
— Хто там?
— Я,— адказаў.
На парозе паказалася зграбная жанчына.
— Пан Макарэвіч! — усцешылася яна не толькі дзеля гасціннай ветлівасці.
— Добры вечар.
— Добры вечар. Проша ў дом.
Не адразу прайшоў ён у пакой. Зачыніўшы за сабою дзверы, нерухома застыў ля іх: недзе пабрэхваў сабака, а на вуліцы выкрыкваў сваё падхмелены Ёсель, скупшчык шматаў і старызны.
— Здарылася што?
— Не,— адказаў ёй. Усміхнуўся неяк з дакорам: — Пані Марыя, вы забываеце аб канспірацыі.
— Ах, не сарамаціце мяне — папраўлюся!
Марыя Грыгатовіч нарыхтавала гарбаты, дастала з крэданса пернікаў і цукерак. Усё гэта яна расставіла на стале так, быццам сабралася частаваць свайго кавалера... Жартавалі і смяяліся; ён прыкмеціў, што весялосць даецца Марыі цяжка. Падумаў: «Жанчына не вытрымлівае канспірацыі. Ёй патрэбны спакой, хоць на тры — пяць месяцаў. Але перад гэтым выканае адно заданне. Яго выкананне можна даручыць толькі ёй. Вытрывае».
Нахіліўся ў яе бок і зашаптаў:
— Пані Марыя, маем да вас просьбу...

На яе твары адбіўся страх.

— Ведаю, вы змучыліся. Аднак, трэба, трэба, Марыся...

Заплюшчыла вочы.

— Добра,— каўтнула сліну. І загаварыла: — Частуйцеся, калі ласка: гэта хатняга вырабу...

Падсунула яму сподачак з піроЖным. Яе рука злёгку дрыжала. Быццам прыкмеціўшы тое, Марыя Грыгатовіч малавеле не ўпусціла сподачак на стол. Раптоўна паставіла яго перад ім ды замаўчала.

— Вельмі смачныя,— Макарэвіч хваліў піроЖнае, злуючы на сябе, што занадта паспяшыў з гутаркаю. «Дзяўчына саромеецца свайго страху ды, адначасова, не можа пазбыцца яго,— падумаў ён.— Яе нервы, відавочна, аслаблены мацней, чымсьці мне здавалася. І ўсё ж ніхто іншы не здолее выканаць такога даручэння».— Ведаеце, быў я ўчора на кірмашы і чутанькі не трэснуў са смеху, калі...— паглядзеў на яе, каб расказаць анекдот, развесяліць, і зразумеў, што было б гэта нетактоўна: яна чакала сур'ёзнага. З адчайнасцю! — Ну так... Дык вось што, пані Марыя, праз тры дні, калі не прыкмеціце нічога падазронага, паедзеце цягніком у напрамку Варшавы. За Гроднам будзе чыгуначная станцыя Саколка, за ёю — паўстанак Чарновесь. Перад гэтым паўстанкам знаходзіцца гара, пад якую цягнік едзе надта павольна. У тым менавіта месцы выскачыце з вагона. Пераапранутыя за вясковую дзяўчыну, не звернеце на сябе асаблівай увагі — пасмяюцца з вас, дый годзе. Налева ад гэтай гары ўбачыце хатку. Далей — лес. Ваколіцу завуць Махнач. Зойдзеце ў тую хатку ды запытаеце, дзе тут жыве знахар, што варожыць пра каханне. Тады запросяць вас паесці з дарогі. Вы павінны сказаць: «А ці не бачылі майго Яську, гаспадара з-пад Вільні?» Адкажуць вам: «Быў, але даўно». І завядуць вас да другога нашага чалавека, якому пакажаце вось гэты знак,— ён падаў Марыі старадаўнюю сярэбраную манету Вялікага княства Літоўскага. На ёй — адціснуты герб Пагоні.

— Гэта ўсё? — як бы не верачы.

— Так, гэта ўсё. Што далей рабіць, скажуць вам на месцы.

Калі выйшаў ад Марыі Грыгатовіч, не мог пазбыцца адчування, што хтосьці сочыць за ім. Прыліп да яго плячэй чыйсьці позірк!

Макарэвіч неспадзявана спыніўся, нахіліўся, каб перавязаць шнуроўку туфля. Гэта быў адзін са спосабаў, які дазваляў непрыкметна акінуць вокам вуліцу за сабою; была пустая. Пахадзіў па завулках, асцерагаючыся патрулёў.

Нябачныя вочы зніклі.

Вярнуўся ён дамоў перад дзесятай.

Прыблізна ў той жа час палкоўнік Лосеў таксама збіраўся ісці дамоў, але — як гэта здаралася з ім — перад выйсцем, ужо з шапкаю на галаве, ізноў вяртаўся да прачытанага. Развязаў ён нанава папку з сакрэтнымі дакументамі і ўставіўся ў свежы данос аднаго з агентаў, які паведамляў, што ў Вільні ўтварыўся паўстанцкі Беларуска-Літоўскі Чырвоны ронд. Яго асабовы склад і кіраўніцтва пакуль невядомы. Выязджае на Гродзеншчыну спецыяльны кур'ер ронда, якога імя і прозвішча захоўваецца ў строгай таямніцы. Праўдападобна, будзе гэта жанчына...

Лосеў усеўся ў фатэль і без спеху даставаў з папкі рапарты сышчыкаў і агентаў, раскладваў іх на пакрытым сукном стале. Каб не мундзір на палкоўніку, можна было б падумаць, што гэта адзінокі мужчына бярэцца раскладаць пасьянс. Прымерваўся, раздумоўваў. У ягонай сканцэнтраванай свядомасці ледзь бачным агеньчыкам замільгацеў трывожны сігнал недзе з ваколіц Саколкі... Адтуль ужо з некаторага часу няма доб-

рай, аператыўнай інфармацыі. Саколкаўскі паліцмайстар — гэта нейкая няўдаліца, ці што?! «Абавязкова трэба дакладней прыглядзецца да таго ўезда ды ўвогуле да беластоцкага напрамку»,— зрабіў заключэнне палкоўнік.

### 3

Уладак Прончык сек дровы, калі прыйшлі да яго і сказалі:

— Здрастуйце! — па-руску.

— Добры дзень,— адказаў ён на прывітанне.

— Заўтра к паліцмайстру, у Саколку,— сказалі яму.

Прончык спалохаўся. Потым перапалох перайшоў у злосць; адвячоркам ён пасварыўся за нішто з жонкаю. У галаве па-чмялінаму гулі здагадкі. Чаго паліцыі трэба ад яго?

Пракаратаў дацямна — задаваў корм жывёле.

Ад Чортавага лугу клубаваў туман з-над цёплых затак.

Прончык прытаіўся пад страхою хлява: у суседа Радаля заўзята брахаў сабака, пакуль не накрычаў на яго, відаць, сам гаспадар. Да іх хтосьці прыйшоў, але ў вокнах хаты — цёмна. Мо які ўцякач?

Ногі даймаў мароз. Стаўшы на вязку саломы, ён адчуў палёгку, варушыў пальцамі ног. Шамацелі мышы. Прызвычаіўшы зрок да цемры, Прончык прыглядзеўся да кожнага слупіка, да кожнага дрэва, вугла, улоўліваючы найменшы шолах або рух за панадворкам, на вясковай вуліцы, на суседскіх загуменнях. Нідзе нікога! Меў ён план: цераз вішнёвы зараснік пойдзе ў рэдкалессе, што за полем, далей — у лес. Нельга выходзіць на прастору. А каб не скрыпеў снег пад нагамі — не ступаць трэба, але сунуцца, быццам на лыжах, падэшвамі шаруючы па зямлі; неглыбока, плытка.

Пайшоў да лесніка Адама Вільдовіча.

Той ужо спаў.



— Што сталася, Уладак? — маўклівы твар Прончыка ўстрывожыў яго.

— У Саколку клічуць.— Прончык цяжка сеў на лаву ў куце. Ад яго дыхнула трывогаю. Вытлумачыў: — Паліцмайстар кліча...

— Сабакі! — Вільдовіч сеў побач.

Прончык, усё роўна што пранёсшы мяшыска сырога жыта, адпачываў. Вільдовіч устаў, ціха ўстаў, ажно Прончыку зрабілася сцішнавата ад такой асцярогі.

— Пагляджу на двор.

— Сядзь, нікога няма.— Прончык мо з гадзіну не падыходзіў пад хату Вільдовіча.

— Ты — кудою ішоў?

— Зараснікам, ад Чортавага лугу.— І ён расказаў падрабязней: — Цераз багоннік, ускрай бяздоніцы...

Ляснік памкнуўся да печы, каб запаліць лучыну. Дурная звычка! Сеў назад. Зусім блізка мармытаў праз сон кот; гукала сава за садком.

Гутарку вялі яны папоцемку.

— Ад таго часу, калі нашыя забілі Панкевіча, паліцыя нічога не ведае пра паўстанцаў,— разважаў Вільдовіч. Голас яго дранцвеў.— Паліцыя наогул ведае столькі, колькі ёй хтосьці скажа або данясе...

— Думаеш — хтось падаткнуў язык на мяне? — Прончык неспакойна варухнуўся.

— Хто яго ведае...

Вільдовіча асмаліла здагадка, ад якой перасохла яму ў горле. Збаяўся выказаць яе ўголас. «Аднак жа трэба сказаць гэта Прончыку, трэба папярэджваць здарэнні,— мітусіліся ў ім думкі.— Нельга жыць, нікому не давяраючы».

Сказаў Прончыку:

— Паслухай, Уладак. Справа, здаецца, будзе тут у нечым іншым. Ці ты чуў калі, каб паліцмайстар клікаў каго да сябе, каб арыштаваць?..

Дакончыў Прончык:

— Хочуць зрабіць з мяне шпега?! — тут жа здагадаўся ён і моцна засоп — захваляваўся.

— Можа, памыляемся, але ты павінен быць гатовы на ўсялякае. Думкі паліцыі — таемныя ды хітрыя,— засмяяўся Вільдовіч.

Стала лягчэй. Прасторней.

— Што мне ў такім выпадку рабіць?

— Уладак,— Вільдовіч падсеўся бліжэй,— будуць пытаць цябе пра паўстанцаў — не пярэч, што не бачыў іх, бо гэтым адразу выклічаш падазрэнні да сваёй асобы... Кажы ім праўду, але такую, каб нікому не зашкодзіць. Перш за ўсё ты пазбягай называць прозвішчаў або дакладных звестак. Ты павінен рабіць уражанне таго чалавека з пачцівай душою, які вельмі мала ведае... Тады, бадай, паспрабуюць завербаваць цябе на супрацоўніка, так сказаць, на пробны час. Не адмаўляйся ад тайнага супрацоўніцтва з паліцыяй, згаджайся, але памятай аб адным: не падпісвай, чуеш, ніякіх паперкаў. Ніякіх! Памятай: згаджайся — і не падпісвайся! Найлепшым выйсцем з гэткай сітуацыі, здаецца, будзе рабіць з таго ганаровую справу...— Вільдовіч выказваў дапушчэнні.

«Добра табе раіць, калі ты не ў маёй скуры»,— незнарокам падумалася Прончыку.

Ён вярнуўся ад Вільдовіча з тупым болем у галаве. На досвітку рушыў у Саколку. Не даходзячы да яе, у Куроўшчыне, перапыніў яго казацкі патруль. Былі гэта маладыя хлопцы, якія, відавочна, сумавалі без справы.

У Саколцы, ля канцылярыі паліцыі, стаяў вартавы.

— Куды?

— Паліцмайстар клікаў.

— Ага,— вартавы перастаў хмурыцца.— Пачакай.

Прывёў ён жандара.

— Ідзі за мною,— адрэзаў жандар Прончыку.

Прончык увайшоў за ім у цёмны, як нара, калідор. Паабапал — дзверы, за якімі, здавалася, толькі вечнасць. Зайшлі ў на дзіва светлы пакой з мяккімі крэсламі, круглым сталом, дыванам пасярэдзіне падлогі. З-за нізкага пісьмовага стала падняўся хударлявы малады афіцэр з адкрытымі вачыма, як у няверных жонак, ветлівы.

— Хвілiначку, калі ласка,— звярнуўся той да Прончыка, як бы аб усім ведаючы.

Ён падышоў да бакавых дзвярэй і далікатна пастукаў. Пачуўшы запрашэнне ўвайсці, нырнуў туды, пакідаючы за сабою напарфумаваныя словы. «Ужо прыйшоў»,— сказаў там да кагосьці. Да паліцмайстра?

За плячыма Прончыка пазяхаў жандар.

Неўзабаве запрасілі яго ў кабінет. Паліцмайстар, мажны мужчына з мужыцкімі хітрыкамі ў позірку, падаў яму руку.

— Сядайце, калі ласка, пан Прончык.

Крэслы з чырвонай матэрыі.

— Дзякую, пан паліцмайстар.

— Сядайце, сядайце...

— Дзякую,— Прончык сціпла сеў на беражку крэсла, каб не папэцкаць мэблю.

— Курыце? — паліцмайстар паднёс залочанае пудэлачка з цыгаркамі.

— Дзякую, не куру.

— Добра робіце. Курэнне — гэта дурная звычка,— пахваліў Прончыка.— Можна сказаць, грэшная! Так, людзі нашага часу надта схільныя да разбэшчанасці, да клапатлівасці аб раскошы і лёгка забываюцца аб сваіх недасканаласцях. Грашаць і грашаць! — паліцмайстар ведае, што гаворыць ён з рэлігійным чалавекам.— Я таксама кідаю курыць, жонка настойвае на гэтым і мае рацыю! Жонку трэба шанаваць і любіць: ад яе залежыць шчасце сям'і. Так, шчасце сям'і — вялікая справа...— паліцмайстар ведаў таксама і аб тым, што Прончык нядаўна ажаніўся.— Мы, мужчыны, недаацэньваем таго.,,

З Прончыкам гаварыў чалавек, у якога адна мэта ў жыцці: каго і як акруціць?! Пазаўчора снілася яму, што самога цара ўдалося зрабіць сваім «стукачом», падноскам. Цар плакаў, цалаваў паліцмайстру боты, прасіў і маліў, каб ён захаваў у таямніцы адзін дробны факт, зусім дробненькі факцік, выяўленне якога асмяшыла б яго, знішчыла б! Паліцмайстар хоць раз выкрычаўся на цара, выліў на яго ўсю сваю жоўць: «Ты думаў, што паліцыя — гэта дурні?! Гультаі?! Няўмекі?! Бачыш, як непрыкметна ты, цар, апынуўся ў нашай кішэні? Запамятай, пыхлівец: няма такога чалавека на свеце, з якога нельга было б зрабіць анучу! Досыць паскрэбці палітру сумлення кожнага... Гэта так, цар мой!»

О, прыкры сон!

Цяпер паліцмайстар схамянуўся, што твар цара быў тварам Прончыка, гэтага абмужычэлага шляхціца. «Нічога, я прыцісну цябе так, што не выкруцішся з маіх рук! Замаладая ў цябе жонка, каб ты мне тут акунём хадзіў, братка...» — паліцмайстар не скончыў, бо адчуў, што Прончык гатоў гаварыць. Лісліва ўсміхнуўся да яго, заахвочваючы.

Прончыку ўспомнілася ўчарашняя сварка з жонкаю, і ад таго зрабілася яму няёмка. Пры гэтым паліцмайстар пазіраў на яго, быццам дабрадушны святар у часе споведзі; трэба ж было нешта адказаць яму. Пацвердзіў, што віна мужоў перад жонкамі сапраўды немалая. Яны, нярэдка без дай рацыі, руйнуюць асабістае, а таксама і сямейнае жыццё, кіруючыся, пераважна, пустымі прычынамі. Найгоршае ва ўсім гэтым — пакутніцтва дзяцей! Ні ў чым не вінаватых. «Сваркі, бы зладзейства, пачынаюцца з глупства. Зусім з глупства»,— думаў Прончык.

Прыблізна падобны настрой меў і паліцмайстар. Але яму было гэта ўжо не ўпершыню.

— Та-ак,— уздыхнуў ён і задаволена адзначыў сабе: «Спяваеш па маіх нотах, браце. Паспяваем сабе далей».



Набраўся гневу: — Чулі вы: не так даўно ў Востраве разбандычаныя шляхцюкі гвалцілі маладзіц і дзяўчат. Кажуць, што гэта паўстанцы... Я не веру ў тое: паўстанцы — высакародныя людзі, яны ідуць на смерць за ідэю, страляюць бандытаў таксама як і мы, законная ўлада...

Адчынілі дзверы — прынеслі чай. Як знарок, у неадпаведную хвіліну. Амаль з бестактоўнасцю.

Паліцмайстар дастаў бутэльку з ромам. «Добра будзе выпіць з чаем, дапамагае ўнікаць застуды»,— растлумачыў ён Прончыку. «Дзякую, але я не п'ю»,— адняквоўся Прончык.

— Выбачайце,— па-гасціннаму бянтэжыўся паліцмайстар.— Вы з'яўляецеся ідэальным мужам. Мая жонка, калі б чула гэта, зайздросціла б вашай. Факт, спіртныя напіткі шкодзяць здароўю ды, здараецца, даводзяць яны і да граху...

Бутэлька засталася. Стаяла яна на стале, як бы на ўсякі выпадак. У якасці як бы своеасаблівай аздобы гэтай дзіўнай сустрэчы, дзіўнай гутаркі са слоў, нарастаўляных, быццам шахматныя фігуры перад пачаткам гульні.

Саладзілі і пілі гарбату, смакавалі піроaccess.

— Мы не дапусцім да разбою ў нашым уездзе,— паліцмайстар выцерся сурвэткай.— Бандыты будуць схоплены і пакараны паводле ўсяе строгасці закону,— перавёў ён дух.— Лепшыя людзі з народа дапамогуць нам, паліцыі, у выкананні ўскладзеных на нас грамадствам адказных абавязкаў захавання ладу ды бяспечнасці...

Прончык ведаў: у Востраве была спроба згвалтавання дзяўчыны трыма п'янымі шляхцюкамі — з ваяводскага штабнога атрада Духінскага. Цёмная і ганебная для паўстання гісторыя!

— Бандытаў — лавіць і вешаць!— выкрыкнуў Прончык, ажно здзівіўся сам з сябе. Абурэнне далося яму лёгка: сам Духінскі прымусіў шляхцюкоў публічна пра-

сіць прабачэння ў цэлай вёскі! Не было жартаў! — Лавіць і вешаць!

— Во, во! — з імпэтам падтрымаў Прончыка паліцмайстар.— Трэба выкараніць гэту ганьбу чалавечага роду!

Астывалі.

— Але тут я вымушаны сказаць вам, пан Прончык, непрыемнае нам, паліцыі,— ён апусціў перад ім вочы, як добры сябар, які просіць зразумець яго.— Мы, як паліцыя, натыкаемся на некаторыя цяжкасці ў выкананні сваіх грамадска-карысных абавязкаў. І, скажу вам пашчырасці, нашы жандары яшчэ не дараслі да пастаўленых перад імі задач. Ну, яны — прасцяцкія людзі...— паліцмайстар скрывіўся ў паўслове: пагарджаў жандарамі, іх тупалобасцю. Прончык — шляхціц; бедны, але шляхціц.— Вось такія ў нас справы, пан Прончык.— Было ўражанне, што ад крыўдавання паліцмайстар расплачацца перад ім.— Я, ведаеце, шмат думаў, пакуль наважыўся непакоіць вас сваім запрашэннем на гутарку.— І прыклеіўся да яго зрокам: — Я, пан Прончык, моцна прашу вас: дапамажыце нам! Наш дэпартамент і я, асабіста, будзем вельмі ўдзячны вам. Вельмі!

— Ахвотна.

— Непакоіць, ведаеце, бандыцкі выбрык у Востраве,— цэліўся ён у дзесятку.— Народ справядліва абураны...— паліцмайстар пачуўся да таго ж добра, што схапіў бутэльку з ромам. Паўстрымаўся. І па-сяброўску, з сардэчнай дружалюбнасцю: — Нам, пан Прончык, патрэбны прозвішчы тых бандытаў і іх адметныя рысы. Разумееце? Рэшту мы хутка высветлім: маем тую перавагу над злачынцамі, што за намі стаіць магутная арганізацыя, якая не надта прыгожа завецца паліцыяй...

Прончык перабіў яго.

— Калі толькі што даведаюся — неадкладна з'яўлюся да вас! — выпаліў ён з зацятасцю.



Дамаўляліся.

— Прашу не лічыцца з коштамі. Дзеля справядлівасці не шкада грошай. Мы дадзім іх вам,— паліцмайстар адчыніў шуфлядку і з прыкметнай гатоўлівасцю выклаў адтуль некалькі дзесяцірублёвак. Ягоны голас гучаў перапрашальна: — Патрэбна, пан Прончык, дурная фармальнасць: квітанцыя на гэту суму,— растлумачыў ён скорагаворкаю, быццам які камбінатар.— Ведаеце,— гэтае «ведаеце» гучала ў яго па-братэрску,— ведаеце, бюракратыя і ў нас. Усюды поўна яе, усюды бухгалтары; сварыся я з імі, ведаеце, ды нічога не зробіш... Падпішыце квітанцыю псеўданімам, напрыклад, Шуляк або ў гэтым родзе. Так прынята.— Вочы яго ўсё круціліся ад няўпэўненасці.

— Пан паліцмайстар,— Прончык сказаў нясмела, злёгку абражана,— грошы я маю, не хачу рабіць лішніх выдаткаў для паліцыі.

— Усё-такі дзеля якой рацыі вы павінны выдаткоўвацца? — Павучаў: — Мо давядзецца вам спаіць каго з бандытаў або гутарыць з імі пры гарэлцы, якая, ведаеце, развязвае языкі. П'яныя шчырэюць. На тое патрэбны грошы, іншы раз і немалыя. А нам, паліцыі, гэтых некалькі дзесяцірублёвак, ведаеце, чыстае глупства.

— Не, не вазьму. Мне сумленне не дазваляе. У мяне сапраўды ёсць грошы.

— Вазьміце,— паліцмайстар нахіліўся.— Грошы гэтыя, так сказаць, нічые: ёсць каса, ёсць і грошы! — ён жартаўліва засмяяўся.

— Я не заслужыў іх.— Прончык разлічыў: «Што я пляту яму?! Я ж і рублём не смярджу! Ой, якое гэта бясхітрае маё круцельства...»

— Заслужыце, пан Прончык. З часам заслужыце,— паліцмайстар даў маху, Прончык гэта выкарыстаў.

— Прапануючы мне грошы, вы, прабачце мне за шчырасць, абражаеце маё пачуццё абавязку перад Ра-

сійскай імперыяй! Маё пачуццё гонару прымушае сказаць вам гэта...

— Вы, мабыць, палічылі маю прапанову за спробу платы? — сказаў паліцмайстар са шляхетным здзіўленнем.— Гэта непаразуменне, да якога нам нельга дапусціцца. Грошы павінны вам толькі дапамагчы.

— Калі будзе патрэба ў іх, я сам папрашу ў вас патрэбную суму,— сказаў Прончык.

— Я не хацеў вас абразіць, пан Прончык,— разгубіўся паліцмайстар.— Лічыў, што прапаную вам дапамогу дзяржавы ў грамадска важнай справе... У нашых добрых намерах...— Дзесяцірублёўкі ён згроб назад у шуфлядку. Думаў: «Не будзе распіскі Прончыка, не будзе і ўлады над ім. Паспрабуем падкінуць яму нейкую чужую рэч, чужую ўласнасць і навінчваць справу аб зладзействе. Папросіць ратунку — тады пастаўлю яму свае ўмовы. Цвёрда пастаўлю, без далікацтва...»

— Пан паліцмайстар, як толькі я даведаюся што наконт тых бандытаў, дык адразу данясу вам,— ветліва і не без спеху развітваўся ён.

— Маю надзею, пан Прончык, што мы добра разумеем адзін другога,— гаварыў паліцмайстар. Ён страціў настрой. Злаваў: «А тут яшчэ нейкі кур'ер ад паўстанцкага цэнтра ў Вільні кіруецца сюды... Што мне адпісаць Лосеву аб аператыўнай гатоўнасці і аб стане агентурнай сеткі?»

— Я такой жа думкі, пан паліцмайстар.

— Прабачце, што займаю ваш час...

Калі паліцмайстар застаўся адзін, прамармытаў:

— Хітрая сволач! — і пачухаў патыліцу.

## 4

Адаму Вільдовічу заставалася падшукаць месца на патайнік, у якім трэба будзе хаваць запасы надрукаванай «Мужыцкай праўды» — мо нават разам з падручнай друкарняй. У выпадку, калі паліцыя выявіць дагэтулешнюю друкарню газеты, дык запасаў паасобных яе нумароў павінна хапіць надоўга. Да часу заснавання новай друкарні.

За гушчэчай Копнай гары знаходзіцца мясціна, аб якой Вільдовіч зараз думаў. Бадай тры гады таму назад, у пачатку восені, ён трапіў туды даволі выпадкова — упаляваў ліса. Чарнаводная Сакалда ў гэтым месцы разлівалася ў балотную затоку пад гарою, страміна якой, быццам прыплюшчанае вока, была заслонена пахілымі ялінамі ды соснамі, што пагорбіліся ад вятроў. За абрыў ушчаперыліся ядлоўцы, заўзята і густа чапляючыся карэннямі, у махравіну якіх выройваліся камары, знаходзячы пад імі змрок і пахі гнілі. Калі стаяць на другім, супроцьлеглым, беразе дрыгвяністай даліны ракі, дык гэтае месца жаўцее лапамі пяску на падабенства якогасьці вялізнага дапатопнага звера, што не змог вылезці з-пад буйнай зелені і сканаў на парозе прасторы.

Вільдовіч памятае, што ліс паказаўся, бы з-пад зямлі, нечакана, і недзе з-над абрыву. Забіты з першым стрэлам, ён ссунуўся за ядлоўцы. Вільдовіч пабег за ім і там раптоўна праваліўся аж па пахі. З перапуду мёртва трымаючыся за якісьці пянёк, да крыві калечачы далоні, з жахам адчуваў, што яго ногі звісаюць так, як бы сабраўся злазіць з гарышча, ды аказалася, што хтосьці забраў лесвіцу! Нешта абвальваючы пад сабою, увесь змакрэлы ад поту, Вільдовіч шчасліва выпаўз у траву і мох і, паглядзеўшы ў праваліну, далёка ўнізе ўбачыў ваду ў водарасцях; ліс ляжаў у глыбокай пасцелі з трыснягу ды блішчастага аеру.

Адышоўся адтуль. Дрыжалі ў яго рукі і трымцела ўвачччу. Колькі часу шукаў стрэльбу.

Да страміны нельга дайсці ад лесу; можна даплысці да яе цераз затоку, ведаючы напрамак. Відаць, дзесьці там ліс і меў нару, якую цяпер варта было б абгледзець,

ці не прыдасца яна на схоў. Выняты з яе пясок можна смела скідаць у муць, а бярвенні для мацунку і сценаў падвозіць лодкаю... «Але наколькі надзейнае гэта месца ўзімку, калі ўсё сцісне мароз? — трывожыўся Вільдовіч.— Аднак жа ў гнільных глыбінях павінны быць цёплыя віры або і крыніцы. Дзякуючы ім збудаваны ў абрыве патайнік заставаўся б недаступным на працягу цэлага года!»

Цяпер, у студзені, мог ён праверыць свае здагадкі. Выбраўся туды.

Працягваючы лясніцкае асочванне, вандраваў ён уздоўж замёрзлай Сакалды. Адвячоркам зайшоў у Лазнёўскі бор, каб адпачыць і заначаваць там. Вышукаў малады ельнік, густы, каб раскласці ў ім бяспечны агонь — напячы рыбы, павячэраць ёю ды падрамаць на пасцелі з галінаў, спінаю да полымя.

Лес чарнеў, і шчаслівелі зоркі.

Вільдовічу прыснілася, што жандары атакуюць ягоную хатку, рагочуць і здалёку крычаць: «Мы пра ўсё ведаем... Пра ўсё ўсянюткае. Здавайся! Твая смерць пазбаўлена сэнсу...» Прачнуўся ён увесь у дрыжыках.

Вогнішча згасла. Сляпілася ў ім адно вуголле.

У пушчы нешта здарылася. Вільдовіч, абеспрытомнены сном, адразу нават прыблізна не змог вызначыць прадчування, якое ахапіла яго.

Прыгледзеўся да елачак.

Да ягонай цверазеючай сосну памяці даляцела далёкае гуканне пугача, гуканне своеасаблівае: раз кароткае, раз доўгае і тры кароткія...

«Гэта Прончык!» — Вільдовіч усхапіўся.

Засыпаў снегам галавешкі, сабраў манаткі, аднак жа накіраваўся ён не ў бок сігналу Прончыка.

У хвойніку завыў воўк. Неяк перасцерагальна.

Вільдовіч міжволі скінуў з плячэй стрэльбу. Узыходзіў месяц, нема асвятляючы звярыныя сляды. Стары лес кончыўся, наперадзе — альшынавыя зараснікі. За імі — нізкія кусты, цэлыя гнёзды кустоў, і дзе-ніздзе пашыбенічнаму высіўся пакірачаны сухастой: Дзеразінскія багнішчы.

Ляснік прысеў за елкаю.

Сапацяць баюры, над якімі сцелецца сцюдзёны туман, быццам дым ад спрадвечнага агню — мо тысячы гадоў! Блізка залапатаў крыламі лясны арол — няйначай, спрасонку.

Вільдовіч падкраўся да купіны акалелага лазняку: снег чысты, нават і без заячых слядоў. Адсюль пачынаецца адзіная сцежка да выспы, якую ляснік адкрыў летам, перад жнівом, калі казакі неспадзявана атакавалі паўстанцкі лагер; накінуліся яны хмараю на жменю паўстанцаў. Вільдовіч тады, узваліўшы на плечы параненага Макарэвіча з Беластока, палез у дрыгву. Свісталі кулі. Ён брыў штораз глыбей, хапаючыся за мізэрныя кусцікі, якія вырываў са жмутамі дзікай травы. Усё роўна бы на пустыні маячылі дрэвы, бязлітасныя ды мёртвыя, якія рассыпаліся ў спарахнелы пыл ды валіліся, калі спрабоўваў ён абаперціся аб якое з іх. Макарэвіча параніла няцяжка, і Вільдовіч, выламаўшы алешыну, вытузнуўшы яе з карэннямі, паклаў яго на пруткае голле ды пацягнуў далей. На выспу прыйшлі, калі ўжо зусім пацямнела. Прасядзелі на ёй мо з тыдзень... А ўвосень схавалі там друкарню «Мужыцкай праўды»; перавезлі яе з-пад Верхлесу. У леснічоўцы Клін надрукавалі апошні, сёмы, нумар газеты. Быў верасень.

Макарэвіч больш не з'явіўся.

Вільдовічу чамусьці ўспомніліся губы Макарэвіча, поўныя дабрыні і адначасова — зацятасці! Ён не стагнаў, калі быў пры памяці. На выспе, лечачы яго ўсялякім зеллем, Вільдовічу вельмі хацелася пагутарыць з незнаёмцам, але той не даў яму на тое найменшай прычыны. Відаць, што добры ён чалавек, ахвярны для справы і, вядома, адпаведна асцярожны. Крыху дзіўны! Не тое што асцярожны ён, але дзіўны...

Ляснік шчыльней усеўся за купінаю: ззаду пачуўся скрып снегу, хутканогі, не воўчы. Пад ласём?

Людскіх слядоў ля Дзеразінскай пустэчы не было, і ён, як бы павесялелы, рушыў у напрамку Ліпавага Моста. Гэта там чакае яго Уладак Прончык.

Ішоў прагалінамі, па неглыбокім снезе. Часамі, наступіўшы на галінку, нерухомеў, бы заяц пасля бегу, і — падняўшы нагу — паглядваў навокал, куды гэта ступіць, каб і кроку свайго не пачуць?.. Наткнуўшыся на навіслае голле, пад якім немагчыма прайсці хілком, браў яго аберуч і адхіляў так, што не абсыпаў шэрані. У цішы чуў шолахі пушчы: тупат дзікоў, пранырлівага аленя, піск перапуджанага зайца, цурчанне крынічкі. З паляны, на якую якраз выйшаў, мільгануў звярыны цень; да Ліпавага Моста ўжо блізка.

Запахла свежым хлебам. Забрахаў сабака і, захліпнуўшыся, сціх. Азваўся пугач, той самы, амаль над галавою! Ляснік спыніўся, стрэльбу закінуў на плячо, далоні прытуліў да рота ды завыў па-воўчаму тры разы, пасля чаго адступіўся пад цёмную яліну, стаіўся там.

З недалёкага дрэва хтосьці ссоўваўся на зямлю, патрэсквала кара. Неўзабаве Вільдовіч убачыў Прончыка і, каб падаць яму кірунак, запішчаў па-зайчынаму.

Прончык падышоў да яго. Сказаў шэптам:

— У акне сохне палын.

— Ніхто не круціцца паблізу? — спытаў яго Вільдовіч.

— Не відаць.

— Калі прыкмеціш небяспеку, завый па-воўчаму: раз доўга і раз коратка.

Прончык, узяўшы для непазнакі вязку галля, вярнуўся дамоў гасцінцам. Вільдовіч жа — яму вядомымі сцежкамі ды пераходамі.

Не адразу ўвайшоў ён у сваю хатку; засеў на ўскраіне маладняку і праз добры кавалак часу асочваў ваколіцу. Бачыў, як па садку скакаў заяц, нічым не ўстрывожаны... Неблагая прыкмета бяспечнасці.

У хатцы нехта чакаў Вільдовіча.

## 5

Яшчэ раніцай палкоўнік Лосеў выслаў шыфраваную дэпешу паліцмайстру ў Саколцы. У ёй указваў на тое, што «Мужыцкая праўда» друкавалася, відаць, недзе ў мясцовых лясах, а не ў Беластоку, як гэта меркавалася раней. У канцы дэпешы палкоўнік пісаў:

«Перадайце важнейшыя агентурныя звесткі. Што з аб'ектам Ікс?»

Перад дзевятай Лосеў атрымаў новыя даныя, якраз ад таго ж агента, які дзейнічаў марудна, але, як дагэтуль, цэльна. Паводле яго ацэнкі кур'ерам Беларуска-Літоўскага Чырвонага ронда будзе жанчына. Дакладных звестак ён не прынёс, але чуў, як у групе знаёмых яму канспіратараў, што выконваюць якіясьці заданні цэнтра, загаварылі пра кур'ера, ужываючы слова «яна».

— Паўтарыце, калі ласка, слова па слове пачутае вамі,— папрасіў яго палкоўнік.

Агент, досыць выпадковая знаходка аднаго з афіцэраў Лосева, паморшчыўся ад натугі:

— Гаварылі: хлопцы, кур'ер ужо знойдзены, а нам — час у лес збірацца... Яна прыдасца... Так я пачуў, пан палкоўнік. За сцяною невыразна чуваць. Я пастараюся...— апраўдваўся агент.

«У суседняй кватэры дома, у якім жыве гэты наш шчаслівы агент, відавочна, рыхтуецца кадравая група арганізатараў паўстання. Невялікая, тры-чатыры чалавекі. Апісанне іх выгляду, праведзенае з незвычайнай асцярожнасцю, як дагэтуль, не прынесла ніякіх рэзультатаў. Яны, магчыма, прыбылі з-за граніцы,— думаў палкоўнік Лосеў.— Ці слушна зрабіў я, забараняючы

ўстанавіць пастаяннае сачэнне за гэтай групай? Хіба так, бо важней было, каб яны адчувалі сябе бяспечна і не шукалі іншага схову, іншай кватэры... Цяпер, бадай, ёсць сэнс арыштаваць іх, пакуль не выйшлі ў лес. А гэтае «Яна прыдасца...» можа датычыць цалкам чаго адваротнага...»

Палкоўнік адшукаў свежы рапарт сышчыка, што сочыць за кватэрай Марыі Грыгатовіч. Наведаў яе зноў той таемны мужчына, які прабыў у кватэры каля паўгадзіны. Сёння Грыгатовіч хадзіла на кірмаш, дзе купіла вясковую хусту ды спадніцу. Нашто ёй гэта? Далей: мужчына ад Грыгатовіч знік у Святаянскіх мурах! Калі сышчык тут чаго не наблытаў, дык гэта пачынае памалу ляпіцца ў нейкую цэласць — рабіў высновы Лосеў. Яму ўспомніўся Парфіяновіч.

«Не зашкодзіць прыставіць да гэтай пані Грыгатовіч нашага найлепшага «хваста»,— вырашыў палкоўнік Лосеў.

Ён загадаў свайму намесніку выклікаць сышчыка для асабліва важных спраў.

## 6

На віленскім вакзале дзень у дзень людна: поўна жанчын і мужчын, вайскоўцаў, жандараў і, вядома, сышчыкаў. Сталіца беларуска-літоўскага паўстання ажно кішэла ад войска, казакаў, паліцыі і, звычайна, тых, што ўцякалі. Цягнікі ў Варшаву біткам набіты. У вагонах безупынна адбываюцца рэвізіі, арышты. Паніка!

З Варшавы ўжо немагчыма прабрацца ў Галіччыну. У Кракаве перапыняюць уцекачоў аўстрыйскія жандары і адвозяць іх на блізкую рускую граніцу.

Марыя Грыгатовіч пачакала на пероне, пакуль цягнік рушыў. З натоўпу тых, што праводзілі, яна раптоўна ўскочыла на прыступкі вагона. З жахам угледзела,



што тое самае зрабіў нехта ля апошняга вагона. Уціснулася ў купэ.

Даехала да Гродна — садзіліся падарожныя; бачыла, як ускоквалі і ў апошнюю хвіліну. Супакоілася.

Падчас стаянкі на станцыі Саколка ахапіла Марыю трывога. Яна, наракаючы на цеснату, мітусілася, каб прыгледзецца да твараў; на ніводным з іх не выявіла стоенай цікаўнасці да свае асобы. Кожны быў заняты сваімі бедамі.

Уздоўж вагонаў павольна, неяк па-качынаму, прайшоў вайсковы патруль. Нікога яны не зачапілі.

Праз якую паўгадзіну язды ад Саколкі цягнік збавіў хуткасць, сударгава засоп паравоз. У апушчанае акно — папсаванае, яго ніхто не змог зачыніць — пачаў залятаць чорны дым, з якога сыпалася сажа.

Цягнік поўз пад гару, пад тую гару, аб якой казаў Макарэвіч.

Грыгатовіч праціснулася да дзвярэй, знянацку адчыніла іх, выйшла на першую ступеньку і саскочыла з яе ў адхон, перадам.

За ёю закрычалі: «Куды прэшся, дзеўка?!» Крычалі яшчэ: «Ногі паломіш, ніхто замуж не возьме!» Пажартавалі: «І я з табою пабягу!» Хтосьці: «І я!» І рагаталі на ўсё горла.

Азірнулася: не смяяўся толькі адзін малады мужчына, франтаваты. Ён вызначаўся пабялелым тварам сярод гурту дзецюкоў, развяселеных так нечаканым у дарозе здарэннем; Марыя забаўна ўпала ў глыбокі грумак.

Ёй нават здалося, што машыніст паравоза тармозіць цягнік, гамуе... Так здалося.

Налева, пад узлессем — хатка і дымок з коміна, і стары чалавек на парозе, які ўсё бачыць.

Наўпрасткі пабегла да яго.

— Ці не бачылі майго Яська, гаспадара з-пад Вільні?

— Мо паясі з дарогі,— азваўся да яе стары.— А да знахара ты не хочаш?

— Няма чаго, дзядзька, марудзіць! — ні то сказала, ні то закрычала яна.— Хутчэй!

Стары заварушыўся.

Ён заліў вадою агонь у печы. Галавешкі вынес на панадворак і там закапаў іх у снезе. Замкнуў хату.

— Ідзём,— Грыгатовіч адвяла вочы ад чыгункі.

— Не застудзішся? — стары паказаў пальцам на яе кароценькі кажушок.

— Дзядзька! — узмалілася яна на ягоную непаспешлівасць.

— Не дагоняць нас. Ад Чарноусі да Махнача, ого, блізкі свет! — і пайшоў наперадзе.

Яна — за ім.

Пракраліся цераз дарогу. Потым — яшчэ цераз адну... Коўзаліся на ўтоптаных сцяжынах, што сучылі ад вёскі да вёскі; хаваліся ў гушчэчы, за ўзбочынамі. Дзядзька шкадаваў, што Марыя не ўмее пералазіць з дрэва на дрэва — тады напэўна згубілі б след за сабою.

З пушчы выйшлі яны познім вечарам. На яе ўскраіне відаць была ціхая леснічоўка.

— Гэта тут,— сказаў стары.— Дзякаваць богу, шчасліва дайшлі.

— Я пачакаю вас,— адказала яму Грыгатовіч.

«У выпадку якой бяды, дык і загіну марна ў гэтых лясах,— са страхам думала яна, пакуль ён схадзіў да хаты і назад.— Месяц свеціць ад паўднёвага ці паўночнага неба? — і не магла сказаць з усёй упэўненасцю.— Гэта ад страху муціцца так у галаве...»

Стары завёў яе ў хату; ішла за ім, ступаючы ў яго вялізныя сляды. У сенцах выцерла ногі. Пахла тут кажухамі. У кухні, ля печы, шмыгануў малы чорны цень.

— Не бойся, дзеўка, гэта кот,— растлумачыў ёй стары.— Кладавіся на ложку, накрывайся скурамі ды спі, адпачывай на здароўе.— Ён наблізіўся да акна і



паставіў у ім венічак з якогасьці зелля. Прымасціў яго пасярэдзіне шыбкі.— Не чапай гэтага венічка. Ён тут дзеля знаку, разумееш, на які прыйдуць да цябе. Сама нікуды не выходзь і не паказвайся ў акне.— Ён памаўчаў.— Хлеб і вяндліна — у каморы. Будзь ціха-ціха! Ну, бывай, дзеўка. Пад світанак трэба мне, разумееш, вярнуцца дамоў.

— Шчаслівай дарогі вам! Вяртайцеся шчасліва!

— Дзякую табе, дзеўка.

Замкнуў хату. Ключ схаваў пад вугол — яна чула гэта, нібы скрэбанне мышы. Усяго некалькі разоў скрыпнулі крокі старога. Як бы выпадкова, з-за няўважлівасці. Цішыня, што адусюль спазірала на Марылю, выдалася ёй страшным сном. Каб неяк супыніць сваё ўяўленне, яна паглядзела здалёку ў белую пляму аконца — пайшоў снег.

«У добры час! Якраз вельмі патрэбны нам снег!» — узрадаваная, узялася вымошчваць сабе пасцелю.

Яе змарыў сон.

## 7

Неяк у каляду Уладак Прончык перажыў незвычайнае здзіўленне. У гэтым ягоным здзіўленні было шмат злосці на самога сябе за тое, чаму раней не прыйшла да яго думка аб так простай і бяспечнай схованцы на паўстанцкія лістоўкі ды газеты?!

Ад няўстрыманага хвалявання выйшаў на панадворак. Ад нецярплівасці! Зорная ноч мігцела над вёскаю. Спушчаны з прывязі сабака Рэксік як бы з паблажкай зіркаў у бок шайкі зайцоў, якія нешта матлашылі на загуменні — са смешнай пагрозлівасцю высока паставіўшы вушы. Зіхацела Вялікая Мядзведзіца.

Прончык папоцемку мацаў бярвенні пад паветкаю, ацэньваў іх прыдатнасць да задуманага. Спяшаўся — Вільдовіч аднойчы казаў яму, што паліцыя сакрэтна

распытвае пра Прончыкавы сувязі з леснікам. Не гаварыў, ад каго ён ведае аб гэтым. Ім трэба было перастаць сустракацца пры людзях.

З'явілася вялікая патрэба ў такой схованцы на матэрыялы. Праўда, гэта Вільдовіч намякнуў на дупло ў сухім дубе ля гасцінца; на гэтым дрэве калісьці павесіўся пан з Крынак. Ад таго часу нават дзеці абміналі гэтае месца. І Прончык, спачатку не пагадзіўшыся з прапановай лесніка, зараз убачыў яе існасць у новай, больш дасканалай задуме.

Дзён тры Прончык нібы рамантаваў паветку, а ў сапраўднасці вычэсваў ён пад ёю бярвенні на... крыж. Аднаго вечара хутка збіў яго і выкінуў на вышкі ў хляве. У снапы аўса.

Чакаў дрэннага надвор'я.

У пазамінулую нядзелю, у ноч на панядзелак, Прончык нямала нагнаў бы страху свайму суседу Радалю, калі б той угледзеў, як ён, з крыжам на плячы, кіраваўся ў поле. Стары ўдавец Карусь, які ў аўторак ездзіў па дровы, разносіў па вёсцы вестку, што, вяртаючыся з Дзеразінскага падбагонніка, бачыў ён на небе дух пана з Крынак, з крыжам... Так на засохлым дубе з'явіўся крыж. Празвалі яго Шыбенічны.

Ад тае нядзелі, ад завірухі не было вялікага снегападу. Сонца, хаця і нізкае, свяціла па-веснавому. У такую пагоду нельга было Прончыку падыходзіць да дуба, каб праверыць, ці ў яго дупле не ляжыць скрутак адозваў ці чаго? Ад тых, каму Вільдовіч паведаміў пра схованъ у Шыбенічным... Учора спыніў ён каня — вёз сена з балотнай Коматаншчыны — насупроць гэтай жахлівай сухастоіны: ніякіх пазнакаў ні на ёй, ні каля яе!

Асляплялі адліжныя льдзінкі снегу. У бляސках на небакраі — штосьці сумнае і адначасова загадкавае. Уваччу ажно мройна ад прывіду, што вось выходзяць з лясоў незлічоныя сілы — з пушчы, з пералескаў ды з



курганоў векавечных, з усіх бакоў, пабліскваючы зброяй, у баявых парадках легіёны свабоды. Ідуць яны, пакуль нябачныя, але ўжо відаць, як водбліск ад іх пранізвае прастору, халодны і мужны, ад якога вочы брыняюць слязьмі радасці, а цела, здранцвелае ад урачыстасці, знерухомела. Глуха — і бляск, толькі бляск, бляск!

...І станем беларусамі,
Вольнасці сынамі!

8

Адам Вільдовіч адамкнуў хату. Прывыклыя да цемені яго вочы шукалі чалавечай постаці. На ложку заварушыўся стары кажух, пад якім хтосьці спаў.

Гэта была жанчына. «Моцна змучылася»,— падумаў ён аб ёй; сам прысланіўся на лаве пад сцяною і драмаў. «Такі праўда, што паліцмайстар хацеў зрабіць Прончыка сваім вокам на ўсю ваколіцу,— мурашылася яму пад шапкаю.— Ці адчэпіцца? — і аб іншым: — Уласна кажучы, схаванец у дупле старога дуба, што засох, надта бяспечны. А яшчэ гэты крыж, які Уладак пачапіў... Штосьці глуха аб нашай «Мужыцкай праўдзе»? Мо гэта кабетка скажа? З якімі весткамі яна прыехала? — ляснік пазяхнуў.— Зробім сховы лепшыя, у высокім беразе над Сакалдою. Лепшыя ад Дзеразінскіх, ад Прончыкавага сухога дуба з крыжам...»

Вільдовіч расплюшчыў вочы. Санлівасць быццам хто рукою зняў.

Пачуў ён скрып снегу, два ці тры разы. Не, не пад лапамі звера!

Дзе?

Нячутна падышоў ён да акна; ад холаду ў хаце шыбкі засталіся незамарожанымі, чыстымі... У вішнёвым зарасніку стаяў чалавечы цень. Сышчыка? Шпега?!

Цень знік.

2 Зак. 793

Вільдовіч цікаваў да раніцы. Здарылася нешта непраўдападобнае. Аднак ляснік тут жа ўсведамляў сабе, што сапраўды чуў насцярожаны скрып снегу пад нагамі, а за вішняком хтосьці стаяў, кідаючы ледзь бачны цень ад месячнага святла, прымглёнага.

«Дрэнь справы!»

Жанчына прачнулася позна, з тупым позіркам. Так прачынаецца стомлены чалавек і які шмат чаго перажыў.

— Добры дзень вам,— азваўся да яе першы.

Ён змёрз і цяпер шпарка красаў агонь, каб распаліць у печы.

Сказала да яго:

— Я павінна перадаць вам...— і, замаўчаўшы, уручыла яму манету. З дрыжыкамі няпэўнасці ў руцэ.

— Сярэбраны яздок! — усцешыўся Вільдовіч.— Зразумела! Манета застанецца ў мяне.— Паклаў яе ў кішэню.— Уставайце, будзем есці.— Ён пайшоў у камору і ладны кавалак часу не вяртаўся адтуль.

«Ён чакае, пакуль я прыпарадкуюся»,— здагадалася Марыя Грыгатовіч.

Згатавалася гарбата. Духмяны адвар з ліпавага цвету.

Селі снедаць: чорны, здаровы хлеб, вэнджаная дзічына, сушаная плоць, мочаныя лясныя яблыкі, квашаныя агуркі, а да іх, агуркоў,— празрысты мёд.

— Чым хата багата,— запрашаў ляснік. «Стары я, але дурны! — лаяў ён сябе.— На халеру я паліў у печы, паказаў, што хата не пустая?! Зрэшты, якая розніца: калі круціўся тут шпіён, дык ён, відаць, за ёю і валокся...» — Ешце, калі ласка. Агуркі палівайце мёдам, тады больш можна з'есці яго — а трэба, бо дае сілу... Плоць упрыкуску.

— Ах, як хочацца есці! — засмяялася яна. У ёй адчувалася тая тонкая прастата, з якою гавораць на дачах культурныя паненкі.



Ела яна лакомліва, але мала.

— Я — на хвілінку выйду.— Вільдовічу не сядзелася.— Прабачце. І, калі ласка, ешце. Ешце...

Прыхапіў стрэльбу.

Перш паглыбіўся ў лес, ловячы вухам гукі ды водзячы за імі вачыма: чужых слядоў не знаходзіў. Яму спатрэбілася павалэндацца так дзеля аднаго: абследаваць вішняк такім чынам, каб перад кімсьці не выдаць гэтай сваёй цікаўнасці. Той хтосьці, калі ён ёсць недзе паблізу, не павінен здагадацца, што аб ім ужо вядома.

З лесу вяртаўся Вільдовіч нацянькі, валюхаўся з відавочным бесклапоццем, пасвістваючы «Ой, п'яна я, п'яна...».

Кіраваўся ён на садок, паглядзець, ці зайцы не аб'елі кару на яблыньках ды грушах... Пад вішнямі — ад поля — натоптана фасоністымі ботамі. Камусьці было страшна ісці лесам, і таму яго сляды павялі адсюль у напрамку Чортавага лугу. Яны адтуль і з'явіліся, зараз прыцярушаныя снегам, што выпаў уночы.

Уцякаць! Вільдовіч сціснуў стрэльбу.

«Ён жа мог назіраць за намі, стоячы ў гусценькім маладняку! Чаму гэта палез амаль пад вокны? — разважаў ляснік.— Гэта — або свежазавербаваны даносчык і малавопытны, або хтосьці з гродзенскай ці нат віленскай паліцыі, які пакінуў бавіцца ў тайнасць, устанавіўшы галоўнае — месца кур'ера, яго мэту! І, мабыць, прабіраецца штосіл у нагах у Саколку альбо і ў Беласток, каб наладзіць наш арышт, зблізку пазнаёміўшыся з размяшчэннем будынкаў сялібы...»

У хаце за сталом сустрэў ён вочы здагадныя і разумныя.

— Прыгожы дзень,— сказаў ляснік. От, абы сказаць штолень. Не здрадзіцца!

— Як тут спакойна,— загаварыла Грыгатовіч, больш да сябе, чымсьці да лесніка.— Седзячы тут, можна за-

быць, што існуюць гарады, дрэнныя людзі, войны, паўстанне, пекла жыцця...

Ён здрыгануўся ўсім целам.

Яна гаварыла далей:

— У Вільні, ведаеце, кашмар...

Перабіў яе:

— Перастаньце! Я не хачу ведаць, адкуль вы і хто? Так трэба.— Спахапіўся: «Чаго я, дурыла, крычу на яе? Нервы здаюць службу, халера! Абрастаю страхам...»

Марыя Грыгатовіч пачырванела.

— Выбачайце,— прамовіла вінавата.

Заціхлі: па дарозе ад вёскі праехалі сані. Цяжка гружаныя, з «сучкаю».

— Возьмеце мой кажух — зіма на дварэ! У вашым адно на баль хадзіць...— Вільдовіч не патрапіў тлумачыць жанчыне па чарзе.— Выйдзем, калі павечарэ, праз якіх тры-чатыры гадзіны... У гэту пару найбольш кароткія дні...— думаў: «Усё-такі я шалёна рызыкую, вырашыўшы пачакаць вечара. У цемры згубім «хваста», калі акажацца, што ён, той у модных ботах, нікуды не адышоў...»

— Будзе мне завялікі,— сказала яна пра кажух.

— Нічога, падпяражацеся.— Вільдовіч угледзеўся ў Марыю: — Вы прыехалі па тры словы: «Пугачоў у лесе няма». Паўтарыце іх таму, хто вас прыслаў сюды.— Падумаў: «Я перадаю, што друкарня нявыкрыта, сховы падрыхтаваныя, а як яно ў сапраўднасці — адзін бог ведае. Было б добра, каб гэты сышчык ішоў за намі. Тады я яго...»

— Гэта ўсё? — запытала яна.

— Не забудзьцеся,— адказаў ёй. Адвярнуўся: — На досвітку дойдзем да паўстанка ў Васількове, на віленскі цягнік.

— Добра,— яна не ўяўляе, колькі гэта вёрст.

— Зменіце вы зачоску. Дам вам даўжэйшую хустку, каб выглядалі старэй...— Адлягла злосць.— За вамі могуць сачыць.



У яе на міг пашклянелі зрэнкі. Ён прыкмеціў гэта, але да канца не зразумеў, адкуль у яе столькі сполаху. Прадчувае благое?

— Я перачашуся...

— Галоўнае — гэта не баяцца! — ён зыходзіў на гутарковую танацыю голасу, быццам сабраўшыся паведаць пра адну са сваіх надзвычайных паляўнічых прыгодаў.

Замест азваца ў адказ, яна прысела на зэдліку і пачала цыраваць шкарпэткі.

Ляснік узяўся шмараваць боты.

Марыя Грыгатовіч ахвотна пабыла б даўжэй у гэтай хатцы. Супакаенне і сілы вярталіся да яе, можна сказаць, з гадзіны на гадзіну. Малады арганізм хутка аднаўляе страчанае.

Яна не прадчувала небяспекі, была ўпэўнена, што ўсё адбываецца шчасліва. Часамі задуменна ўглядалася некуды, уяўляючы сабе, з якім прыкрым уражаннем выходзіў ад яе Макарэвіч, гэты цудоўны чалавек і вялікі разумнік. Усенькае дрэннае, што адбываецца паміж людзьмі, на жаль, можна параўнаць толькі да шчыліны ў сцяне, якую магчыма затынкаваць, але яна ўжо застанецца так доўга, як доўга стаяць той сцяне.

«Што засакрэчана словамі: пугачоў у лесе няма? Якая гэта звестка? — пацікавілася яна, каб неяк перабіць прыкрыя думкі.— Ну і баба я, баба: пра ўсенька мушу ведаць! Што трэба і чаго не трэба... Старэюся!»

Ляснік маўчаў, думаючы аб чымсьці.

## 9

Сышчык прапаў.

Дэпешы з Саколкі і Беластока — без чаканых паведамленняў. Дасведчанасць падказвала палкоўніку Ло-

севу, што два дні пераціўшкі не павінны сведчыць аб чымсьці дрэнным. Здаралася — цэлы тыдзень чакалі сігналу ад пасланага ў вышук.

Тым не менш за голасам разважлівасці нашэптвала палкоўніку таксама і пачуццё няўдачы. Ведаў, што часам можна давярацца інтуіцыі; за асобаю Марыі Грыгатовіч, мабыць, тоіцца нешта вельмі важнае... Яна — гэта загадка, якая шмат абяцае.

«Трэба ж нешта рабіць! — ён пачаў асэнсоўваць значэнне выпадковасці якраз цяпер, калі патрэбна адваротнае — аналіз фактаў. І ён чакаў іх.— У паліцэйскай рабоце выпадкова прыкмечанае не раз прыводзіць да адкрыцця. Як гэта было з Грыгатовіч? Сышчык, атрымаўшы вольны дзень, ішоў наведаць знаёмых і, пераходзячы на другі бок вуліцы, убачыў жанчыну, якой з прыхаваным шанаваннем пакланіўся малады мужчына. Нічога ў гэтым не было б надзвычайнага, калі б не тая акалічнасць, што гэты мужчына з'яўляўся западозраным у сувязях з паўстанцамі. Па сённяшні дзень не выяўлена ягонага месца пражывання... Сышчык, знаходзячыся ў водпуску, хутчэй па звычцы, пайшоў за гэтай жанчынай, устанавіў яе адрас. І хоць таго мужчыну ён потым ніколі не сустрэў, але наткнуўся на іншага, не менш таемнага, які заходзіць да яе. Дзякуючы таму, хто ведае, ці не трымаемся мы за нітачку да цэлага клубка?..» — палкоўнік зайшоў у суседні пакой, каб пераапрануцца ў цывільнае.

Лосеў любіў паабедаць у рэстаране, сярод людзей; паслухаць нармальную гутарку. Іншы раз яму здавалася, чуючы, як гавораць людзі, што ён дурнее ад дваццацітрохгадовай службы.

Спадабаў сабе стол у закуцці — воддаль галаслівіла моладзь. Старэйшы сярод яе, крыху падпіты, апавядаў пра смешнае здарэнне: едучы ў Беласток, ён назіраў, як за Саколкаю выскачыла з цягніка вясковая дзяўчына, уцякаючы ад нахабнага гарадскога кавалера, які, на смех курам, не адважыўся выскачыць за ёю, адно пабялеў ад абразы. Яму нічога не каштавала б зрабіць гэта, бо цягнік там ехаў настолькі павольна, што можна было дагнаць яго. Кавалер выскачыў, булава, тады, калі цягнік ужо набраў хуткасці.

Смешна ўпаў у адхон, задраўшы ногі. Дзяўчына гэта — не дурніца...

Лосеў перастаў есці катлету па-венску, паклаў на столік плату.

Ля тратуара спыніў ён фіякр, загадаў ехаць на вакзал.

Начальнік віленскай чыгуначнай станцыі не ўмеў растлумачыць палкоўніку, у якім месцы паміж Саколкаю і Беластокам знаходзіцца гара. Быў ён нядаўна прысланым сюды службоўцам.

— Паклічце каго з машыністаў,— загадаў яму Лосеў.

— Слухаю! — адказаў той па-вайсковаму.

Досыць хутка прывёў ён машыніста, які па памяці мог бы нават і намаляваць віленска-беластоцкі шлях. «Ці ёсць гарыстыя мясціны на шляху?» — «Ого, яшчэ і колькі!» — «Ці перад Гроднам яны ёсць?» — «Вядома, што ёсць: і перад Гроднам, і за Гроднам!» — «І за Саколкаю?» — «І за Саколкаю ёсць!» — «Колькі кіламетраў за Саколкаю?» — «Пытаеце, колькі? Так, каб вам не змахляваць, ваша бродзе, гэта гара будзе за Саколкаю ў якіх-небудзь дваццаці кіламетрах...» — «Паблізу якой мясцовасці?» — «Блізка Махнача, ваша бродзе... Перад Чарноўсю».

Лосеў акуратна запісаў: Махнач, наступны прыпынак — Чарновесь. («Там Уладка Гіміка мы ўзялі, здаравезнага беларуса, які са сваёй групай меў базу ў Дубраўках і Сцюдзянках»,— успомнілася Лосеву справа з вясны шэсцьдзесят трэцяга.)

— Вы ўпэўнены ў назве мясцовасці, паблізу якой знаходзіцца тая гара? — палкоўнік трымаўся адной, ма-

натоннай манеры размовы.— Іншай вялікай гары, узвышша паміж Саколкаю і Чарноўсю няма?

Начальнік станцыі абліў машыніста страхам.

— Ёсць, каля Генюшоў, але не так вялікая.— У машыніста бегалі вочкі. Не цяміў ён, у чым справа.— Ля Генюшоў лепей раскапаная яна...— удакладніў, называючы незразумелыя тэхнічныя даныя.

— Можаце ісці.

Здараецца ў следчай практыцы такое, калі без доказаў вядома, чаго трэба чакаць. Пачутая Лосевым бесклапотная гутарка ў рэстаране выдалася яму апавяданнем сведкаў пагоні сышчыка за Марыяй Грыгатовіч. У правай частцы патыліцы свідраваў яму галаву колкі боль, які ўсё мацнеў. Гэтак заўжды ў палкоўніка, калі інтуітыўнае прадчуванне праўды пераходзіць у перакананне. «З праўдай, быццам з задніцай — кожны сядзіць на сваёй»,— пакпіў з сябе даўно дзесьці прачытаным.

Дэпеша ў Саколку: накіраваць казацкія патрулі на дваццаць пяць кіламетраў у глыб лясоў ад населенага пункта Махнач; падазроных асоб скіроўваць у Саколку дзеля апазнання.

Палкоўнік Лосеў выехаў туды сам.

Перад ад'ездам лепшых сышчыкаў адкамандзіраваў ён спецыяльна на высочванне таго мужчыны, што заходзіў у кватэру Марыі Грыгатовіч на Зарачанах. Усё паставіў на адну карту.

Выехаў строга сакрэтна.

## 10

Дзень прайшоў на рыхтаванне начнога паходу.

Грыгатовіч пацыравала і стараватую хусту, у якой мелася ісці.

Вільдовіч не адзываўся да яе. Ён агледзеў зброю, лазіў на гарышча, наводзіў лад у каморы.

Не паказваліся яны на панадворку.



Дачакалі вечара, добра пахмурнага і цёмнага. Навокал — неверагодная ціш. Крокі чуваць ажно ў небе!

— Мы нічога не бачым, і нас не бачаць,— пажартаваў Вільдовіч. Яму камень адлёг ад сэрца.

Не паспелі дабрацца да ўскраіны лесу, як далёка за вёскаю, на гасцінцы, заржалі коні і ўзвілася казацкая лаянка.

— Патруль,— Вільдовіч пасыкнуўся пра нешта сказаць Марыі, але маментальна раздумаў. Скінуў з пляча стрэльбу.— Шпарчэй крок! — засоп ён.

Грыгатовіч не адставала ад яго.

Па твары секла абледзянелае голле. Праходзілі цераз арэшнік — у напрамку ельніку, што за беласнежнасцю чарнеў, як бяздонны абрыў.

З-пад ног схапіўся заяц, запішчаў па-дзіцячаму. Пад сасновікам завыў воўк, цягнучы сваю страшную песню. А мо там цэлая ганяя?! Марыя Грыгатовіч адчула, што ў яе цячэ па спіне пот і прыліпае да цела бялізна.

Наперадзе бяспечна маячыў стары ляснік. Раптам, дзесьці перад ім, узняўся грукат ды гуканне, ажно лес загайдаўся.

— Цьфу, каб вас халера пабрала! — вылаяўся ляснік. Ён абмяк, абціраў лоб.— Змучылася, пані? — запытаў яе.

Не магла аддыхацца.

— Хо...

— Адпачнём во тут,— ён зайшоў пад нізкую яліну, пад якою цёпла прэла кастрыца.— Сядаць нельга,— не вытлумачыў чаму.— Крышку пастаім і пойдзем...

— Дзікі?

— Ага, заселі на зіму.

— Хо, горача!

— Мароз, суха.

— Хмарыцца — на змену пагоды.

— Як адчуваеце сябе? — лесніку, пэўна, сарамнавата ад таго, што і сам перапужаўся.

— Вытрываю,— запэўніла яго.— Бадай, недалёка?— Яна мела на ўвазе адлегласць да Васількова.

— Го-го...— ляснік выразна махнуў рукою.— Дзе Махнач, а дзе Васількова!

У бок Верхлесу загрымелі стрэлы, два, адзін за другім. Затым — зноў адзін. І яшчэ — адзін. Вецер ішоў гарою, здзімаў у нетры накоцістае рэха.

Спыніліся, услухоўваючыся.

— Паўстанцы? — Марыя Грыгатовіч не мела нагоды пабыць у паўстанцкім лагеры. Аднойчы Макарэвіч абяцаў ёй гэта...

— Не, дарагая,— запярэчыў ляснік.— Не так гучаць паўстанцкія стрэлы.

Павярнулі яны ў стары лес.

Ногі, якія балелі ў Марыі пасля ўчарашняга пераходу з Махнача, зноўку былі спраўнымі.

Праз нейкі час выйшлі яны на прагаліну. Зоркі штораз загараліся ў разрывах хмараў, і час ад часу звысоку пасміхаўся ўсёвідушчы месяц. Пушча западалася пад зямлю, высоўваючы на паверхню пакудлачаныя верхавіны. Адсюль да лугоў Сакалды, як кажуць, рукою падаць.

За рэчкаю — не так трывожна.

Каб шчасліва!

Каб перастаў свяціць месяц.

— Госпадзі! — выбухнуў енкат — проста перад імі. Хтосьці хрыпеў, быццам яго душылі...

Пацерпянела скура.

Ляснік прысеў за елачкі, даючы Марыі знакі рукою, каб зрабіла тое ж. З гушчару вываліўся чалавек і распластаўся з раскінутымі рукамі. У яго падкурчылася адна нага.

Вільдовіч, са стрэльбаю напагатове, наблізіўся да ляжачага, павярнуў яго на плечы, снегам выцер яму



закрываўлены твар, расшпіліў паліто, адрываў кавалкі бялізны, каб перавязаць рану.

— Жывы? — апамяталася Марыя.

— Націрайце яму снегам шчокі, вушы, нос,— загадаў ёй.

Калелі пальцы. Незнаёмец загаварыў з гарачкі. Марыя Грыгатовіч угледзелася ў ягоны твар — як бы не чужы... «Ах!» — войкнула яна, заціснула зубы.

Паранены выдыхнуў выразныя словы:

— Напалі! Напалі!.. Верны след... домік лесніка...— трызніў ён.— Домік лесніка... Хутчэй!.. Скарэй!..— закрычаў.— А-а-аа-а... Больна! — вочы каціліся ў яго пад лоб.— Гаспадзін начальнік...— усё па-руску.— У Святаянскіх мурах тайна тайных!.. Там!

Аціх.

Ляснік сказаў:

— Скончыўся, сабака!

Ён здагадаўся, хто гэты чалавек.

І яна ўжо ведала.

— За вамі сачылі? — запытаў у яе амаль пагрозліва.

Не адразу адказала:

— Думала — уцякла ад яго...

— Уночы ён быў ля хаты. У садку.

— Ён?!

— Так,— стары агледзеў уважліва боты нябожчыка, потым з акасцянелай рукі вырваў рэвальвер.— Выстраліў ён чатыры разы, столькі, колькі мы чулі,— сказаў ляснік да Грыгатовіч.— Ён ад кагосьці бараніўся. Ад кагосьці, хто напаў на яго знянацку. Аслаб ад крывацёку, зблудзіў...

— Тыя стрэлы ад Верхлесу...

— З віленскай паліцыі,— ляснік, абшукаўшы труп, разглядаў знойдзеныя пры ім дакументы.

Цела завалаклі ў кустоўе, заграблі ў наслоенай гурбе, ваўкам на спажыву. Маўклівелі дрэвы.

Грыгатовіч прашаптала:

— Што цяпер будзе?

Вільдовіч, як бы ўспомніўшы нешта, амаль пабег па крывавай строчцы. Грыгатовіч задыхалася. Ён знікаў у праблісках ночы. Яна хацела закрычаць і не змагла; стыў голас. Пагразаючы па пояс у грумаках, Марыя з намаганнем валаклася следам за ім, абціраючы з ілба клейкі пот. Потым ужо не мела яна сілы падняць вачэй — бачыла чорныя крапінкі, што фастрыгавалі снег. Раз і другі закруціла ёй у галаве. Шчасце, што навокал — елачкі і ёсць за што ўхапіцца, каб не ўпасці ніцма. Знямоглая, брыла яна праз пушчу, убраную пазімоваму, трацячы надзею на тое, што калісьці выйдзе з яе. Падала, давячыся пухкім снежным пылам, густым, і кашляючы да болю ў грудзях. Баялася беспрытомнасці, лёгкай, але бяссэнсавай смерці. «Пугачоў у лесе няма,— трызніла.— Пугачоў у лесе няма... Я больш не магу! Я ж слабая жанчына!.. Злітуйся, лесе, нада мною. Лесе дрымучы, дрэвы чорныя, ночка цёмная!..»

На лесніка наткнулася Марыя Грыгатовіч, як на адзінокае дрэва ў полі падчас завірухі.

— Божа мой! — каля яго ляжаў чалавек. На месячных пацёрках марозу блішчаў нож, ля расшчэмленай правай рукі, пажаўцелай. Ляснік, без шапкі, натхнёна хрысціўся.

— Дзядзька з Махнача,— прарвалася ў яго.— Не пакінем яго тут.— Вільдовіч падняў чалавека ў кажусе. Ягоны нож засадзіў сабе за пояс.

— Божа, чаму гэта так трэба, каб людзі гінулі за праўду?! Чаму гэта столькі бязлітасці ў праўды? Чаму свет належыць да забойцаў? Божа, чаму?..

— Перастаньце, пані!

— Калі за праўду трэба забіваць, дык ці ёсць яна? Ці не выдумка гэта?..

— Перастаньце, кажу! Такая праўда, якія людзі, што ўстанавілі яе! Дапамажыце мне, пані...

Налева адсюль прасціралася паляна. Рушылі яны



туды, спадзеючыся знайсці там арэшнік або бярэзнік, каб наладзіць пасцелішча з аглабінамі, на якое ўсклалі б забітага дзядзьку і завезлі б яго ў ціхае ўрочышча...

Ад пахвіны цераз жывот да грудзей рассёк Грыгатовіч рэзкі боль. Яна перамагла сябе.

— Ціха-а,— ляснік супыніўся. Нябожчыка, якога неслі ўдваіх, апусцілі на гурбу снегу.

У насцярожанай далечыні гучала казацкая каманда. І бліжэй.

## 11

У Вільні сышчыкі збіваліся з ног: мужчына, які заходзіў да Марыі Грыгатовіч, прапаў, нібы выдумка.

У той жа час уздоўж гасцінца ад Гарадка ішоў лесам Макарэвіч. Ва ўрочышчы Перацёсы падзьмула адліжным холадам, і трэба было паставіць каўнер у кажусе. Гэта абмяжоўвала чуйнасць.

Нікога нідзе.

Цяжка ўявіць сабе нешта болей сумнае, чым імгла ў лесе, што бадзяецца па прасеках ды пералесках і якой няма чаго рабіць. Яна прыносіць пахі кастрыцы. Як жа жыць у суседстве з такою імглою?

Раніцай, слухаючы апавяданне каваля ў Пілатоўшчыне аб павешаных сялянах, замешаных у паўстанні, якіх выдалі іх суседзі, Макарэвіч думаў аб складанасці становішча. Аб тым, што патрэбны ўсё-такі невялікія атрады. Яны павінны хавацца па сухіх грудах, пабудаваўшы на іх падземныя кватэры — пад карэннямі дрэў, паблізу крынічак. Ваяваць трэба не бітвамі; народ яшчэ не даспеў да ўсеагульнага парыву. Вайну неабходна расцягнуць на гады...

Прамчалася вавёрка, спуджаная чужым трэскам, нырнула ў яліну. Ён, выхапіўшы пісталет, прысеў за ядлоўцам.

Трэск набліжаўся.

З зараснікаў высунуўся зубр — пакіраваў у лагчыну. Важна, не азіраючыся.

Кароткі дзень хмурыўся і вечарэў. Макарэвіч разлічыў, што ля Плябанаўшчыны пяройдзе пасля таго, калі ў гаспадарках закончаць догляд жывёлы і па хатах пачнуць класціся спаць.

Ад Плябанаўшчыны да Крынак — высечаны лес. Далей — двор, у якім можа быць казацкі патруль. Да пуні Антошкі Яновіча, відаць, найбольш бяспечна будзе прабірацца полем. Каля парабкоўскіх хацін.

І цераз азярышча.

Калі ўсталюецца ноч...

Дабраўся ён да пуні бадай апоўначы. Заснуў у адзенні. На коратка. Прачнуўся пры першых пеўнях, успацелы, даходзіў да памяці пасля жахлівага сну: ваўкі адбягаліся ад яго ў Лапіцкія яры. Пеўні спявалі ўсё гучней, іх галасы зліваліся ў хор. «Было б мо і лепей, калі б замест Грыгатовіч паехаў я,— усумніўся Макарэвіч.— Пераканалі мяне, што там можа быць небяспечна. Што не маю права рызыкаваць сабою ў ваколіцы, у якой ужо вядомы я з выгляду.— І разважыў: — Зрэшты, Марыся атрымала самую бязвінную місію, якая толькі магчыма ў нас у час падрыхтоўкі...»

Штосьці пасыпалася збоч. Ад пранырлівай мышы? Намацаў снапок, якім быў застаўлены ўваход у гэтае логава ў застаронку з сенам. Поўзала сцюжа, хапала за пальцы. А пеўні крычалі, як бы на трывогу. Лямантавалі, як усё роўна папярэджвалі пра небяспеку...

Ваўкі адбегліся...

З логава Макарэвіч залез у патайны пераход ад азярышча. Выйшаў на свежае паветра. Ля сцяны пуні шахацеў трыснёг, высокі, бы мак. Наваколле ў тумане падвойвалася.

За рогам — чутней: па вуліцы нехта ідзе. Галасы пеўняў заціхалі на Акопах і Пагулянцы, як адбой заўчаснай панікі.



«Да раніцы яшчэ пасплю,— Макарэвіч вярнуўся ў схованку.— У такую непагадзь смачна спіцца...»

У яго сны прыйшла далёкая зіма ў дзяцінстве, як першы снег. З чарадою аднагодкаў ганяўся ён ад Мастаўлян да Свіслачан, цераз багну каля Свіслачы, на якой гнуўся лёд ды патрэскваў маланкаю ў заполлі. Цешыцца не нацешыцца!.. Каваль Клімовіч рабіў чарадзейныя каўзачы! «Табе, Макарэвічык, зраблю адмысловыя»,— абяцаў каваль, чамусьці ўжываючы гэтае чужое прозвішча...

Аклікнулі:

— Макарэвіч!.. Ма-ка-рэ-ві-іч!..

Ён разявіў рот, каб запярэчыць: «Які я вам Макарэвіч? Хто вам гэта наплёў, што я з'яўляюся якімсьці Макарэвічам? Га?!.»

Адагнаў ад сябе сон. Выплываў на паверхню свядомасці і ўбачыў, як перад ім вялізнаю куніцаю стаіць Антошка Яновіч. Яго губы варушацца:

— Пан Макарэвіч! Уночы хадзіў жандар!

— Праводзіў вобыск?

— Не,— адказаў Яновіч.— Хадзіў па вуліцы, нюхаў. У шаўца Антыфона браў ён лучыну,— паведамляў.— Кажуць, з Саколкі прышлюць роту войска!

— Адкуль гэта вядома?

— Нібы казакі так казалі, купляючы ў Крынках авёс... Казалі: цяпер мы вам пакажам!

— Хваліцца наогул той, хто слабейшы.

— Але. Ім здаецца, што век тут гойсаць будуць,— у яго, Антошкі, заўсёды было адчуванне вечнага. Такога чалавека нельга ні ўсхваляваць, ні запалохаць.

Развіднела.

Антошка прынёс ежы на цэлы дзень.

— Хто не адпачывае, той і не працуе,— пакінуў ён Макарэвічу разумны пажартунак.

Створаная ім сетка разносчыкаў паўстанцкіх лістовак і газет засталася некранутай. Арышты прайшлі бо-

кам. «Мужыцкую праўду» можна будзе дастаўляць у Гаркавічы цераз Кішкялёў, у Сухінічы цераз Цілюльку, у Астровак цераз Кулакоўскіх, у Піражкі цераз Жукоўскіх, у Гураны цераз Міраноў, у Плянты цераз Пракопчыкаў...

У Вільню вярнуўся Макарэвіч назаўтра: да станцыі ў Гродна даехаў ён з абозам яўрэяў-гандляроў, якія цераз Разбойнік і Служкі везлі мануфактуру Ліпхарта. Гаварылі яны, што па лясах хаваецца вялікае беларускае войска, якое рыхтуецца выглуміць — увесну — наезнікаў.

Макарэвіч у задуменні ўслухоўваўся ў іх неасцярожную гутарку.

«Паўстанне, праўду кажучы, толькі павінна пачацца,— думаў ён.— Без шляхты! Яе ўдзел — гэта катастрофа ўсёй справе. Мужыкі не пойдуць за панамі ў лес, бо і чаго? За панскую свабоду змагацца? Сапраўдная свабода — гэта такая свабода, у якой не будзе ні паноў, ні цара. У якой усе будуць роўныя. Божа, якая складаная сітуацыя: з аднаго боку цар дае сваю свабоду, з другога — паны даюць сваю, як бы лепшую ад царскай,— сумна ўсміхнуўся.— А мэта ў адных і ў другіх адна і тая ж: утрымаць уладу! Трэба арганізоўваць народнае паўстанне. Што гэта значыць? Калі супроць паноў, то і супроць цара. Ці не занадта, як на магчымасці беларусаў? Мо спачатку выбраць меншае зло — падтрымаць паноў? Утопія! Польская справа — гэта наша справа? Не, нічога не выйдзе з таго... Ключ да становішча — у сітуацыі агульнарасійскай. А там рэвалюцыйнасць паменшала, ідзе на спад. Чарнышэўскі ў астрозе...— Праехаў казацкі патруль, возчыкі паціхлі.— А што, калі стварыць шырокую і адпаведна засакрэчаную паўстанцкую сетку з заданнем праводзіць прапаганду і ўтрымоўваць невялікія ўзброеныя групы? Рэжым, Мураўёў і яго генералы рвуцца да бітваў, да батальнага вырашэння пытання. А мы давай будзем пазбягаць бітваў, кусаць збоку, партызаніць. У нашу карысць працуе час. Так, час з'яўляецца самым магутным нашым саюзнікам. Рэвалюцыю рабіць — гэта перш за ўсё арганізавацца чакаючы. Гэта ўмельства чакаць. Замежная інтэрвенцыя, дыпламатычная, нам не патрэбна. Наіўныя дзюлераны; кожная дзяржава, якая б яна ні была, вядзе перш за ўсё ўласную, дзяржаўную палітыку па прынцыпу: свая кашуля бліжэй да цела! Ідэалагічная салідарнасць — гэта ўсяго цёпленькі плашч у палітычную сцюжу. Так было, так ёсць і так будзе! Механіка існавання дзяржавы, усё роўна што механіка ў фізіцы — нязменная ў галоўных законах. Польскае паўстанне — гэта ўнутраная справа Расіі, сказалі ў Пецярбурзе. Не без пэўнай рацыі... Аглядка на замежжа — гэта шкодная тактыка. Можна сказаць, ашуканцкая! Не стануць жа дапамагаць нашаму народу прыгнятальнікі сваіх народаў на Захадзе...»

Вечарам у дзверы яго віленскай кватэры, што ў Святаянскіх мурах, пастукала стройная паненка. Гэта Яцына.

## 12

Саколка не спадабалася палкоўніку Лосеву.

Вячэраў ён у паліцмайстра.

Папіваючы гарачую гарбату, вярнуліся яны да справы вярбоўкі Прончыка.

— Вы спрабавалі вербаваць Прончыка, папярэдне не высветліўшы акалічнасцяў забойства Панкевіча,— пасуровеў Лосеў. Паліцмайстар панурыўся.— Панкевіч быў выдатным агентам, пан паліцмайстар. Выказваюся так не толькі на падставе вашых рапартаў аб ягонай дзейнасці...

Паліцмайстар спацеў: «Хто ў мяне працуе для Лосева? Гэтаму хітраму, як чорт, палкоўніку! Хто гэта сочыць за мною?..»

Лосеў надпіў са шклянкі. Пацікавіўся:

— Вы ўпэўнены, пан паліцмайстар, што нічога не прапусцілі ў запісе сваёй гутаркі з Прончыкам?

— Абсалютна, пан палкоўнік! — паліцмайстру ўдарыла недарэчнае: «Няўжо Прончык з'яўляецца спецыяльным агентам палкоўніка для праверкі кадраў паліцыі?» На міг закруціўся ў яго перад вачыма цэлы пакой. Шырэй расставіў ногі.

У сталовым — жонка ціха і па-хатняму лаяла служанку, якая разбіла пасудзіну. У штодзённшчыну паліцмайстар падышоў бы да яе са словамі: «Ну, хопіць, дарагая, хваляваца з-за дробязі».

— Мяркуючы па вашаму запісу, Прончык — гэта або дурань з халоднымі вушамі, або чалавек паўстанцаў, школены ў метадах разведчай працы. Я асабіста схільны да другога варыянта. Ён — разведчык Духінскага.

Паліцмайстру калола ў баку.

— Магчыма, пан палкоўнік.

— Розніца паміж дурнем і шпіёнам такая, што шпіён робіць сябе дурнем, а дурань — не! — Лосеў нехаця частаваўся пірожным.— Кажаце, пан паліцмайстар, што Прончыка нараіў вам Панкевіч?

— Так, пан палкоўнік,— адказаў яму і са злосцю падумаў: «Сам жа падганяў мяне з гэтым Прончыкам: што з аб'ектам Ікс і што з аб'ектам Ікс?!. Няхай удалося б, дык уся заслуга была б, вядома, не мая, а яго! Яго! Цяпер шукае вінаватых. Я не хацеў спяшацца гутарыць з Прончыкам, каб не зрабіць памылкі, але пан палкоўнік — што з аб'ектам Ікс?! Ну і вось як атрымалася».

— Не выключана і тое, што Прончык ведае таямніцу смерці Панкевіча. Калі гэта так, дык гутарка з ім з'явілася памылкай. А гэта значыць, пан паліцмайстар, што мы раскрылі перад мяцежнікамі свае слабасці. Гэта значыць, што яны, мабыць, ведаюць аб тым, што мы



дзейнічаем усляпую... Іншых кандыдатур у вас няма? — уставіўся ён у паліцмайстра: «Крыўдуе на мяне, гэты няўдаліца. Што ж — нармальна! Вінаваціць мяне перш за ўсё таму, што баіцца прызнацца ў няўдачы перад самім сабою, во! А гэта з'яўляецца ўжо недапушчальнай слабавольнасцю ў асобы на такім адказным месцы».

— Няма, пан палкоўнік,— адказаў: «З такім, як Лосеў, трэба гаварыць без лішніх слоў. Не ўцягвацца ў разважанні, бо затопча!»

— Мы аказаліся непадрыхтаванымі да выбуху паўстання, хаця даўно ведалі аб тым, што яно адбудзецца. І нават — калі! У нас, для прыкладу, няма сеткі даносчыкаў, па адным у кожнай, хоць большай, вёсцы. Без іх мы глухія, значыць — і сляпыя. Чаго мы варты, пан паліцмайстар, без народных памочнікаў? — кпіў Лосеў. І зноў сур'ёзна: — Вам патрэбны матэрыялы, якія кампраметуюць Прончыка.

— Ведаю,— не стрымаўся паліцмайстар.

— Дык дазвольце запытаць, адкуль залезла вам у галаву надзея, што Прончык згодзіцца супрацоўнічаць з паліцыяй?! — вызверыўся палкоўнік, непрыемна ўражаны нецярплівым адказам паліцмайстра.— Няўжо вы паверылі ў байку пра канфідэнтаў-патрыётаў? Паліцыя, пан паліцмайстар, ёсць паліцыя. Існуе яна, дазвольце на крайнасць, дзеля таго, каб людзей, якімі яна зацікавіцца, ставіць у сітуацыі без выйсця. А мо вы разлічвалі на прастадушша Прончыка? — Лосеў расчырванеўся.— Што, пан паліцмайстар? — высмаркаўся: «Ён папамятацьмець мяне. Нашколю яго разумець мяне ў паўслове. Не ўдасца — выганю прэч. Цярпець не магу гэтых пласкалобцаў, усю гэту svалату, якая сядзіць ціхенька ды чакае, пакуль іншыя зробяць за яе самую чорную работу. Не, брацец, прымушу цябе самога запэцкацца па самыя вушы!» — Мне здаецца, што...

— Панкевіч заручыўся! — паліцмайстар першы раз перабіў палкоўніка. Са страху.— Ён запэўніў...

— Панкевіч мог памыляцца. Вам, у Саколцы, павінна відаць усё шырэй!

— Простага чалавека, пан палкоўнік, няпроста зрабіць канфідэнтам. Куды лягчэй — інтэлігента. Той мае што траціць у выпадку адмовы...

— Усё залежыць, пан паліцмайстар, ад умення і метадаў.— Лосеў хліснуў каньяку.— Не ўздумайце губіць Прончыка, бо такім чынам дакажаце паўстанцам, што мы бездапаможныя. Адносна ж месцазнаходжання «Мужыцкай праўды», дык я бачу неабходнасць...

Увайшоў афіцэр, які прынёс паведамленне аб тым, што за Верхлесам чулася страляніна. Падазроная, з рэвальвера!

Палкоўнік загадаў:

— Узмацніць патрулі ў раёне Верхлес — Сакалда, блакаваць броды! — І да паліцмайстра: — Паедзем у той Верхлес, прыгледзімся зблізку.— Ён любіў слоўца «прыгледзецца».

Жонка паліцмайстра падрыхтавала на дарогу ежу.

— Ох, гэтыя мяцежнікі! — яна хацела сказаць, што шкадуе добра пачатага вечара. Перапынілася гутарка, ад якой, мабыць, залежала б далейшая кар'ера мужа... Лёс паслаў у іх парогі высокага начальніка, і было б неразумна не выкарыстаць гэта. Праклінала: «Божа, як доўга яшчэ будзем сядзець мы ў гэтай паўвясковай Саколцы?!»

— Вы лішне клапоціцеся, шаноўная пані,— гаварыў палкоўнік Лосеў да прыгожай жонкі свайго падначаленага.— Мы не будзем там доўга. Прытым, пэўна, мужыкі не стануць частаваць нас чаем,— зарагатаў.— Таму і вернемся ў гэты ўтульны дом, які пані стварыла з зайздроснай сардэчнай цеплынёю,— гаварыў, а думалася: «Я пляту гэтай курачцы-дурачцы такое, што і вушам сваім не верыцца!»

За вокнамі заржалі коні.



— Калі ласка, пан палкоўнік,— паліцмайстар падаў яму футравае паліто.

Апрануліся.

Паехалі галопам.

У полі — снегу каню па жывот.

У вёсцы — бязлюддзе. Жандары прывялі мясцовага лесніка, які нічога з сэнсам не сказаў. На пытанне, ці чуў ён страляніну і ў якім квартале пушчы магла яна быць, закруціў галавою: не, не чуў; мо стралялі тады, калі спаў...

Раскватараваліся ў багатага гаспадара — у смуродзе ад кажухоў, нямытых гаршкоў ды невядома чаго яшчэ. Палкоўнік дастаў насавую хустачку, падаслаў ёю месца на лаве. Пальчатак ён не скідаў з рук.

Паўстанцы да ненармальнасці шляхетныя, падумалася яму. Змагаюцца яны не на жыццё, а на смерць дзеля поўнай волі гэтым чалавекападобным стварэнням, якія ў сваёй дурноце не супроць і прадаць абаронцаў! Хто найбольш даносіў пра паўстанцкія атрады ў лясах? Сышчыкі? Якраз не. Не сышчыкі, бо яны мала ведалі, але — мужыкі! Тыя, за якіх волю аддаюць жыццё шляхцюкі з універсітэцкімі тытуламі. Адукаванцы, такая іх маць! — палкоўніка, калі ён быў маладым, не прынялі ва універсітэт, меў слабыя ацэнкі. Мо праз гадоў сто паўстанне гэтакае мела б сэнс? За столькі часу нават і ў мужыцкім чэрапе нешта зварухнецца, прасвеціцца шчылінкай разумення чагосьці... Зрэшты, я не разумею, як можна ладзіць паўстанне, не мабілізаваўшы гарадоў? Аб сіле эканомікі і нацыі гаворыць горад, а не глуш!

Патрулі вярталіся з нічым.

— Пан афіцэр, у нас паўстанцаў і зроду не было! — прысягаўся гаспадар.— Гэта шляхта ўсё чагосьці хоча — і ў трыццатым годзе, і цяпер, каб на яе зараза напала! Усё дураць мужыку галаву — адны святою Польшчаю ад мора да мора якогасьці, а ін-

шыя зноў воляй, можна сказаць, разбойніцкай, хай бог сцеражэ...

— Хто менавіта? — строга спытаў Лосеў. Паліцмайстар толькі насупіўся.

— Я так, увогуле, пан афіцэр, чуў...

— Ад каго?

— Ну, летам прывалаклася ў Верхлес адна банда, сагнала народ, мяне схапілі ў сваё гэтае войска, але я іхняга начальніка пацалаваў у боты, і ён адпусціў мяне, нават, за выбачэннем, нагою ў сраку даў мне і крыкнуў: «Вон, нявольнік!» Людзі разбягаліся хто куды...

— Хто быў у гэтай шайцы?

— Не ведаю, паночку. Дальбог!..

Позні́м ранкам прыбыў малодшы афіцэр паліцыі з Саколкі і, у прысутнасці палкоўніка Лосева, дакладваў паліцмайстру, што за мінулую ноч нічога не здарылася на службе. Нічога вартага ўвагі. Ён прывёз кошык з харчамі, ад жонкі паліцмайстра. У ім знаходзіўся французскі каньяк. «Адкуль яна дастала яго? — здзівіўся паліцмайстар.— Ажаніцца — гэта тое, што ўсё здзіўляцца...»

Лосеў быў заняты сваім: «Значыць, сышчык не ўстанавіў сувязі — ні з саколкаўскай, ні з беластоцкай паліцыяй. Яго, магчыма, няма жывога або, паранены і ў няволі, прызнаецца ён у даверанай яму таямніцы, ратуючы сваю галаву. Яны, сышчыкі, занадта ўпэўнены ў непарушнасці Расійскай імперыі і ў безнадзейнасці паўстанцкага парыву, каб, апынуўшыся ў крытычнай сітуацыі, моцна трымаць язык за зубамі...»

Палкоўнік устаў і прайшоўся з кута ў кут.

— Перакусім, пан палкоўнік,— у паліцмайстра пакурынаму збянтэжаныя вочкі. Ён балванеў.

— Бадай, варта,— з сімпатыяй адгукнуўся Лосеў. Зняў пальчаткі.

Ён нешта вырашыў.





— Дзельны быў з яго чалавек,— сказаў Вільдовіч.

Грыгатовіч панікла. Яна ўяўляла сабе, што гэта было б, калі б не дзядзька з Махнача, які, вяртаючыся дамоў, заўважыў сышчыка, сачыў за ім і, урэшце, забіў яго, прытым сам загінуўшы.

— Як мы пахаваем яго?

— Не трэба! — буркнуў ляснік.

— Як гэта — не трэба?! — здзівілася яна.

— Не трэба! — стары заплакаў. Не чула ягонага плачу, але ведала: ён плача. Мужныя плачуць нема...

Труп нёс ляснік на плячах.

Выйшлі на край бору: на белай роўнядзі курапатчыным выводкам прысела вёска. Да першых яе хацінак дабег казацкі галоп. І выбег з другога канца — пахрыпацеў удалечыню.

Труп нябожчыка схавалі высока ў стозе сена на замёрзлай дрыгве.

— Вярнуся і тады пахаваю яго, як чалавека,— ляснік паправіў вопратку на сабе.— Загінуў ён не на тое, каб вы трацілі час! — з рук Грыгатовіч узяў ён стрэльбу.— Ідзём!

На другі бераг рэчкі перабраліся цераз лёд, які патрэскваў над глыбінямі. Ляснік меў рацыю: трэба спяшацца! Паліцыя ведае пра Макарэвіча — іначай не было б сышчыка...

Зноў пачулася казацкая каманда.

— Шукаюць таго падлу,— загаварыў Вільдовіч.

Папраўдзе, дык ён толькі здагадваўся так. Але трэба было нешта гаварыць, каб падагнаць сябе і дзеўку, якая ўжо ледзь трымалася на нагах. Паўтарыў ёй: — Памятайце: «Пугачоў у лесе няма». Перадайце таксама і пра тое, што пачулі ад сышчыка, асабліва пра...

— Добра,— не дала яму дакончыць.— Я ўсё перадам, будзьце спакойны.

Больш яны не гаварылі.

Пад Васільковам апынуліся на досвітку.

Пайшла яна да паўстанка, прыгорбленая ды адзінокая, крокам безнадзеі; дарогаю, па якой ніхто не ехаў, не ішоў; да будынка, што прытаіўся за пачарнелымі дрэвамі, таполямі пад пацямнелым небам. Жадала сабе, каб дарога гэта не мела канца. І не магла яна зразумець таго жадання: «Таму, што я да паўсмерці стомленая. Таму, што я па-нялюдску змучаная!..»

Праз якую-небудзь гадзіну з боку Беластока загуў цягнік, віленскі.

Ад'ехала ім, бачачы ў акне лясок, у якім — гэты стары ляснік. Акунулася Марыя ў дзіўны спакой, такі, якога дагэтуль не спазнавала. За ёю зачыніліся дзверы чагосьці, што ўжо не вернецца. Трывогі? Смяротнай боязі? Рызыкі? Яна перайшла бар'ер сваёй вытрымкі.

Ёй не ўдавалася нават прыдрамаць. Усяго праз некаторы час пачалі далятаць да яе свядомасці іскаркі радасці ад выратавання. І ад таго, што вязе яна важныя звесткі. «Хто будзе гэты стары? Ляснік. Ці ў яго ёсць сям'я? Ці выратуецца ён? — у нагах аж гуло ад шчымлівага болю.— Сышчык сачыў за мною? Чаму? Ужо раней была я пад інвігіляцыяй? Відаць, так. Хацеў ведаць, куды я паеду. Шукаў канцоў да Макарэвіча? Высачылі ўжо і яго? Ведаюць аб ім? Ах, чаму гэты цягнік так памалу валачэцца?!» — хвалявалася Грыгатовіч.

Калі заехала ў Вільню, зразумела з усёй яснасцю: ёй нельга ісці на сваю кватэру!

Дзе шукаць Макарэвіча?

Блукала па вуліцах ды завулках з надзеяй выпадкова сустрэцца з ім. Баялася, што нарвецца на сышчыка, які ведае яе. За Макарэвіча яна не так баялася: ён не стане падыходзіць да яе кватэры, убачыўшы, што рагавое акно — заслонена. Відаць гэта аж ад пякарні.

Мела грошы. Заначавала ў гасцініцы Пузыны.



## 14

На восьмай вярсце ад Верхлесу патрулі, нарэшце, знайшлі месца начной страляніны.

Па крывавым ружанцы дайшлі яны і да трупа. Да яго падбіраўся ўжо ліс.

Палкоўнік Лосеў пазнаў у нябожчыку сышчыка — глядзеў на яго, не злазячы з каня. Дастаў аловак і паперу і нервова напісаў адкрытым тэкстам: «Адначасовыя рэвізіі па ўсіх з прозвішчам Вітажэнец. Прыязджаю. Лосеў».

— Пашліце, калі ласка, афіцэра з казакамі ў Саколку,— звярнуўся да паліцмайстра.— Тэрміновая дэпеша,— падаў яму картку.

— Ёсць, пан палкоўнік.

Уздыбілі коней.

Трыумф павіснуў на валаску!

На адпачынак затрымаўся Лосеў у леснічоўцы Копная Гара: збіраўся з думкамі. Абступалі яго сумненні: «Што будзе, калі сярод наарыштоўваных не знойдзецца таго, аб якім чуў Парфіяновіч? Або якога бачыў той сышчык, што сачыў за кватэрай Грыгатовіч? Поўны правал?! Прытым трэба таксама дапускаць і тое, што нейкі Каліноўскі не з'яўляецца стаўкай паўстанцкага руху, аб чым, магчыма, Парфіяновічу было лепей вядома. Людвіг Дзічкоўскі, арыштаваны начальнік Ковенскага ваяводства, называючы Кастуся Каліноўскага галавою беларускага паўстання, мог, вядома, такім чынам затойваць зусім каго іншага — або, звычайна, памыляцца...»

На дзядзінцы, ля калодзежа, казакі паілі астыўшых коней.

Палкоўнік падумваў нават і аб тым, каб адклікаць дэпешу, пагнаць у Саколку пасыльнага, каб... «Эх, няхай будзе тое, што мае быць! — ныла яму ў скронях.— Я забыў загадаць аб арышце Грыгатовіч. Гэта за ёй ехаў

наш сышчык, адзін з лепшых, і — праўдападобна — яна стала прычынай ягонай смерці... Арыштаваць Грыгатовіч? Няўжо яна настолькі наіўная, каб, адкрыўшы, што мы сочым за ёю, цяпер ісці на сваю кватэру? Хто лічыць, што вораг заўсёды дурнейшы, той не павінен працаваць у паліцыі. Зрэшты, бываюць на гэтым свеце ўсялякія цуды... З Грыгатовіч — паспеем. Яна тут — пешка! А якой гадзіне наступны цягнік у Вільню?..»

Данеслі, што ў стозе сена ля Сакалды знойдзены труп старога селяніна, невядомага. Загінуў ён не пазней, чым праз суткі. Сляды ад таго месца вядуць у напрамку Васількова.

— Няважна! — Лосеў усхапіўся, каб ехаць.— Каня! — Апранаўся: «Выехала ў Вільню... З Васількова. Яна ўжо ў Вільні!» — нацягнуў пальчаткі.— Пан паліцмайстар — у Саколку!

«Як дашукацца клубка паўстання, дастаць яго галаву?!.»

## 15

Адам Вільдовіч не зыходзіў з гасцінца, з выбітых каляін, каб згубіць свой след. Кіраваўся ён у Супраслю, дзе ніхто не ведаў яго. Прайшоў праз мястэчка ў поўдзень, калі на вуліцах было найбольш людзей.

Засеў ён у кустах на пагорку, паблізу Цілічанскай дарогі, адкуль добра праглядаліся наваколле і блізкія завулкі.

У адвячорак з'явіліся ў Супраслі казакі і жандары з пагоні. Яны перапынялі прахожых, распытвалі. Пра яго!

«Дудкі вам!» — Вільдовіч пачысціў стрэльбу, якой дасталася за ўсю гэту вандроўку. Андрушку Гіміка з Махнача ён ужо не пахавае. Слушна меркаваў Вільдовіч, што назаўтра пачнецца дакладнае асочванне жандарамі ўсяе ваколіцы, дзеля далейшай пагоні. Узіму гэта няцяжка.



Забіўся ён у дрымучыя нетры, вымасціў сабе логава з яловых галінак. Расклаў агонь; грэўся, а ў праблісках ад агню таемна мільгацеў на яго далоні «Сярэбраны яздок».

Меч кідаў бліскавіцы!

Ляснік не спаў.

Ноч, як родная маці, дарыла яму супакаенне. Пасавінаму рассеўшыся ў верхалессі, чуйна дапільноўвала яна цішыні. Лесавік, прысаромлены буянствам, не падаваў голасу.

Узвышалася невялікае зарыва над гэтым месцам, быццам пачатак цуду...

Стары чалавек час ад часу думаў. Чакаў, пакуль месяц выкаціцца на сярэдзіну неба, бы добры спадарожнік.

У Беласток дайшоў Адам Вільдовіч раніцай. Прыхаваўшы ў знаёмага яўрэя стрэльбу, ён наняўся за пільшчыка. У купца, ля Старабаярскай. Каб перачакаць!

## 16

Снілася ёй, што напаткала Макарэвіча ў завулку Латок. Але яна, Марыя Грыгатовіч, адступілася назад. Аддалялася і аддалялася ад яго.

Макарэвіч махаў ёй рукамі: Марыся, Марылька, Марысенька!..

За яго плячыма бялеў твар сышчыка, закрываўленага, які смяяўся застылай усмешкаю. Аднекуль з'явіўся дзядзька з Махнача, які неспадзявана расплюшчыў адно вока і па-змоўніцку маргнуў ёй, Марысі, каб уцякала! Ажно ўсумнілася яна ў Макарэвічу: а ці ён гэта, а ці не? Хтосьці схапіў Грыгатовіч за локаць. Беспрытомна азірнулася; стары ляснік з дакорам глядзеў ёй у вочы: чаго маўчыш, дзеўка? Кажы яму! Ступіла да Макарэвіча: ах, што добрага я зрабіла?! Вока сышчыка

аджыло ды заўглядалася ў яе. Яна адвярнулася. Макарэвіч сам падбег да Марыі, з вуснамі, прагнымі навіны. Тады сказала яму, ціха-ціхенька: «Пугачоў у лесе няма. За вамі сочаць. Ратуйцеся!» Адказаў: «Ведаю. Такая пара ўжо настала, Марыся». Крыкнула: «Ратуйцеся!..»

Прачнулася яна з болем галавы. За дзвярыма нумара, у калідоры, гарлапанілі п'яныя мужчыны. Спрачаліся.

Неяк па-будзённаму схамянулася, што сёння дзесятага лютага. Падлічыла, колькі ёй гадоў...

На рынак выбралася яна позна (ён любіў заходзіць сюды). Ля вазоў узбуджана гаманілі — сяляне і мяшчане. Штосьці здарылася?!

Прыслухалася: уночы схапілі галоўнага начальніка паўстання!

Балюча на душы.

Да Пузыны болей яна не заяўлялася; рэшту грошай прыхавала сабе на хлеб, самы танны, чорны. Шукала і шукала Марыя па Вільні постаці Макарэвіча.

Прадала кажушок, прадала хусту.

Начавала яна з жабрачкамі.

На Лукішскай плошчы паставілі за ноч шыбеніцу.

Блакітны ранак над Вільняй.

Ля дамініканскай турмы — суровы вайсковы канвой.

Марыя Грыгатовіч, счарнелая, прытулілася збоку да натоўпу людзей, што ўсё сыходзяцца і сыходзяцца... Часамі нехта закашляе, суха, раз-пораз, быццам падаючы ўмоўны сігнал.

Адбудзецца пакаранне смерцю дыктатара паўстання ў Беларусі і ў Літве.

Завецца ён Кастусь Каліноўскі.

Народ маўчыць.

Роўна а дзевятай гадзіне расчыніліся турэмныя вароты. Кастусь Каліноўскі, з вайсковай пунктуальнасцю, рушыў у свой апошні шлях. Пад яго крокі, здавалася, ідуць шарэнгі стражы.

А на тратуарах — скідаюць людзі шапкі з галоў.

Боты і вінтоўкі.

І плачуць.

Марыя Грыгатовіч закрыла твар рукамі:

— Гэта ж Макарэвіч!!!

Ашалелая, рынулася яна на стражу, з беспрытомным лямантам:

— Пусціце яго, каты! Пусціце-е-э-э!!!

Яе адштурхнулі; жандар тузануў за руку і адкінуў, абяссіленую і гідкую. Адпаўзла яна, устала ды паплялася ў бок Зарачан. (Прыйшлі па яе, на кватэру, праз тры дні пасля: цывільны і яшчэ двое.)

Кастусь Каліноўскі ўрачыста як бы ўваходзіць у Вільню. Бледны, не мае сілы крыкнуць: «Хай жыве Беларусь! Хай жыве Літва!»

Ідзе.

З тратуараў слёзна кланяюцца яму ў пояс.

Крычаць:

— Кастусь! Наш Кастусь!!

Жандары варочаюць мызамі, каб накінуцца. Са звычкі, бо яны сёння на прывязі. Ім сёння нельга!

Адмераны крок.

На шыбеніцу — другога па богу ў покуце мужыцкай Белай Русі. На шыбеніцу яе будучыню, каб больш ніколі не мела яе...

І зашчыміць сэрца, забаляць грудзі!

Хадзіў па задворках Беластока стары дзівак. Жыў ён з таго, што наймаўся пілаваць дровы. Апавядаў дзецям байкі пра караля Беларусі і пра «Сярэбранага Ездака».

Імчаў па дзіцячым свеце Сярэбраны Яздок, знішчаючы паганых людзей.

— Дзядзьку, раскажыце нам байку пра «Сярэбранага Ездака»! — прасілі дзяўчынкі і хлопчыкі. І беглі яны ўхвост за старым.

Празвалі яго Сярэбраны Яздок.

Калі стары паміраў, хацеў ён нешта сказаць. З яго рукі выкацілася вялікая сярэбраная манета; упала ў шчыліну.

І як ні шукалі яе, ніхто не знайшоў.

*Беласток, 1967—1976 гг.*

# АПАВЯДАННІ, ЗАМАЛЁЎКІ, ГУМАРЭСКІ

## ЗБАЖЫНКА

Мару аб збажынцы на Александроўскім палетку, учараваная у словы мае напісаныя... Але словы, бы каменні, укладваюцца то ў апавяданне пра выпадак нешчаслівы, то ў роспач валошкі сінявокай, пакінутай вятрам восені, то ва ўрачыстае жыццё-быццё пастуха Супруна, якому свет з балячкамі гарадоў зайздросціць павінен. Іншы раз склаліся яны ў вобраз святы Кіры-пані, то зноў у годнасць нябесную Белавежы, прыгажосці некранутай каралевы, або ў сум па хаце дзяцінства, ці ў адзіноту ліп старых у Барсуковіне, айчыне пекнаты і цішы.

У Александроўскім палетку, на загоне бацькоўскім пачуццяў маіх, збажынка!

Адзінокая яна, як жыццё.

Ціхая, як мудрасць.

Пахіленая, бы лёс.

Зялёная, нібы свет...

## РОДНАЕ

Я іду сваім полем.

Дзяцінства маё маячыць на небакраі; клёны ля дарогі надта ж выраслі.

Уваходжу ў дом. На сценах яго іканастас успамінаў маіх, з матчынай усмешкай далёкай. Пшанічнае сонца.

За акном сад маладосці адцвіў, расчырванеўшыся спеласцю. На лугах кахання косяць атаву ў кашулях прапацелых. У малатарных прыгуменнях плён пыліць умалотам. І дзесьці рохканне пудовае, і рыканне белапеннае...

Добры конь жаданняў не скапыціўся.

У зелені задаволенасці і пад блакітам радасці буйнее шчасце неветрагоннае.

І гэтак думаю сабе, што Айчынай з'яўляецца не толькі вялікі супольны абавязак — і мае яе не адзін той, хто хоць раз заплакаў...

## ЗАГОНЫ

На загонах, як у жыцці,— усяго пакрысе.

Вось цыбуля, ад якой адны слёзы. Касабочыца на яе сам не лепшы часнок смуглявы, элегант агідны. А моркаўка, бы дзяўчына пачырванелая, засланілася буйнай зеленню да часу, да пары. Сланечнік, рагатун нястрымны, аж згорбіўся ад уцехі пустой. Яму весела ад ранку да вечара; перадражнівае макаўкі, разадзетыя па-вясельнаму, модніцы бяздумныя, якія мітусяцца адна перад другою ды хіхікаюць. Гарбуз, гультай зроду, разваліўся на ўсю разору, падкаціўшы голаў сваю пад лопух, каб сонца не прыпякала... За такога суседа свайго засаромеўся бурак, безнадзейна раскінуўшы лісце. Бручка грубаскурая, задаволеная сабою, надзьмулася, быццам яна тут найважнейшая... Кроп, малагодак бесклапотны, рослы праз меру, увесь у рабаціні ад беганіны свавольнай з загона на загон. Гуркі ціха стаіліся, быццам шайка дзяцей, што не нацешыліся гульнёю ў схованкі. Капуста прысела ад знямогі, па-матчынаму распусціўшы дзіравы прыпол, ды задумалася...

На загонах усяго пакрысе.



## ФЭСТ

Цень Візантыі ў пошуме клёнаў, бяроз. Гнілыя дранкі зелянеюць мохам у месячнай бляклы дранкі зелянеюць мохам у месячнай бляклы

Капліца...

Тырчыць праваслаўе над злежаным пяском магіл. Асколак Русі ля падножжа дзевятай хвалі ўбогіх пагоркаў. Матчын енк і плач дзіцяці тоіцца ў пацямнелай выспе зеляніны, заціснутай каменным абручом пад дзевятай хваляй убогіх пагоркаў. Маці забрала з сабою горыч жыцця; краскі свету ў вачах дзіцяці рассыпаліся ў прах.

Топчуцца і поўзаюць па іх сваякі ў экстазе — госці фэставай традыцыі. Жальба разменена на дробныя манеты, малебны па чарзе становяць на калені жывых. Да змяркання, да позняга вечара...

Гора хаваецца ў бяссоннай ночы. Спачуванне здаровым сном храпе да світання.

3 Зак. 793

## БЕСКЛАПОТНАМУ

Ліст.

Чужаецца яго сонца асенняе. Ноч-вераломніца віхрамі нацкоўвае, прымаразкамі мучыць. Зямля скупіцца, голадам морыць.

У старасць сваю галубіць ён яблыка разрумяненае, цешыцца нацешыцца не можа ім у адзіноце. А яно толькі зрэдку зірне на яго расінкаю халоднаю, дзівуе не надзівуецца светам. Даверлівае, бесклапотнае.

Скручваецца, мярцвее ліст. У ліхаманцы сніць ён пра буйства мінулае...

Не дачакаў світання. Апаў...

Раніцай прамяністай варона прыляцела ды дзюбаю да зярнятаў яблыка дабралася... І пакацілася, чырванашчокае, у гніль грузкую пад плотам.

## ВЯРТАННЕ

В уліца слепіцца, намагаецца пазнаць мяне, дзіця сваё непаслухмянае, якое пакінула яе і пайшло ў свет белы дзесяць гадоў таму назад. Цётка ў хустцы прыглядаецца ды дзівуецца, як гэта вырас я, ды пытае, ці жанаты...

Ала ідзе! Усміхаюся і вось-вось не сказаў: «Ала, кажуць, ты ва Уроцлаве?» Супыніўся: гэта была яе сястра.

Ля варотцаў Пятрук стаіць.

— Вітаю! — выкрыкваю да яго.— Чуў, у Гданску працуеш?

Але ён здымае шапку ды бубніць:

— Добры вечар вам. Я памятаю вас, калі вы да нашага Петрука гуляць заходзілі...

Імёны — гэта мая паўторная маладосць. Зірну няўзнак на Шуру, што якраз выходзіць на вуліцу вясковую, ды яна нават не пачырванее ад сустрэчы са мною. Прашчабеча: «Добры дзень». Шура ў Лодзі.

Пагорак той, дзе на санках каталіся днямі зімовымі, здаецца неяк нізкім і зусім прыгорбленым да зямлі. Хаты пачарнелі, знікла прамяністасць іх вокан...

Выглядаю дзядзькам.

## НІНКА

У руках Нінкі пахне язьмін. Ты ідзеш з ёю побач і чырванееш перад знаёмымі.

Урэшце кажаш:

— Паглядзі, як упіўся Рыгор!..

Смяешся.

— Рыгор біў жонку і сына,— амаль шэпча яна.

Не разумееш яе слоў. Табе моцна хочацца пацалунку дзяўчыны. Сам не асмелішся абняць яе. Пабаішся, што яна не захоча пайсці замуж за цябе!

Шчаслівы, што яна ідзе з табою.

Нінку прытуляеш да сябе толькі ў сваіх бессаромных снах. Нават не ў марах...

А па хатах ужо погалас ідзе, што ты з Нінкаю жаніцца будзеш. І што ваша вяселле будзе на Йвана.

## СНЫ

Сніцца начамі роднае поле. І прыгумень зялёны, вясенні, дзе падпасваў я Красулю-перадойку... Дзічка на ўзмежку маніць пладамі, і ветрык у лісцях яе весяліцца; на ёй ірваў я грушы, на гнілкі... Малпіннік сапрэлы затхнуўся ў спёцы ды горбіцца ў годы старыя; у ім любіў я гуляць у хованкі... Рэчка, што за лугам, цурчыць паміж каменняў. І агаліла яна плыцізны залацістыя, на якіх лавіў я калюшак.

З гнязда буслінага кола тырчыць на гумне. І дашчэнту рассохлася кола. Няма буслоў, няма іх, няма...

Няўжо можна сабе выбраць айчыну?

## ГРОШЫ

Гляджу не нагледжуся, цешуся не нацешуся; ля гумна абарог грошай з'явіўся!

Мацаю іх, лашчу.

Наўкола ні душы!

Бягу да жонкі і крычу ёй на вуха:

— Ху-у-тчэ-эй!!!

Шуганулі мы да воза і так пагналі кабылу, што яна аж заенчыла чалавечым голасам на ўсю вёску:

— Я не чалавек, не вытрываю!

...Палавіна абарога змясцілася ў хаце, другая — ў хляве.

Кабыла здыхала пад плотам.

Я з жонкаю стаялі пад голым небам, быццам беспрытульныя, калі зайшоў на панадворак кум і сказаў:

— Дай хлеў грошай, дык упушчу вас у сваю хату зіму перазімаваць... Хлеў грошай.

Так ён сказаў.

Мы стаялі.

## ГОРАД

Цэнтр горада — за Сцяпанавым гумном. Званкі трамваяў палохаюць кабылу Буланку. Смурод ад машынаў ды матацыклаў прэ праз шчыліны ў сцяне за сячкарняю, дзярэ ў горле.

За дзічкаю мігацiць вулічны натоўп.

Дачка Таня, у штанах з брызянтовага палатна ды ў чорных акулярах, махае мне рукой:



— Хэла, тата!

Крычу ёй:

— Танька, па авёс трэба ехаць!

Але яна села на скутэр і паехала за горад, на пляж. Народ на тратуары павярнуўся ў мой бок і ў адзін голас сказаў:

— Цяперашнія дзеці не слухаюць бацькоў.

— Та ж але,— згадзіўся я.

З прыгумення выехаў я гэта на Цэнтральную плошчу.

З-за чарады легкавых машынаў паказаўся трактар. Пыхкае чорным дымам, пасмейваецца, паганец, з маёй Буланкі:

— Куды прэшся, цвердалобая! Хутка файрант, ідзі абедаць, а потым у кіно...

Набухторыў Буланку, чарнамазы, ды годзе. Пачала яна круціцца, хвастом памахваць ды па баках пазіраць залётна. Давялося добра здзяжыць яе лейцамі — і ў хвост, і ў грыву. Не было часу марудзіць, якраз зялёнае святло паказалася на скрыжаванні дзвюх артэрый ля Іванавага панадворка.

Адсюль да электроннага завода блізка; там я вясной авёс пасеяў.

Асфальтаванай мяжою пад'язджаю да першай дванасткі.

— Гэй, дзядзьку! — чую за сабою чыйсьці голас.— Вы хіба з вёскі... Не ведаеце, як карыстацца радзюжкаю?

Азіраюся — стаіць лысы франт, у кароткіх штанах, ды бледным пальцам паказвае на апараты, што падвешаныя яму на грудзях.

— Збіваеце раўнавагу магнітнага поля!

— Чорт не возьме твайго поля! — адбрэхваюся я.— Вось з маім бяда, авёс вымакае ў дажджы...

Бачу: сядае ён пад дванастку і мерае магнітнае поле.

Я, усё роўна што не бачу яго, наклаў сабе фуру аўса і сабраўся ехаць, калі палез ён пад воз ды адтуль накрычаў на мяне:

— Казаў вам, што не ўмееце карыстацца радзюжкаю. Яе трэба распасціраць радыёактыўным бокам. Тады авёс за дарогу высах бы!

— Я політэхнічнага інстытута не канчаў, на радзюжках не знаюся,— тлумачу я. І чырванею, халера!

Але незнаёмец пададбрэў.

— Прыемна на ўлонні прыроды,— гаворыць ён ды паўзе на фуру.

Паехалі.

Перад чырвоным сігналам на скрыжаванні дагнаў нас трактар-лапатун і давай рагатаць на цэлы горад:

— Га-га-га, пых-пых-пых, стары вязе сабе зяця на аўсе. Пух-пух-пух, Таніна вяселле будзе... Га-га-га!..

Халера!

## ВАЛОШКА

Кропля блакіту ў спелым жытнёвым узмежку. Заглядаюцца ў яе зайздросныя каласы, натапырыўшы вусы...

Сыплеш смехам, сінявокая, і пошум таемнай надзеі коціцца па гонях, трывожыць і надае сілу ў спякотным леце.

Серп пакідае цябе драпежным асеннім вятрам, якія збыткуюць, глумяцца над пялёсткамі тваёй удовінай прыгажосці. Росную свежасць палошчуць сцюдзёныя ліўні...

Ад знямогі горбішся ў парудзелым іржэўі.

Ціха паміраеш.



## ПРЫГОЖАЙ

Думаеш, што ўвесь свет ля ног тваіх ляжа і ласкавай усмешкі папросіць? Дарэмна мучыш сябе снамі няпраўдзівымі ды годы маладыя траціш. Думаеш, што станам стройным жыццё ашукаеш і бляскам сваім яго аслепіш? Не выракайся мазаля працавітага ды горычы слёз. Думаеш, што шчасце ў целе раскошным тваім і бяздумных чорных вачах? Не кожнаму дадзена трывожнасць кахання ды радасць ягоную адчуць.

Прыгожая ты, але на цябе можна толькі паглядзець, бы на куст ружы дзікай пры гасцінцы, і пайсці далей.

## БЯРОЗКА ЛЯ АКНА

Адзінокая, ты шукаеш спагады і сяброўства. Лістотаю маладою зазірнеш у акно, а ўвечары, ветрыкам падвяселеная, шмарганеш па шыбіне, аж гаспадар загледзіцца ў цемень веснавую. Яго вочы выцвілыя, нячулыя да твае трывожнасці перад ліўнем душным. Не спачувае ён і слязам дажджлівым...

У электрычным бляску ўспыхнуць на табе кроплі нямой роспачы, і ў адчаі хіснешся ты супроць буры нахабнай, ды лісцё тваё з надзеяй прыліпне да акна, бачачы цішыню і спакой хаты.

Просіш дапамогі ў долі сірочай.

Бура скаліцца і вые ды драпежна дзярэ зямлю. Ты бялееш са страху, без памяці стукаеш у акно, па сцяне... Шуміш у паніцы жахлівай, мітусішся ды заходзішся ад нямога крыку, быццам дзяўчына, абкружаная рагатунамі-гвалтоўнікамі...

Гаспадар схіліўся ля акна над работаю і не разгінаецца. Што яму да бяды тваёй?

## ПРЫЕХАЎ

Глянь, маці, на сына. Ён сумны стаіць, бамбіза, і не ведае, куды падзець рукі. Падымі, маці, вочы. Ён здалёку прыехаў наведаць гаспадарку. Запытай, маці, як жывецца яму. Ён пакінуў цябе адну на загоне запушчаным. Прытуліся, маці, да шчакі! Ён не асмеліцца пацалаваць руку тваю...

Прыгалуб, мамачка, кучму яго раскудлачаную. Ён дарослы ўжо чалавек і жаніцца будзе. А пра нявестку нашто табе ведаць, маці? Ты ж у вёсцы свой век дажывеш.

## ДОНЯ-ДОЧАЧКА

Прыбяры, дочачка, хату, бо я, старая, зусім змарылася. Пасяджу крыху на лаве, няхай ногі адпачнуць. Буду вячэру гатаваць, каб бацька не сварыўся, з малацьбы прыйшоўшы. Палі, дочачка, вазоны на акне, бо павялі яны і без пары пасохнуць. Падарыла іх мне бабуля твая, калі я замуж выходзіла. Цвітуць яны кожнае лета колерамі харошымі. Падмяці, доня, сенцы, бо, глянь, Сяргееў Юрык ідзе і мо да нас зойдзе. Памятаю, якраз на грамніцы ён нарадзіўся, матку яго даглядала я, ночы бяссонныя праводзячы.

Стройны які вырас хлапчына, хоць у сваты выпраўляй зараз...

Куды бяжыш, дочачка?! Вазьмі хустку! Накінь на плечы, каб не прамерзла на вуліцы ветранай! Я сама ўжо як-небудзь прыпарадкую хату...



## АДРАЧЭННЕ

Куды ж ты паперла, дзяўчына?!
Чаго гэта панясло цябе ў горад далёкі?
Шукаць лёс спадзяваны?..
Уцякла дзяўчына ад спакою вёскі, ад палёў васількових, ад лугоў зарэчных... Прышлі, Кірачка, хоць ліст! Без цябе пуста тут.

## СЫНУ

Рассохлы парог хаты бацькоў пакінуць, каб ад долі ўцячы,— можаш. Туманны ўсход і пах ліпаў забыць, каб шумным асфальтам прайсціся,— можаш. Усмешку дзяцінства ды радасць жыцця пагасіць, каб далёкія мары наблізіць,— можаш. Слова-песню сваю ў пыл дарогі шпурнуць, каб хутчэй слупы верставыя міналі,— таксама можаш...

А калі слязамі боль пакоціцца, калыханку матчыну ўспомні.

## У ГЛЫБІ ДЗЯЦІНСТВА

Над галавою буйныя яблыкі, чырванашчокія мамінсыночкі, спелыя, напалоханыя пчоламі падаюць у зелышча. Смяецца сонца, як добры валакіта, паміж грады маку і слабее ад нямога рогату. Ломячы праменнямі высокую лебяду, коціцца яно ў Александроўку, у палеткі александроўскія. Заходзіць.

Зялёныя галіны і цёмна-сіняе неба ў сіняках, стомленае. Вечарэе.

Акно пахне варанай бульбай, і свежым малаком, і цыбуляй са скваркамі. Расчыненае акно запрашае. Час

вячэраць і спаць. Ногі просяцца ў пасцель, брудныя. Трэба іх памыць. Найгорш перад сном — гэта мыць ногі!

Калі гэта?

Трыццаць гадоў таму назад, на сорак пятым кіламетры ад Беластока, паўночна-ўсходнім.

## ГЛЫБОКАЙ ВОСЕННЮ

Люблю і люблю я дождж глыбокай восенню, халодны ды працяглы. За сцяною чуваць, як, сцякаючы з даху, струменьчыкі вады распырскваюцца на вымытых з зямлі каменьчыках ды кавалачках чарапіцы, што ў крапіве ля падрубы... Хтосьці спяшаецца па вуліцы, топчучы цяжкімі нагамі гнілое лісце.

Каля дзевятай гадзіны гаснуць агні ў вокнах, стары насценны гадзіннік сіпла звоніць. Па бруку пагрукатала запозненая фурманка на колах з жалезнымі шынамі, поўная мокрадзі, прастуджаная.

Як добра ляжаць у пасцелі, адчуваць цеплыню коўдры, сухой ды мяккай, засынаць моцным сном, які магчымы толькі ў халодную ды дажджлівую пагоду.

Сіпла звоніць стары насценны гадзіннік...

## УВЕЧАРЫ НА САКОЛЬСКАЙ

Быў у мяне вечар вясёлы, вечар імглісты, калі пад стрэхамі загуменняў Сакольскай вуліцы лавіў я сонных вераб'ёў. Ад поля нядобра паглядваў смутак; сябры не заўважалі ягоных вялікіх вачэй. Ім не было страшна, і мне пры іх...

Вераб'ёў укідалі мы цераз фортку ў майстэрню шаўца Франка Глянцпаперчыка, старога карцёжніка, і яго шайкі. Узнімалася сумятня. Глянцпаперчык прыкідваўся раззлаваным і ў агульным замяшанні спрытна мяняў нязручную для яго карту...

Больш неразумнага жарту мы не прыдумалі.

## ГАРЛАЧ

Пеўня празвалі — Гарлач. Ён спакойны, калі пахмурна або дождж. Тады Гарлач дрэмле на дровах пад страхою альбо грабецца ў горбе гною за падваротняю.

Але сёння — сонца. Яно ўжо выкацілася над вербамі, што ля старога млына, і пячэ. А далёка, па гасцінцы, пастухі гоняць кароў.

Пахне расою.

Гарлач спявае і дзюбае сонных курэй-жонак, круціць моцным хвастом ды разглядаецца. Прыпыніўся ён насупраць буды сабакі Пудліка і, упёршыся кіпцюрамі ў пясок, выдаў сіплы гук; куры ачнуліся. Пудлік наставурчыў вушы і, на ўсякі выпадак высадзіўшы адну лапу, прыязна пазяхнуў. Гарлач па-буслінаму насякерыўся на яго мызу, падазраючы сабаку ў нядобрых намерах. Пастаяўшы так у няпэўнасці, па-хітрунску кінуўся да міскі Пудліка, аблепленай засохлымі недаедкамі, і давай склікаць курэй.

Пудлік, гледзячы, як Гарлач бярэцца за ягоную міску, не сцярпеў, выскаліў зубы і брахнуў. Той вырачыўся на сабаку ды дзюбнуў у нос. Пудлік ад такой абразы ўскіпеў ды рвануўся ў бойку, намагаючыся схапіць пеўня за горла. Гарлач распусціў пер'е і дзёр сабаку па вачах. Пакаціўся клубок — здавалася, што гэта ў Пудліка неспадзявана выраслі крылы і ён вось-вось узнімецца ў паветра.

Курыную шайку ахапіла паніка.

Гарлач ледзь жывы скочыў на плот, потым на сві-

ран, а са свірна на хлеў... Унізе, у лопуху, рагаталі з яго куры-жонкі. Гарлач пастаяў на шчыце, прыкінуўшыся, што нічога не чуе. Пудлік высалапіў язык у насмешку, падла!

Гарлач са злосцю зляцеў у чужую бульбу. Ён пакінуў сваю сям'ю на цэлы дзень.

## САЛЮТ

Калі абвясцілі, што фашысцкая Германія капітулявала, мы цэлай кампаніяй пабеглі на луг, расклалі там вогнішча, укацілі ў яго снарад і з радасным крыкам «урр-рр-раа-ааа!» пахаваліся ў абваленых акопах.

Галлё было даволі сырое, агонь душыўся ў густым дыме, і снарад ляжаў у ім бездапаможны і бязрукі, не могучы пацешыць нас... Тады выскачыў з акопа Ляра, за ім Піндаль і я, а за мною яшчэ Зяграч. Мы падышлі да снарада, ён ляжаў з гільзаю.

Я паспеў глянуць толькі на гільзу і... праваліўся ў цемень.

Калі ж апынуўся зноў на паверхні і спачатку пачуў чалавечыя галасы, а потым паволі расплюшчыў вочы, то ўбачыў каля сябе Зяграча з гільзаю ў жываце — ён як бы ганарыста трымаўся за яе абеуруч, быццам за цацку старэйшага брата... У канцы лугу, каля дрыгвы з баюрамі, нехта дзіўна лямантаваў, усё роўна як пастух, якога моцна пабілі за каровы ў шкодзе... Гэта быў Піндаль.

Я схапіўся на ногі і ледзь не грымнуўся вобземлю; страшэнна запякла кульша! У бальніцы дасталі з яе два пярэднія і адзін кутні зуб Ляра...



## ПІСЬМЫ ДА ТАТЫ

За акном гудзе тэлеграфны слуп. Іх многа ўскрай вуліцы і шашы. Каб пабачыць той апошні, за горкаю, што бліскае ізалятарамі і дратамі! На нашай вуліцы драты не такія, ізалятары не бліскучыя.

Учора бабуля сказала, што па дратах шлюць пісьмы далёка, далёка, аж у Саколку. Мама кожную нядзелю піша да таты, а потым сядзіць упоцемку і плача. Робіцца так сумна, што я хаваюся пад ложак.

Ведаю, чаго плача мама!

Пэўна, на драты пад ліпаю сядаюць вароны і дзюбаюць маміны пісьмы, кідаюць іх на вецер.

Скажу маме!

Сёння я дачакаюся, пакуль пачнуць высылаць пісьмы па дратах з пошты ў Шыманчыкавай хаце... Бо без пісем забыў тата дарогу да нас. Шкадую я тату штодзень, як толькі ўстану з пасцелі.

Усе дзеці маюць татаў!

## СУМНЕННЕ

Ад жыцця даведаўся ён тое, аб чым чытаў у кніжках не раз,— што ў найгоршага лайдака, зладзюгі, п'яніцы, даносчыка, кар'ерыста прыгажосць на першым месцы. Не напаказ — найчасцей, у глыбінях душы яна, быццам бліск плоткі на бяздонні, якую таму заўважаем, што куды ні глянь — пуста, цёмна, страшна.

Узбрыдзіўся прыгожымі мужчынамі, іх — або ветлівасцю ідыётаў, або красамоўствам ашуканцаў, або жыццём бессэнсоўным, страшэнна бессэнсоўным!

У імкненні да прыгожага людзі робяць адвечную памылку, атаясамліваючы прыгожае з яго выглядам, за-

бываючыся аб ягоным сэнсе, змесце; і ў выніку яны робяцца нешчаслівыя.

Так ён лічыў.

А думаючы аб прыгожых жанчынах — думаў аб годнасці. Без годнасці жанчыны няма годнасці свету, бо яна яго маці! Чым больш зганьбаваных жанчын, тым больш зганьбаваны і свет...

Мо аж так не думаў, але адчуваў якраз так.

Цяпер знаходзіць гэтыя свае думкі, быццам даўнія пісьмы ад другой жонкі, якія валяюцца ў камодзе з бялізнаю; думкі — ужо макулатура, думкі — ужо пакамечаныя газеты, думкі — ужо высахлая трава, думкі — ужо смецце.

Людзі ж вераць толькі самі сабе.

А мо так яно павінна быць?

## СВЯТА Ў 1945-м

Далёка дагараў Берлін...

Дзевятага мая 1945 года я аддаў сімпатычнаму лётчыку конаўку трафейнага спірту за тое, што павазіў мяне на самалёце.

Мы пакруціліся над палявым аэрадромам, адляцелі далей. Зямля — зялёная, светлая і вечная, і, гледзячы на яе, расло пачуццё радасці, толькі радасці.

З вышыні сотні метраў відаць, як па лесе скачуць вавёркі, быццам жабы па дрыгве. А ў лесе, здаецца, пачаўся святочны адпачынак: ляжаць мужчыны на жываце, на спіне, з бязладна раскрыжаванымі рукамі,— гэта пабітыя салдаты! Сям-там ляжаць і жанчыны з бессаромна аголеным целам, нібыта каляровыя матылі,— гэта насмерць згвалтаваныя...

Гэта трупы!

— Трымайся! — лётчык выскаліўся, тузануў да сябе рычаг.

І мы памчаліся да сонца.



## ГАНДЛЯРУ СУМЛЕННЕМ

Хочаш родную песню сваю захаборыць усмешкаю тлустаю, каб штурхануць яе ў бездарожжа гасцінцаў вясковых! Як матку састарэлую. Але песня вяртаецца птушкаю пад парогі твае ўтульныя, каб прабачыць звыроднае адрачэнне сыноўскае! Як голуб кахання...

Ды ты ўжо прамяняў каханне на ўтульнасць.

## ШЧАСЦЕ

Мой сын!

Нясу на руках праз алеі жаўталістыя — і цяплынь мацярынскага позірку ў вачах жонкі. Лістапад шапаціць пад нагамі лістотаю, а побач — сын усміхаецца зоркам вячэрнім.

Вялікі сын!

Шчасце ў вачах жонкі. Скажы, колькі часу прайшло, калі шаптала ты мне: «Кахаю, моцна-моцна кахаю цябе!» Успомні: хадзілі мы па лугах квяцістых, росных ранішняй парою. Часамі, сцяжынаю лясною, у цішы збіралі грыбы чырвонагаловыя. Спалі ў водары буйнага маю, ля акна вішнёвага... Раніцою прамяністаю беглі на плёс паслухаць вясну шумнալістую... Пацалункі — першыя, нясмелыя — дарыла ты мне.

Глядзі, наш сын ужо ходзіць!

## КАСЕЦ

Неба распалена да беласці. Усюды, як вокам кінуць, гоні.

Вось і жніво прыйшло!

Удыхаю пах хлеба, не спяшаючыся скідаю з плячэй касу і вайстру яе. Жаўрук увышыні славіць працавітасць маю аж па суседнія вёскі. Першым я выйшаў у поле!

Сівавусыя каласы кланяюцца ў пояс і просяцца: «Ну пажні! Ну пажні! Ну пажні! Жні-пажні! Жні-пажні!»

І мне весела ад іх спеласці.

## ГАСЦІНЕЦ

Жыццё — бы той гасцінец, па якім праходзім вярсту за вярстою.

Губляемся паміж гоняў жыцця каласістага і прыпыняемся, заварожаныя, ля кветкі першага кахання. Спяшаемся далей, не сарваўшы яе, бо здаецца нам, што сустрэнем яшчэ прыгажэйшую. Бачым наўкола далячынь цудна-цудоўную!

Ідзём праз жыццё штораз павальней, адзін пагорак вышэй другога, шукаем цяньку хоць бы пад дзічкаю, на мяжы палыну, азіраемся на пройдзеныя вёрсты — і ўгледзім далёкую кветку першага кахання. Але ўжо занадта далёка зайшлі мы, каб вярнуцца па яе. І засынаем ад знямогі, і сніцца яна нам не раз, а прыгажосць яе сталася меркаю прыгажосці свету і хараства.

І да скону не зразумеем, чаму пры гасцінцы жыцця нашага толькі адна такая кветка была...

## АДЫСЕЯ ПАЎМЕШЧАНІНА

Яму зайздросцяць: пабудаваў сабе жыццё!

Ён купляў цэглу за цэглай, вымуроўваў паверх за паверхам, бачыў усё далей і глядзеў радасней. Часамі ўспамінаў ён пра першую дзяўчыну ды спадцішка пасмейваўся з яе ўжо паўзабытага, задрыпанага выгляду. Жыццё ўзвышалася небаскробам, а будынкі, што навокал, усё меншыя, што-



раз меншыя і меншыя, такія самыя, такія самыя, аж хаваюцца яны ў парнай зеляніне паўвясковых прыгарадаў, задаволеных хлеўчуком,— у ім бессаромна тлустая свіння, адкормленая на кухонных памыях, і чародка гультаяватых курачак-рабушачак, гусачак-гергятушачак, качачак-дзівачачак... Смярдзіць забяспечанасцю.

І пах ад летняй кухні, у якой жонка, выхітраваная ім дачка былога купца, што пазалетась салідна прагарэў на пасадзе кіраўніка склада і надоўга сеў у турму, смажыць прыгожанькія катлеты на абед.

А ўвечары была бура з бліскавіцамі і вятрыскам, быццам у абы-якім кінафільме пра абы-якое жыццё...

## ПАСЛЯ ВОДПУСКУ

З месячнага адпачынку над возерам Зэльва вярнуліся яны ў апошні дзень водпуску.

Ён сеў на падлогу ды распакоўваў чамаданы з брудным адзеннем, паходнай пасудаю, туалетнымі прыборамі. Яна пайшла ў кухню, каб згатаваць гарбаты.

У той вечар яны ляглі спаць рана і доўга гаварылі між сабою.

У шэсць гадзін раніцы яна разбудзіла яго і сказала:

— Уставай, сплюх мой мілы! Час на работу.

За акном буяніў горад.

Ён прытуліў яе да сябе і заплакаў.

— Каханая мая... — Яе валасы яшчэ пахлі сонцам.

Падумала, што яму сніўся страшны сон; падумала таксама, што ён моцна кахае яе.

Але гэта было не так.

Снілася яму тое месца на возеры Зэльва, дзе вада сіняя-сіняя, а далей — прастора з цішыні, зялёніны ды святла.

## СТАЛАСЦЬ

Вясна кароткая.

Дрэвы квітнеюць у палове мая, але лісці растуць яшчэ доўга. І сапраўдная вясна пачынаецца ў чэрвені, у цеплыні ды буянні. Так усяго адзін месяц, бо ў ліпені відаць, што даў цвет... Добры плод і марны плод растуць аднолькава доўга.

Вясна вельмі кароткая.

Яе заканчэнне відаць па запыленай лістоце.

Ведаем, што будзе далей...

У яго было прозвішча Асіновіч. І меў ён трыццаць гадоў.

Знаходзіўся ён якраз у тым узросце, калі выразна бачна тое, чаго чалавек дабіўся ў жыцці. Ён стаў тым, якому няблага жывецца. Ці ж трэба было яму закончыць ажно акадэмію, каб усяго толькі тлуста есці?

А ці часамі не смешны ён з гэтымі сваімі думкамі?..

Іншы раз адчуваў ён сябе, быццам той, якога гоняць сабакамі і ён, дабегшы да варотаў, бачыць, што зачынены яны наглуха. Альбо быццам той, якога хітра выпхнулі з чаргі да чагосьці жаданага і нават бессаромна, доўга смяяліся... Асіновіч хоць і ведаў, што трыццаць гадоў — гэта ўзрост, у якім людзі справядліва гавораць аб тым, хто і чаго варты, аднак жа паціху лічыў, што гэта не датычыць яго.

Хаця і бачыў тое па знаёмых.

Пачалася сталасць?



## НЕШЧАСЛІВЫ ВЫПАДАК

Да яе заходзіў Сяргей, і яна хадзіла з ім на музыкі. Танцавалі і смяяліся, пілі ліманад і смяяліся. А калі было ёй ужо дваццаць гадоў, скаштавалі гарэлкі. Тады прыйшла на забаву яе маці, дастала з-за пазухі вяроўку і пачала іх біць... Сяргей засланяў яе сабою, маці біла раз па ім, раз па ёй, аж змучылася.

Сяргей быў з беднай сям'і і не меў ніякай прафесіі. Яна таксама была бедная, але надта прыгожая, і маці хацела выдаць яе замуж за кагосьці багатага.

Потым — за сваяка Юліка.

Юлік атрымаў спадчыну па дзядзьку, што памёр у Буэнас-Айрэсе, і бацькі Юліка заказалі паніхіду ў вясковага святара. На гэту паніхіду па дзядзьку запрасілі і яе з маці. Адбыўся пачастунак для сваіх — спаілі Юліка і яе і паклалі іх у пасцель. Назаўтра пілі яшчэ, гэта было ўжо вяселле. Зацягнулася яно да позняй ночы. Апоўначы захабораны святар даў ім шлюб, у таямніцы і перад абліччам Хрыста. Яна была моцна п'яная, і Юлік трымаў яе аберуч.

Яе маці плакала ад радасці.

Яны хутка выехалі ў Буэнас-Айрэс. Летам пасля вайны.

У гэту вясну яна прыехала наведаць магілу маці, але заплакала толькі тады, калі на вясковай вуліцы ўбачыла Сяргея. Сталася гэта ў белы дзень.

Праз гадзіну ад'язджаў у Беласток аўтобус, яна хуценька зграбла свае камфартабельныя хатулі і паехала. У Беластоку забрыла ў саборную царкву і доўга кленчыла там. У пустцы ды змроку. Пад вечар выехала ў Варшаву, дзе пачакала на цягнік прамым маршрутам у Вену. Далей — у Рым і Неапаль.

У Неапалі яна купіла білет на параход «Санта-Марыя», які цераз тыдзень адплываў у Буэнас-Айрэс. Вы-

клікала таксі, папрасіла завезці яе ў дарагую гасцініцу, у якой наняла раскошны апартамент і, першы раз за ўсю дарогу, моцна выспалася. Было ёй добра.

Недзе перад абедам яна выбралася ў горад, і калі пераходзіла цераз вуліцу, наехала на яе грузавая машына. Шафёр быў п'яны, крычаў паліцыянт.

Памерла ў бальнічнай карэтцы.

## У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТАЎ

Вера пакінула мяне ў першы дзень велікодных святаў. Яна сказала:

— Лепей я выеду...

Я не азваўся. Хацеў сказаць ёй, што гэта я вінаваты.

Потым сказаў:

— Пачакай, правяду цябе да аўтобуса.

Яна канчала зашпільваць гузікі плашча.

На табурэтцы ляжаў вялікі пакунак, а на падлозе стаяў лёгкі чамадан. Узяў пакунак, і мы выйшлі.

Сярэдзінаю вуліцы Марыі Складоўскай-Кюры ішоў хлопец і гаварыў нешта дзяўчыне на тратуары. Яны жартавалі.

Я стаў і сказаў Веры:

— Паглядзі, таксі едзе. Да аўтобуснага вакзала далёка.

З сонечнай далечыні выязджала аслепленае таксі, хлопец замахаў рукамі. Да яго падбегла дзяўчына, яны былі ўзрадаваны. Таксі спынілася, бы певень, распусціла крылы дзверцаў, хапаючы малады смех.

І зрабілася на вуліцы пуста.

На аўтобусавым вакзале, куды мы зайшлі з Вераю, гусцела цішыня. Бялелі твары людзей, быццам яны нядаўна ўцалелі ў невядомай катастрофе і былі ашаломлены тым, што засталіся жывыя...

Вера паехала.



## НАВАЛЬНІЦА НА ХУТАРЫ

Як толькі я памятаю, навальніца заўсёды прыпаўзала з-за Прафіткі, гары, ад якой пачынаецца даліна накшталт вялізнай місы, а наша хата ў ёй — быццам тая нясмачная скварка, сасмажаная на вугельчык. Хата ўсё больш і больш горбіцца, а мой бацька праз цэлае сваё жыццё збіраўся закласці пад яе новыя падрубы і перад смерцю даверыў гэту справу мне, маладому гаспадару. Падумаў я, ці часам не дзед збіраўся з тымі падрубамі...

З Прафіткі збягае ўніз шаша. Яна нырае ў зялёныя чароты, што над рачулкаю, у якой іншы раз плюхаюцца голыя дзяўчаты, і шнуруе, бытта што ўкраўшы, пад другую высокую гару, якая нагадвае паднябесную траншэю, якраз насупраць Прафіткі. Значна вышэйшую за яе.

Пад тою гарой, што значна вышэйшая за Прафітку, часта псуюцца аўтобусы далёкіх маршрутаў, і тады можна бачыць, як сумуюць пасажыры, чакаючы адпраўкі.

Пад вечар сапраўды за Прафіткаю пачуліся грымоты і па шашы засняжыў пылок — як бы молаты цукар, калі тайком зжыраеш у каморы дзівосную матчыну мазурку, нарыхтаваную на вялікае свята.

Пакуль чуб хмары высоўваўся і высоўваўся, пакуль паказалася даўно не голеная фізіяномія буры з зубялямі бліскавіцаў, фізіяномія, якая тры дні не ела, выбзыкнуў перад самюсенькім носам яе, з па-за Прафіткі, адурэлы аўтобус і так памчаў уніз, так прашапацеў ён праз чароты, у якіх ужо намачыў пад сябе масток, так скакануў на паднябесную траншэю, быццам заяц з расcадніка, што здавалася: вось і канец свету!

Стрэхі поўныя птаства: галак, шпакоў, вераб'ёў. А пад стрэхамі сцішыліся куры. Свінкі неспадзявана разбрыкаліся па загародзе радасцю рэкрутаў на апош-

няй забаве ў вёсцы. Спахмурнеў задуменны конь. Прыціхлі каровы, не кажучы ўжо пра авечкі. Паветра набрыняла надзеяй, што хата ўсё-такі будзе плысці, яна ж драўляная, кожнаму хопіць кавалак чагосьці...

Маці зачыніла акно і перахрысцілася.

Па небе прайшоўся чорт з віламі, выгінаючыся ад рогату, быццам старая, п'яная дзеўка. Аўтобус жа, калі не пагубіў сваіх вісклівых апонаў, напэўна, сядзіць цяпер у нейкім гаражы ды плюскае шклянымі бельмамі гультаяватага сабакі. Вёз ён пасажыраў, бы бобік кошку на хрыбце: палёгку меў пры хуткім бегу, вельмі хуткім, да таго хуткім, што даходзіла да рэдкай хвіліны згоды. Прапаў за траншэяй!

Ну!!!

У пекле апынуліся мы ноччу. Сядзелі на самюткім яго дне. Над намі дагараў свет. А мо гэта ўсяго толькі ўсмешкі чарцей-чарцянят, што схіліліся над намі ды спрабуюць убачыць, што з намі? Маці малілася штораз гучней.

У суседняй вёсцы пачаўся пажар, асвятліў шыбіны, ніткі дажджу, дрэвы, выгнаных на загуменне кароў і каня, плот, каменні... Я выбег на парог і глядзеў на пажар пад перунамі, і цешыўся ім, як чалавек, якому пасля цяжкага здарэння сказалі, што будзе жыць! Што свет існуе!

## МАНЬЧЫНА ЖЫЦЦЁ



анька прачнулася на досвітку. Ішоў дождж, папоцемку стукацеў па шыбах, бы запознены каханак. У коміне заходзіўся прастуджаны вецер.

Манька ссунула на грудзі коўдру, выцягнула на холад рукі. Яна баялася задрамаць: сніўся ёй нябожчык муж Рыгор — і вайна.



...Вайна пачалася Маньцы ў нядзельную раніцу, калі са страху перад самалётамі не накарміла свіней. Рыгор тады вымасціў логава ў каменным склепе, выпусціў з хлява жывёлу. Блізка бамбілі гасцінец, на які выройвалася чужая салдатня, і да гэтага спадцішку прыглядалася вёска. Крыху з цікавасцю... Не было сну тры дні і тры ночы. На чацвёрты дзень настала ціша, як у свята, калі ў царкве служаць абедню, а на выгане бляюць авечкі, рыкаюць каровы, брыкаюць коні — гультуюць пастухі.

Прыпякала сонца.

У той чацвёрты дзень вайны Манька, гледзячы на гасцінец, завалены разбітымі машынамі з дабром, думала аб тым, што ўсё абышлося шчасліва. І што ёсць магчымасць нават яшчэ і скарыстаць...

І Рыгор падумаў аб тым жа.

На гасцінец прабраўся ён адвячоркам, з Манькаю, і там забілі яго немцы. Каля мяшка інтэнданцкага цукру і на вачах у Манькі. Яе не стралялі, абступілі толькі і з рогатам пагналі ў жыта на зганьбаванне. Рыгору выстралілі ў лоб, і ён упаў тварам на зямлю, каб не бачыць...

Той далёкі адвячорак не раз успомніцца Маньцы ў пагардлівых позірках суседак ды ў бесцырымоннасці мужчын да яе.

### Эпілог

Трыццаць гадоў прагаравала Манька на гаспадарцы, дакладна — трыццаць ад смерці Рыгора на пачатку другой сусветнай вайны.

У мінулае лета Надзея, дачка Манькі, забрала яе да сябе, у Варшаву. Але яна захварэла ў гэтым вялікім горадзе ды без пары памерла. Без сівых валасоў.

Памірала Манька з цяжарам таямніцы, што ў жылах Надзеі плыве кроў забойцаў Рыгора. І з агідаю пера-

гортваючы далейшыя вёсны ды зімы свайго жыцця. Са смяротным пачуццём уласнай непатрэбнасці. Усё роўна нібы ўвогуле яна не жыла...

Манька памірала цяжка.

## СВІТАНАК

Жылі сабе дзед з бабаю: Рыгор з Карусяю.

У капанне бульбы ён застудзіўся. Яго паліла гарачка.

— Сяргей... Сярожка!.. — клікаў сына. Пры памяці маўчаў.

Выў сабака. А месяц, як злодзей, заглядваў у акно.

Каруся выйшла на ганак. Знізу, ад зямлі, пацягнула каплічным холадам; сівеў прымаразак. Вялікая Мядзведзіца сядала на загуменні, а неба заплывала ранішняй яснотаю.

Дрыпаючы ў склеп па бульбу свіням, Каруся думала пра дачку, што замужам у Беластоку. Да яе яна не адчувала крыўды — дочкі ідуць туды, куды іх бяруць.

Заграбаючы ў кошык бульбіны, вобмацкам, яна праклінала здухамэнтамі жыццё.

Неспадзявана Каруся пачула, як нехта прачыніў дзверы ў хлеў. Яны выразна, павольна заскрыпелі.

Яна вылезла са склепа і паглядзела: у дзвярах відаць быў Рыгор!

— Чаго цябе выперла з ложка?! — узяла яе злосць: крыху ад радасці, што гэта не злодзей, крыху ад здзіўлення, што ён, хворы і прапацелы, выйшаў на мароз.

Рыгор не зварухнуўся.

Яна падышла да яго і змоўкла: Рыгор плакаў. Ён плакаў тым дзіўным плачам, які спачатку здаецца, смехам... Збягаліся цікаўныя куры, бляялі дурныя авечкі, рыкала абыякавая карова; адзін конь маўкліва глядзеў разумнымі вачыма.

Каруся завяла Рыгора ў хату, уклала яго ў пасцель. Яна першы раз не пранялася галасамі галоднай гаспадаркі. Заціхла ля ягонай галавы, а яе вочы мілавалі Рыгора і за ім нічога не бачылі ды не памяталі нічога.

Святлела раніца.



## ПАМЯЦЬ

Ля вясковага могільніку спынілася легкавая машына.

Было гэта відаць ад Вераб'інага лугу, дзе хлопцы расклалі агонь ды пяклі бульбу. «Спынілася яна плаўна і далікатна»,— заўважыў гэта са знаўствам трактарыст Валодзька, што якраз перавозіў бульбакапалку Разбойніцкім гасцінцам у Маркавую даліну. Такую машыну меў месстачковы лекар, але ён разбіў яе на вяселлі ў надляснічага. Якойсьці падобнай машынай пазалетась ездзілі ўночы зладзеі і крадзенае хавалі ў могілках...

З машыны выйшлі дзяўчына і хлопец. Яны дасталі з багажніка нешта вялікае і лёгкае, абгорнутае папераю. За імі выйшаў шафёр і разглядаў ваколіцы.

Ажно хтосьці з нас пазнаў, што жанчына гэта — Оля, якая даўно выехала з бацькамі ў Беласток. І, пэўна, яна ўжо з мужам, з якім прывязла вянок на магілу бабулі і дзеда. Вянок з белых бляшаных кветак і з зялёных лісцяў эмаліраваных...

Аціх вецер.

Ад акалелага голля сыпаўся іней. Па кляновым лістку, што прытуліўся да галінкі дзікай ружы на мяжы, пацякла накоцістая асенняя сляза. Поле глядзела вачамі вялікімі, як смутак. І зрабілася ўрачыста.

## ВЯСЕЛЛЕ

За агнямі Беластока, за апошнімі вуліцамі, расшчэпленымі на трэскі прыгарадных сцежак-дарожак, у даліне, што за пагоркамі, цямнее вёска. У ёй не відаць тых тысяч агнёў горада — толькі зарыва, якое асвятляе зоркі на небе. Не стаю я ў гэту ноч на высокай мясціне за вёскаю, а сяджу за сталом і гляджу богведама куды. У хаце гудзе вяселле майго брата і спяваюць «Сто лят». А мне сумна чамусьці...

Вяселле сялянскае: за сталамі з сотня гасцей, на сталах вульгарныя літры, ля парога музыканты, і ўсе спяваюць песню за песняй ды п'юць «да дна» і «да канца». І гавораць усе адразу, усе да ўсіх: сусед да суседкі, суседка да суседа, і ніхто нікога ў лад не чуе.

Вяселле як вяселле.

Але мне сумна. Няўжо ад таго, што вясельнікі робяць усё, каб гэтае вяселле не было сялянскім? Каб было яно чужым, гарадскім, чымсьці пазычаным? «Забалела ты, мая галованька...» патанула ў шматгалоссі вясельных рэн рольскіх, вайцехаў млынарскіх, ірэнаў сантар, азнавураў, санджэрсаў. Красамоўны сват папярхнуўся «актамі вэсэльнымі», «прошапанствамі» ды яшчэ чымсь. Напэўна, не ягоным, не сваім, затое бліскучым, быццам багемскі пярсцёнак у вітрыне магазіна, што ля цэнтральнай вуліцы, дзе неоны і аўтамашыны і тлумныя тратуары. Аднак жа вяселле гэтае сялянскае, бо іншых вяселляў нямаш на свеце, гарадскіх — няма!

Словам, вяселле.

Дружкі-сваячкі ў дарагіх сукнях, упрыгожаныя перакананнем, што яны — не сялянкі, бо ўжо працуюць у Беластоку і папрыязджалі на вяселле не з суседніх вёсак. Дружбанты-сваякі ў чорных касцюмах дрэнна адчуваюць сябе ў хамуце манераў, украдзеных у мяшчан, але не пацеюць яны да пятай ці нават сёмай чаркі. Гэтыя таксама не сяляне.



Адны старыя адчуваюць сябе сялянамі, і таму па іх тварах прабягаюць грымасы вінаватасці. Яны разумеюць, што ўсенька непрыгожае, сярмяжнае можа вынікнуць толькі ад іх або з-за іх. Вось нехта з маладых, з выгляду на дзіва сціплы, азваўся да старога па-свойму, па-беларуску, і стары чалавек пачырванеў нечакана для свайго ўзросту ды хутка-хуценька адказаў ён маладому хлопцу па-гарадскому, па-панску, «інцелігентна»!..

Неспадзявана зразумеў я свой дзівацкі сум: усе чакаюць, калі скончыцца вёска. І, як аб нябожчыку, якога не памінаюць ліхам, пад раніцу вяселле заспявала «...ручнікі плылі...», «...а ў полі...», «...я Івана так мілую...».

Пачалі раз'язджацца — хто да аўтобуснага прыпынку, хто да чыгуначнага, каб паспець яшчэ на работу.

## ТОРГ

Там, дзе канчаецца Беласток, у Лістападаўскім завулку прадаецца дом. У нядзелю заявіліся купцы: два мужчыны і малады хлопец.

Гаспадар спадзяваўся на купцоў — нават хлопцу падаў руку.

— Панове, вельгахны дом! — гаварыў па-мазурску гаспадар, намагаючыся адгадаць, хто тут сапраўдны купец, а хто толькі дарадчык.

— Тэго, дом — праўда — немалы,— сказаў купец у кажусе. Ён засунуў рукі ў кішэні і замоўк, быццам каючыся, што азваўся не па-польску.

Другі купец, падобны на гандляра з забеластоцкіх мястэчак, перабіў гутарку гаспадара:

— Давайце цану.

— Дзвесце тысяч.

— Э-эгэ-э-э, мо і паўмільёна прыснілася вам,— па-

жартаваў той жа, што дабіваўся цаны. І засмяяўся неяк лісліва, ідаць, каб залагодзіць гэты жарт не да месца, ад якога гаспадар ажно засоп.

— Панове, дзвесце — цана дзіцячая.

— Сто пяцьдзесят.

— Панове, не!

— Шчыты, як руіна...

— Панове, найважнейшыя сцены: век стаяць ім, смала ядыная!

— Сто пяцьдзесят.

— Пане, хадзі, пан, сам памацай. Хадзіце, хадзіце...

— Відаць і без таго.

— Дзвесце — і баста!

— Але і пан Твардоўскі!

— Панове, я не з леткіх. Маё слова, бы ленасць уланская!

— Служылі ва ўланах? — спытаўся купец у кажушку.— Дзе?

— У Гродне, у дзевятым палку. Потым — у Сувалках.

— І я ў Сувалках.

— Так? — здзівіўся гаспадар.— Памятае пан капрала Равэцкага?

— Ну і чорт ён быў...

— Панове, на польска-нямецкім фронце пад Чанстаховаю жывот яму разваліла! Лямантаваў: «Дабіце мяне, каб швабы не здзекаваліся...»

— І нас пабралі ў няволю. Завезлі ажно ў Саксонію.

— Каштавала вайна здароўя...

— Так, так,— чамусьці падтакнуў той, з выглядам гандляра. Яму было ўсё роўна.

— Я стары, панове, жонка памерла. А Крыся, дачка мая, мае кавалера далёка адсюль: выязджаем туды, дом збываем...

На ганак выйшла дзяўчына. Гэта была Крыся. Яна вынесла бацьку плашч, каб ён не прастыў на холадзе.



Сказала ўсім «дзень добры», але яе вочы слізганулі па стройным адзенні хлопца, прыпыніліся над белым каўняром кашулі. Сігануць вышэй яны не адважыліся, павярнулі назад.

Старыя таргаваліся.

— За такія грошы купіш, пан, там дом мураваны, ды яшчэ нямецкі. Дом, як цацка!

— Дзяўчыне і ўнукам,— дадаў купец у кажусе. Яму, праўду кажучы, было крыху сцішнавата ад таго, што вось гэты чалавек купляе дом за сямю гарамі ды рэкамі, ды яшчэ — дачцэ!

— Ды не за сто пяцьдзесят! — заўпарціўся гаспадар.— Мне, старому, і на месцы аж занадта добра было б, ды лёс Крысі патрабуе...

— Ну, паночку, сто шэсцьдзесят і — згода!

— Дзвесце, панове, дзвесце...

— Не будзь пан Твардоўскім...

Купец у кажусе нахіліўся да хлопца і сказаў:

— Ваня, а ты як думаеш?

Хлопец паціснуў плячыма.

— Хто яго ведае, тату...

— Я ж табе гэту хату купіў бы,— зашаптаў стары ад раптоўнай злосці, бо ўразіла яго абыякавасць сына.

Хлопец глядзеў на ганак, на якім стаяла Крыся. Быў гэта той беластоцка-беларускі тып дзяўчыны, што вырасла са скрыжавання крыві: адданыя вочы, пакладзістыя грудзі, гатоўныя рукі. Губы набрынялыя і гарачыя. Яна глядзела на хлопца, і ён ведаў, што толькі ад яго залежыць, каб загаварыла. Не адрываў вачэй ад яе губаў і адчуваў, як моцна абвілі б яе рукі ягоную шыю — у ціхім пакоі гэтай вось хаты...

Сонца свяціла і свяціла, чапляючыся да дзяўчыны, да яе пераспелых грудзей у павуцінні дарагой блузкі. Калені дзяўчыны чырванелі, але хлопец усё маўчаў ды маўчаў.

Торг адклалі.

## ШЛЮБНАЯ НОЧ

Андрэй, як усе нармальныя людзі, час ад часу дапускаецца да таго, што звычайна называюць свінствам. Тады ён не глядзіць у вочы жонкі Марысі.

— У цябе непрыемнасці на рабоце? — дапытваецца яна. Не ведае праўды.— Ты перамучаны, адпачынь.

Яны пакахаліся неспадзявана, калі восень у кустах счырванела. Іх шлюб адбыўся 13 лістапада. У гэты дзень ён першы раз пацалаваў яе, і то пры сведках! Яна заплакала ад сораму.

Гэта было на трэцім тыдні знаёмства Андрэя з Марысяй, бо ў яго ўзнікла надзвычайная магчымасць атрымаць двухпакаёвую кватэру. Але гэта была ягоная выдумка, махлярства. Яму проста моцна хацелася Марысі!

Кватэру атрымалі праз паўтара года...

Пасля шлюбу яны сустракаліся на скрыжаванні вуліц Электрычнай і Міцкевіча, ішлі ў парк, заходзілі далёка. Прытуляліся адно да другога пад голымі дрэвамі. Падаў рэдкі снег з дажджом.

Дзень у дзень Андрэй хадзіў па Беластоку крокам шалёнага. Ніхто не хацеў яму, жанатаму, здаць пакой: «Дзеці пасыплюцца, ведаеце, балаган узнімецца...»

Ажно махлярства ягонае раскрылася.

Тады Марыся нічога не сказала яму. Болей не з'явілася на скрыжаванні.

Андрэй пайшоў да яе.

Бацька Марысі выціснуў мужчынскі жарт. Выпілі паўлітра. Прыйшла маці.

Маці, ціхая, як неба, сказала:

— Пакуль у нас жыві, Андрэйка.

У меншым пакоі гнездавалі маці з бацькам ды малы брат Марысі. У большым жа — дзве сястры. А на сафе, ля процілеглай сцяны,— Марыся з Андрэем.

Сёстры, добрыя падросткі, заўсёды прыкідваліся, што спяць, і таму Марыся часта плакала. Вельмі ціхенька плакала, усё роўна што хіхікаючы. Андрэя паліла думка: чаму гэта найболей агідныя жарты і самыя жудасныя праклёны датычаць менавіта цудоўна прыгожага ў жыцці — кахання?!

Яму доўга не верылася, што без прыгожага не бывае і агіднага...

## РАНІЦА

Валодзька працуе да поўначы. Такая ў яго работа.

Ён доўга спіць маладым сном. Яму рэдка здараецца бяссонне — тады ўстане ён ранюсенька ды без дай прычыны ходзіць па кватэры. У такія бяссонныя ночы жонка Валодзькі робіць усё, што можа, каб яго ахапіў моцны сон. Калі ж гэта ёй не ўдаецца і ён не засынае аж да світання і маўчыць, яна здагадваецца, што Валодзька яшчэ кахае тую...

Але ён добры чалавек. І добра з ім жыць.

Не таіў перад ёю, што адзінай дзяўчынай, якую ён кахаў, была Кіра. І нават нядобра паджартоўваў, што ў грэчаскай мове «кіра» — гэта пані!.. Ды Кіра не кахала яго. Яна выйшла замуж, ужо два гады таму назад, недзе ў Шчэціне ці ва Уроцлаве...

Учора Валодзька выпадкова даведаўся, што Кіра ўжо нарадзіла дзіця.

Сёння схапіўся ён з пасцелі вельмі рана і адразу пайшоў памыцца. Прыснілася яму, што Кіра ўтапілася!

Асвяжыўшыся халоднай вадою ва ўмывальніку, Валодзька падышоў да ложка, сеў на тумбачку і глядзеў, як падымаецца сонца. Жонка спала, смачна раскрыўшы

ружовыя губы; ён нахіліўся ды пацалаваў у верхнюю... Спалохана расплюшчыла вочы: ёй таксама снілася нешта жахлівае. Калі апрытомнела, ён засмяяўся. І яна засмяялася.

І абоім стала лёгка.

## НЯНАВІСЦЬ МАЛОГА НЯВОЛЬНІКА

Ён ходзіць у цёмных акулярах. Аднарукі — не па сваёй віне. Прыаздобіў яго так адзін запляваны фашыст, жыватасты амтскамісар, кавалак дрэні, узор акупацыйнага забойцы і хабарніка, які нажываў дабро на крыві беларускіх людзей,— тупы саксонскі баўэр, які пачуўся панам. Ад яго атрымаў палкаю па галаве. «Ах ты, гітлерчык паганы!..» — закіпеў тады мой прыяцель, заліўшыся крывёю.

Пайшоў у поле.

З-пад разбітага танка выкаціў снарад, загарнуў яго ў кашулю. З гэтай здабычай пад правай пахою і з бацькавай сякерай пад левай пракраўся прыяцель мой да самога палаца, логава таго Палкіна са свастыкай. Воўчым спосабам запхнуў гэтае парася, накормленае ўзрыўчаткай, пад фундамент. Чырвоны лычык узрывальніка нюхаў паветра (пахла антонаўкамі). Угрэў па ім з усяе сілы абухам — ды з гэткім размахам, каб не трэба было вяртацца, дабіваць і каб напэўна ўзарваць тыя ненавісныя сцены разам з фашыстам, пэўне, разваленым у пярынах і нічога не падазраючым, з бутэлькай «шнапса» ў лапе ды вышкаленымі зубамі. Прыяцель мой шчыра разлічваў, што за тры скокі схаваецца ў абваленым склепе над сажалкай...

Яго рукі з сякераю ніхто не знайшоў.

Казалі потым людзі, што хтосьці ашалеў дзесьці ад перапалоху, камусьці ўпала на галаву адарваная рука з сякераю ў заціснутым кулаку, на лузе ці ў якойсьці вёсцы за дзесяць вёрстаў... Нібы пастух сядзеў у полі ды абедаў, і гэта яму ўпала тая рука з сякераю якраз у торбу з хлебам. Прабег ён з ёю пяць ці болей кіламетраў, не маючы адвагі выкінуць-вышпурнуць таго з торбы, а пакінуць торбу так і не здагадаўся ад жаху — пасівеў і ўтапіўся ў гліншчы...

Фашыст не застрэліў прыяцеля майго, прысыпанага крывавай граззю. Пашкадаваў... патрона... Была восень. Імгла. Гэта тады ашуканая дзяўчына падпаліла хату кавалера-фалькcдойча.

## ПОМНІК

Калі апавядалі мне гісторыю яе ўчынкаў, здавалася, што я ўжо чытаў аб гэтым у кніжцы, якой яшчэ ніхто не напісаў: бліск чалавечнасці ў аплыўшай тлушчам бабе, усім свінням свінні! У свой час была яна досыць прыгожай паненкай, якая сляпіцаю ўперлася замуж за старога кавалера, спакайноту, гаспадарлівага целяпня на хутары, што пад лесам, дзе пахне ў хаце сушанымі грыбамі, ядлаўцовым дымам, цішынёю ды брудам, непатрэбшчынаю, потным мужчынскім целам, мытым толькі ў жніўных крыніцах, засмучонасцю. Пахне сіроцтвам.

Жаніўся ён з ёю якраз у пасляваенны, наравісты час, які ўсё яшчэ раскідаў трупы па ярах анямелых палеткаў або ў маўклівых пушчанскіх урочышчах. Яму, улюбёнаму ў гаспадарку і зямлю, хацелася жыць. Жыць перш за ўсё! І гэта яму гарантавала яна, як сувязная банды і адразу даносчык, якая за нішто выдала на смерць ягонага брата, багатага дзевера, каб не дзяліцца з ім усенькім дабром, будынкамі, гектарамі. Словам, ладны пасаг!



4 Зак. 793

Правадыр банды сквапна і беспададзрона выканаў гэту, нават і на яго густ, крыху дзікую просьбу, робячы такім чынам сваю заслужаную каханку не толькі чужой жонкай, але і багатай гаспадыняй, што было яму асабліва выгодна. Прымала яго ў начным хутары і сыціла прагным жаночым целам і заўсёды багатым сталом. Да першага дзіцяці.

Банду разграмілі.

Муж, лелякаватае цяля, урэшце зразумеўшы ўсё, але добра заціснуты вуздэчкай, запацелы, як і даўней, аплакаў шчырымі слязьмі свой быдлячы лёс, каб потым стаць скупіцаю. Скнарыў ці то ў надзеі дачакацца яшчэ шчасця ў жыцці, ці то са старасці, якая ўвайшла ў яго, не пасаромеўшыся жонкі маладой, не пашкадаваўшы дзяцей малых.

У гэту заўчасную восень яго жыцця здарылася нешта такое, чаго ён не зразумеў: яна заказала помнік па забітым дзеверы, родным браце яго, косці якога дваццаць гадоў тлеюць у невядомай магіле, у нейкай мясціне бандыцкіх гуляў. Помнік за семдзесят тысяч, з аздобнай абмуроўкай, у самым дарагім месцы на могілках.

Бліск чалавечнасці ў ёй? Не — пад гэтым помнікам пахавае яна мужа, бо ён з братам маюць аднолькавыя імёны (выбрык п'яных кумоў), нарадзіліся яны блізнятамі (пажартунак прыроды?), ну, яшчэ падобныя яны, бы дзве кроплі вады! На фатаграфіях...

Спрыяльны збег абставін... Яна прадчувала хуткую смерць мужа.

Помнік закончыў майстар хутка. Гэта ўзняло яе ў вачах тых, хто ёй спачуваў. Расчуленыя суседкі-ўдовы нараілі такое, ад чаго спачатку збянтэжылася: выкупіць і сабе месца пад прыгожым помнікам, побач з мужам. І напісаць сваё імя...

Яна, даўшы майстру пяцьдзесят тысяч задатку, пачала будаваць зайздросную магільню, у якой труна мужа стаяла б збоч, як далёкага ды беднага сваяка...

Уладзіўшы свае замагільныя справы, пачала доўга жыць. Не прайшло і паловы жалобы, як яна, не ўтрываўшы ад нецярплівасці, пусцілася ў сабачую шкуру.

Здаецца, пачыналася ўжо зіма, калі яна загінула ў недарэчнай аўтамабільнай катастрофе.

## СУПРУН

Наша вёска задаволена, што мае пастуха. Мае Супруна. Пішу аб ім не таму, што ў наш час амаль немагчыма знайсці пастуха, але таму, што, як мне здаецца, з'яўляецца ён чалавекам, які намагаецца разумець... Намагаецца зразумець... Мо нават не столькі зразумець, колькі адчуць; зрэшты, гэта адно і тое ж. І, сапраўды, цяжка было б мне назваць другога чалавека ў вёсцы, які б так моцна стараўся разумець... Гэта таму, мабыць, што жыццё не надакучыла Супруну, не абрыдла ні на хвілінку, хаця лаецца ён больш і страшней за ўсіх.

Я зайздрошчу яму, у яго добрае жыццё. Жыццё, як у нікога!

Дарагі Чытач! Бачу здзіўленне ў Тваіх вачах.

— Што гэта там засталося пастуху зразумець?!

Лічыш, што пастух Супрун бедны і нічога не трэба яму разумець. Цяжка не пагадзіцца з Табою: ён сапраўды бедны, яму пахне скарынка чорнага хлеба, хаця есць Супрун, бадай, не горш, чым другі гаспадар. У пасляваенныя гады кожны, хто хацеў, выехаў у горад і там знайшоў сабе работу; ніхто не застаўся пастухом! Адзін Супрун застаўся. Але і ён не наракае на свой лёс з поўнай торбай, якой справядліва не заўважае.

Яму і не сніцца горад. Ведае, што ёсць гарады, гэтаксама як ведае, што ёсць даліны і горы, **Карпаты**. Ша-

шою, што ўскрай лугу, праязджаюць машыны, і Супрун іншы раз зблізку прыглядаецца да іх. Ён не прасцяк — яшчэ нічога не значыць тое, як ён выглядае. І не дзікі! Супрун вельмі многае бачыць і вельмі многае разумее. І з ім нялёгка гаварыць, бо ён менавіта шмат разумее.

Дарагі Чытач! Ты, магчыма, лічыш Супруна дзіваком... Я не збіраюся пярэчыць Табе. Або, магчыма, Ты звычайна толькі скажаш:

— Старому Супруну нічога больш не засталося ў жыцці рабіць, як быць пастухом.

Тут я мушу прызнацца, што Супрун зусім не стары; яму ўсяго трыццаць гадоў. Малады, і я не сцвярджаю, што ў яго няма дзівацтваў. Дарэчы, дзівакі кідаюцца ў вочы з першага погляду: гэта людзі, якія хочуць значна менш, чымсьці могуць мець, або — значна больш. Нам — мне і Табе, Дарагі Чытач,— ясна. І добра. Нікому з нас нават і не падумаецца, што бяром з жыцця, пэўна, значна менш, чымсьці маглі б узяць. Значна менш з таго, што належыцца нам! А ўжо напэўна нікому не падумаецца аб тым, што можам раўняцца з Супруном — не прымерваючы — так, як мужыкі з князем!!

І тут я не хачу быць галаслоўным.

Бо, напрыклад, ці бачыў Ты захад сонца? Не ў Мексіканскім заліве ўвосень, але за парогам роднай вёскі. Я пэўны ў тым, што ніхто з нас не бачыў захаду сонца. Ніхто! А Супрун — бачыў. Яму захад — гэта не толькі канец дня, пыл на губах, ды пах сырадою, і яшчэ не жаўрукі, што падаюць у цёплыя палеткі, і не паліхромія на варотах хаты дзяўчыны, і не раса... А ці бачылі мы расу? Не, не бачылі! Пры ўзыходзе сонца раса на маладой канюшыне — як пляц, што забрукаваны дарагімі каменнямі, і асляпляе вочы, і пахне чымсьці незямным. Радасцю радасцей? А ці яна можа пахнуць? Ну, а ці могуць быць перлы рос?.. Цераз гэты пляц, шырачэзны, таспадарскі, выбрукаваны дарагімі каменнямі,



святочна праскакаў зачараваны заяц ды пачаў страсаць перлы з пустазелля, што ў сутачках паміж жытам Сцяпана і аўсом Рыгора. Супрун не пужае яго, маўчыць маўчаннем паднябесным, маўчаннем, якое ўсё з урачыстасці!

Дарагі Чытач! Не падумай, што Супрун нядбайна пасе статак жывёлы, даверанай яму, і што трымаюць яго за пастуха таму, што няма пастухоў. Так не думай. Ён з'яўляецца, бадай, адзіным на Беласточчыне пастухом, які не чыніць шкоды са статкам, што з апостальскай памяркоўнасцю пасецца толькі ў вызначаным месцы.

Учора Супрун бачыў страх на вераб'ёў. Такога страху не бачыў ні я, ні Ты. Гэта незвычайны страх. Вядома — у падраным пінжачку, зношанай шапцы і яшчэ ў чымсьці старым, гэты страх вельмі любіць мак. Стаіць ён на загоне дзень і ноч. Ён цешыцца багатай восенню — чырванамордымі бурачыскамі, пасярэбранай фасоляй, пазалочанымі гуркамі-насеннікамі, кумпястай капустаю, ад якой раскошны пах гатаванай бараніны з часнаком. Страх у маку марыць аб калядняй куцці і аб паінелым ад цукру пірагу ў першы дзень зімовага свята, накрушняваным на цэлую стальніцу. Пры гэтым шкадуе ён вераб'ёў, якія чортведама чаму, хіба з сытай раскошы, забаўляюцца ў высахлым быльнягу. І страх задумаўся, як навучыць вераб'ёў розуму? Яны ж застаюцца без запасаў, гультаіскі!

А ўвечары, калі святло ператварылася ў змрок, страху было невымоўна адзінока. Ён хіла марыў аб зацішнай паветцы гумна, у якой бяздумна ўляглiся снапы малочанага жыта.

Супрун паказаў мне жыта. Ён сеў на мяжы, а каласы так і нахіліліся над ім. Гутарыў з імі. Я не чуў, каб хтосьці вёў гаворку з каласамі! А ён — вёў: аб блакітным небе, аб хмурынках на ім, аб сонцы без літасці, аб ветрыках, што шныпараць у палетках, аб зямлі, якая

выраклася іх, і пра зайца-вандала, што стрымгалоў гайсае па траве, і аб жаўруку — сябру верным... Не толькі аб тым Супрун доўга гаманіў з імі, бо кожны колас меў яшчэ і сваю справу: то скардзіўся на каменя-забіяку, то на асота-нахабніка. Кожны са сваёй бядою век дажываў, і дзіва брала, што нямаш такой смерці, якая прыйшла б пасля ўсяго закончанага. І лянок, што за жытам, таксама дапытваецца пра свой сум па гаспадыньцы, сінявокай дзяўчыне. Чаму гэта, беларусая, знелюбіла яго? Незаслужана ганьбуе ім?

Восеньскі дзень кланяецца суму. Скажы, Дарагі Чытач, што такое сум? Сум, гэта калі нам цяжка? Праўда, усе згодны з тым. Сум тады, калі няма каханай асобы? І гэта праўда. Калі нешта не ўдаецца? Таксама праўда. Зможам пералічыць з сотню назваў суму, і не будзе сярод іх несапраўднай. Справа, аднак жа, у тым, што ніводная з іх не датычыць Супруна, бо ён такі шчаслівы, як ніводзін з нас. І адначасова сумны! Ды ягоны сум не такі, як я думаю, як Ты думаеш. Немагчыма сказаць пра сум Супруна, як немагчыма выказаць, напрыклад, выбух. Выбух? Зямля здрыганулася, шыбы вылецелі, у вушах зазвінела, паваліла з ног і т. д. Усё-такі адчуваем, што ўсе гэтыя словы адно ўзвышаюцца. Менавіта, узвышаюцца яны, быццам маякі, паміж якімі знаходзяцца палі, пагоркі і даліны. Адчуваем, бачым тыя пагоркі ды даліны, але гаворым аб маяках. Гаворачы аб маяку, маем на ўвазе не аднаго яго. Мы заўважаем усенька навокал. Тым не менш наша размова з'яўляецца называннем маякоў, вандроўкай ад аднаго да другога, каб усё пабачыць увачавідкі, усё тое, што паміж імі.

Супрун ідзе са статкам кароў ды авечак па восеньскім полі. Яму не патрэбны маякі.

Дарагі Чытач! Ці бачыў Ты, як плача дзічка на паржавелай мяжы? Не, я ўпэўнены, што Ты не бачыў яе плачу! Супрун жа бачыў дзічку ў слязах, якую абступілі рагатуны-вятрыскі, разбэшчаныя сыны хмар. І хацелі яны пакаціць яе, бы адзінокую дзяўчыну на пажарышчы вайны...



Дарагі! Чым больш думаю пра Супруна, тым менш шкадую я таго, што так мала бачу, так мала разумею, адчуваю. І не перастаю зайздросціць яму.

Душа мая шчаслівая.

Хацеў бы ведаць, ці сапраўды?

## НЯВЕСТАЧКА ОЛЯ

Засумавала я па вас, даражэнькія нявестачка Оля, сыночак Грышачка і ўнучачак залаценькі Генічак, хоць раз напісаў бы мне ручачкай маленечкай пісямко.

Волечка! Як ты маешся, як здароўечка тваё, як жывеш? Чамусьці не пішаш да мяне? Мусіць, моцна я надакучыла табе? Мо што кепскае я і зрабіла — выбачай, не злуй. Цябе лічу за дзіця роднае, у мяне дачок няма — усё здаецца, што гэта ты мая дачка, і я люблю цябе лепей, чымсьці Грышку.

Дзякую за фарбу! Нават ужо пафарбавала ёю пражу на вельмі пекны колер — зялёны. Світэр удасца на зайздрасць усім, ніхто такога мець не будзе. І вайлакі хутка пашыю я, бо ногі мае старыя мерзнуць, адтанцавалі маладосць даўнюю.

Просьбу маю да цябе, Волечка! Прыпомні ты Грышку, каб сыскаў ён акуляры ў майстра ля вуліцы Сянкевіча, квіток на іх узяў, абяцаў прыслаць і хіба забыўся... А на гэтыя акуляры, што ёсць, татка надта слаба бачыць, чакае новых ды не можа дачакацца. Сварыпадымае са мною, як бы я тут вінаватая...

Оля! Цётку Зольку дурную, што да вас лазіць, гані вон з кватэры. Яна пляткарка, у вочы глядзіць і махлюе,

меле языкам, як цялё хвастом. Маці сваю, што век дажывае, і то не прыняла па-людску, не дала ёй пагасцяваць. Наракала гэта бессаромная Золька, што на траты вялікія старая навяла яе, бо за білеты на праезд трэба было семдзесят злоты заплаціць ды дзень цэлы карміць. Во, як аддзякавала, гніда паршывая, матцы роднай!

Волечка мая добрая! Яшчэ апішу табе адну справу: мо мяса хочаце купіць? Добрае, сытае! Паршук быў адкормлены гладка ў суседкі нашай Алюты. Зацэніць яна па якіх сорак злоты, пяцьдзесят кіляў адразу адпусціць. Паведамі мяне зараз жа, як толькі гэтага ліста майго атрымаеш, у знаёмых папытай, ці захочуць яны прыдбаць сабе свежаніны свіной, бо ў нас ніхто не купляе мяса, кожны сабе свінні коле. А трэба ж Алюце за штосьці выдаткі гаспадарскія ўладкаваць, падаткі заплаціць, і сыну даросламу касцюм з крэпы заказаць надумалася, таму і танней прадае, грошы ёй надта ж патрэбны!

Будзільнік, які маем, зусім ужо нікудышні, зноў сапсаваўся, ладзіць трэ, хоць ты трэсні, бо невядома, якая гадзіна ў ранкі зімовыя познія. Меўшы часіну вольную, папытай, Волечка, у краме дзе пра ланцуга да ровара. Вясна, дай божа, настане, у поле або на сенакос ездзіць спатрэбіцца бацьку нядужаму. Тавар гэткі часамі ў ларок наш прывозяць, ды за маладымі не даступіцца да яго.

Дзякую таксама, дачушка, што просьбу маю паслухала і лісця лаўровага, перцу, цынамону, дражджэй наслала ты мне. Чакаю пісьма ад цябе, напішы пра здароўе свае, і як жывеш, і ці Грышка добры, ці не сварыцца ён іншы дзень. Пра ўсё напішы. Да пабачэння. Бывайце здаровенькія!

Пішуць да вас маці з бацькам, цалуем моцна!



## ДАРОГА ДА ЛЕКАРА



арагая мая дочачка Оля! У першых словах свайго пісьма паведамляю табе, што я жывая і пакуль здаровая. І каб бог даў табе ўсяго найлепшага ў жыцці!

Пішаш, што Генічку, сыночку маленькаму, лекар прыпісаў кропелькі ў носік запускаць, бо нешта застудзіўся ён. Глядзі, шануй дзяцінку сваю мілую — майго ўнучачка даражэнькага. Нічога, што лета гарачае цяпер; прадуць ветрам заўсёды можа. Мо ўночы раскрываецца ён ля акна прачыненага, пацее пад коўдзеркай, і вось — хвароба гатовая! Не адзявай яго зацёпла.

Мне таксама нездаровіцца. На тым тыдні да таго ж пачало ныць у крыжы, што і па сёння не магу нагнуцца. Няйначай, гэта ў жніво я ператамілася так безразумна. Авёс нам зусім высушыла ў Александроўскім палетку. Пасярэдзіне палоскі бацька яшчэ мог захапіць касою, але па баках трэба было сярпом выжынаць, на калені станавіцца, гэткі малы парос ён у нас, проста без пары паспеў увесь. У суботу ды ў нядзельку звозілі мы снапы ў гумно: яксьці хмары паказаліся — думалі, дождж намочыць усенька...

Парабіўшы збольшага ў гаспадарцы, кажу я бацьку, каб пусціў мяне ў горад да лекара слаўнага. Вытрымання ў мяне ўжо ніякага нямаш, не сплю, а пакутую, хоць ты енч на ўсё горла! Выбралася я ранкам у Сойчыну Горку на прыпынак аўтобусны. А ў тым аўтобусе пусцюсенька. Вядома, у жніво рэдка хто ездзіць, калі работы тае ў полі ад рання да вечара, хоць ты задушыся. Кандуктар адразу ўзяў грошы за дарогу, а білет меўся пасля даць. Што ж мне да ягоных спраў? Абы даехаць шчасліва да месца і то як найхутчэй! Ажно за Слаянскім лесам як не пачне гамаваць машына, чуцінькі не звалілася я на памост са свайго крэсла, гэтак рап-

тоўна затармазіў шафёр. У тую ж хвілю ўскоквае пярэднімі дзвярыма чалавек службовы, ні то кандуктар, ні то які-лень з кантролю, апрануты па форме.

Цюкнула нядобрае: бачу, падыходзіць ён да пасажыра першага ды пра білет пытаецца. Аўтобус стаіць на месцы, не кранецца, адно таксовачка аднекуль з'явілася пад вокнамі.

Пытаецца той у мяне, каб білет яму я паказала. Адказваю, што ў кандуктара білет мой, напэўна, ёсць, заплаціла ж за яго ад пачатку! А як жа, начальнік ён будзе нейкі важны ад кантролю, бо прыкрыкнуў на мяне, што нібы кожны дурань ведае аб кандуктарскіх білетах, а я хачу камбінаваць, ды застарая на тое! Прытым і не ўмею — хітрэйшыя круцяць, што быццам бы пагубілі білеты... Вось яно як! Намерылася я пасараміць маладзёна таго службовага, як гэта ён да старых адносіцца, ды чую — кандуктар мой гэтак жа кідаецца да мяне, нібы адурэўшы, і абзывае. Аж мне дух адняло ад дзіва такога: як гэта чалавек увачавідкі лгаць здолее ні з сяго ні з таго? Крычу-малю, каб ён прыпамянуў сабе плату маю, бо нашто-пашто цярпець кару падвойную, штраф і ганьбу перад людзьмі?!

Тут, пэўна, самому начальніку гэтаму не спадабалася, што кандуктар мацней лаецца на мяне, чымсьці ён сам, і тады з месца абсадзіў яго, кажучы, што гэта немажліва, каб ён не даў рады абдзяліць білетамі ўсяго трох асоб на ўвесь пусты аўтобус, калі б яны, тыя асобы, нават і не хацелі даваць грошай за дарогу ўсеўшыся.

Пазаглядалі яны абодва яшчэ і ў торбу скураную, у якой грошы з білетамі тымі няшчаснымі ляжаць...

Не іначай нажыцца хацеў, Волечка, той кандуктар на грошах невялікіх ад старой бабы цёмнай, каб потым мець за што піва тое, жоўтае, бы сікі конскія, хляптаць кухлямі цэлымі. Значыць, колькі білетаў ёсць на людзях раздадзеных, столькі і грошыкаў у ягонай торбе



павінна быць. Так мне ўчора тлумачыў Юрык пра хітрыкі кандуктарскія: раз не даў мне білета, то як бы я задарма ехала, адна плата яшчэ няважная...

Калі ж я ад лекара вярнулася ды прыйшла на вуліцу тую, з якой аўтобусы ўсюды ад'язджаюць, думала, начаваць давядзецца ў горадзе чужым. Народу ўсялякага набілася ў аўтобус, а пераважна хлопцаў з дзяўчатамі; малавеле касцей не паламалі мне, ушчэнт кошыка пакрышылі. Трэба моц мець маладую, каб праз дзверцы прапіхнуцца ў сярэдзіну пры сумятні страшэннай. Сонца прыпякло, дык за горад пруцца малададзеі, над рэчкай паляжаць, пакупацца, пагультаіць, праваляцца дзень да вечара, кульшы голыя на пяску разваліўшы! Чалавеку вясковаму няма як дамоў вярнуцца... Аўтобус ірвануў з месца, бо затапталі б яго; ледзь я ўбілася на ступенькі задція, а так, папраўдзе, дык я ўжо хацела наступнага аўтобуса пачакаць, але натоўп панёс мяне да тых дзвярэй, быццам чорт грэшную душу!.. Хацела не хацела — паехала я.

Сціснулі да паўсмерці ў духотнасці смуроднай. Паўжывою прастаяла я ўсю дарогу, косці да рэшты разбаленіся, хаця і шмаруюся масцю прыпісанай па два разы ў тыдзень. Ці гэта масць што паможа?

Кепска куды-небудзь выбрацца старому ды яшчэ непісьменнаму, на зямлі спрацаванаму, згорбленаму...

## ПАЕХАЎ СЫНОК ВУЧЫЦЦА



нілася мне, што ты стукаеш у дзверы, плачаш: «Адчыні, мамачка!» Але я не магу падняць руку, адсунуць засоўку...

Прачнулася ўзмакрэлая. На дварэ браўся дзень. У коміне дзіка рагатаў вецер, шамацеў у стрэсе. Ахапіла мяне нядобрае прадчуванне. Мой сынок! Паслала я табе пачку з сушанай каўба-

сою, якую ты так любіш; паклала таксама два сыркі, дзесяць гатаваных яёк, палову шынкі, ігруш з той старой ігрушы, што расце за гумном, і слоічак мёду, загорнутага ў шмаццё, каб не пабіўся. Не маеш, пэўна, волі ў тым школьным інтэрнаце. А і якая ж там можа быць гэта казённая ежа?!

Асцерагайся-беражыся, даражэнькі, электрычнага току! Нядаўна ў нас канцавога Юліся чутанькі не забіла ім, нешта майстраваў ён у дратах, бо радыёпрыёмнік новы купіў і сам захацеў падключыць яго. Антоля кажа, што Юлісь і зараз не кожную работу зрабіць здолее, плечы і спіна яму баляць — зверху ды на кухонныя гаршкі ён зваліўся, вось!!

Глядзі, Віцечка, не падлезь пад самаход! Пазаўчора ляснік з Копнай Гары праязджаў роварам праз вёску ды Антолю малавеле не раз'ехаў: спадніцу чымсьці падраў ёй і вядро малака выліў.

Калі ўсё атрымаеш, Віцечка, дык добранька прыхавай у чамаданіку і замкні яго ключыкам, бо ўкрадуць у цябе якія заморанікі. Памятаеш — увесну на кірмаш я паехала, і дваццаць злоты ў краме выцягнуў у мяне хтосьці з кішэні. Хуліганаў усякіх валочыцца па вуліцах — адно і падпільноўваюць.

Не бíся ні з кім, сыночак, бо толькі пакалечаць цябе аднаго і захварэеш. У тую нядзелю Васіль жаніўся, перагародкі ў хаце разабралі, каб больш сталоў умясцілася,— ад нас пасуду, крэслы пазычалі. Аўтобус да шлюбу нанялі. Калі ж пачалі дарыць маладых, цесць адрокся ад свайго слова і не даў гумавіка ў пасаг. Сват лаяцца пачаў, старшы дружбант выкрыкнуў, каб Васіль на развод падаваў з месца, а музыкант, той хілы Генрык з Дзевічага Лугу, агурком шпурнуў у швагра Васілёвага, які хваліўся, што адну «Яву» ўжо заездзіў і хоць заўтра можа купіць другі матацыкл. Бойка на вяселлі разбушавалася такая, што, каб міліцыя раніцай не прыехала, невядома, чым закончылася б яна! І маю



пасуду пабілі, і Васілю аперацыю рабілі на патыліцы. Кажуць, выжыве...

Шануй сябе, апранайся цёпла. Насі світрык, пінжак і шалік, каб не застудзіўся. Купім табе чаравікі з футранай усцілкай, штаны яшчэ адны, суконныя, і вушанку з заячай шкуры.

Восень прыйшла да нас, цэлымі днямі крапаціць па шыбах сцюдзёным дажджом. Увечары бацька вернецца з малацьбы, ды гатаваць нічога не хочацца: няма цябе, няма каму. Гутарым-згадваем, як жывецца табе ў чужых людзей.

Пакровы мінуліся, а пісьма ад цябе як не было, так і няма. Пісьманосец кажа, што ты, Віця, мабыць, яшчэ не напісаў таго пісьма, таму і не прысылаюць яго нам. Але я не веру яму. Чула, як ён учора смяяўся ў суседкі: пра Віцьку ўсё думаюць, датла памарнелі. Шлюць яму пасылку за пасылкай, а маладому толькі таго і трэба. Нябось, каб холадна ды галадна было яму, хуценька начырыкаў бы ім пісямко...

Так смяяўся.

## У ЗАВЕЮ



Хрышчоны Міхалка шэпча ў твар так, каб ніхто не пачуў:

— Заве-ея, заве-ея!.. Бачыш?!

Міхалка вышэйшы, і яго чырвоны нос тыцкае мне проста ў брыво. З боку ад яго авечай вушанкі відаць месяц, а навокал месяца бялісты круг.

— Праўда, хрышчоны, праўда, будзе завея!

У Міхалкі па-воўчаму бліпічыць вока, бо другога не бачу, нос засланіў. Дыхае ён, аж дух забівае. Хачу адвярнуць галаву і ніяк не магу, усё роўна як шыя здранцвела. А Міхалка свідруе бельмам навылет, не адпускае:

— А што, не казаў? Мо няпраўда?.. Дык запрагай каня, запрагай хутчэй! Чуеш?!

Буланка стрыжа вушмі, адварочвае ўбок кудлатую грыву — не то саромеецца, не то баіцца чагосьці. Хрышчоны Міхалка бубніць у кабылінае вуха:

— Не храпі, буланка, не храпі, золатца, а то вунь сусед нядобры пачуе.

Буланка крадком тупае, углядаецца ў прыгуменні. Міхалка гладзіць закручаны полаз:

— Ціхенька, бярозавы ты мой, ціха-ша-а, не рыпі...

За вёскаю, на пагорку, сава загукала ў кучме акалелага зарасніку.

— Маўчы ты, прыгажуня,— падміргнуў ёй Міхалка.

А яна, дурная, напраўду падумала, што прыгожая вельмі, натапырылася, ажно месяц ґарласты чуць не разрагатаўся. Ды буланка махнула хвастом у яго бок, зубялямі перадражніла ягоную нястрыманасць.

Анямеў паднябесны валакіта, застыла на ім серабрыстая ўсмешка ад вуха да вуха.

У полі чыстым бор удалечыні чарнеецца. Заяц-палахлівец вышмыгнуў з каляіны і кінуўся ўцякаць без агляДкі ў прысады сялянскія. «Памятай, нідзе не быў і нічога не бачыў!» — нёсся за ім бясслоўны наказ: мой, хрышчонага Міхалкі і буланкі. А сава нячутна паляцела следам, каб наказ наш дапільнаваць, за пахвалу аддзякаваць. Толькі зоркі залётна хіхікалі, са смеху трацілі раўнавагу, зрываліся і ўніз, на зямлю, падалі, да яе не даляцеўшы, згараючы.

У Чортавым гушчары Міхалка выцягнуў з саломы пілу, рукавіцу тоўстую падаў патрымаць, а сам пальцам мазольным зубы точаныя мацаў.

— Рэжа, як масла,— сказаў гучна, аж сосны прыціхлі.— Вось гэту спілуем,— стукнуў ботам дрэва векавое.

Сосны-сястрыцы пахіліліся, загулі. Піла непаслухмяная енчыць, з рук выслізнуць хоча: «Што-о ро-обіце?!. Што-о ро-обі-і-це?!» Прымчаў вецер-задавака, загаласіў у дрымучым урочышчы: «Зла-а-адзеі-і!.. зла-адзе-е-іі!..» Сняжынкі гурнулі роем, мяцеліцай вочы засыпалі, у шчокі закалолі марознымі іголкамі, запяклі. «А вон!.. А вон!!!»

З-за пня гарыць Міхалкава вока, гарыць, не маргне. «Ну!» — Пот цячэ па скронях. Дрэва трашчыць, валіцца, знікае ў віхры. Камель падскочыў, уздрыгнуўся, быццам задумаў адпомсціць за смерць, але вось ляжыць і ціха стогне, а Міхалка ўсё адмервае кавалкі, а піла ў роспачы вішчыць.

— Не бойся! Толькі не бойся,— Міхалка ляпае мяне па плячы.— След занясе зусім, у такую непагадзь сабакі на двор не выгнаць, не гаворачы пра палясоўшчыка...

На гасцінцы адусюль збягаюцца елачкі — прыгорбленыя, сумныя. Праводзяць маці-сасну, бы жывыя хістаюцца ад напаткаўшага іх гора. Міхалка лупіць пугаю буланку — крывадушна, бязлітасна. Я папіхаю сані: хутчэй бы выбрацца ў поле, далей ад таго натоўпу зялёнай сям'і. Млосна, ой, млосна на душы...

Уздыбілася снежная гурба, круціць. Не, не гурба, гэта смерць у белым адзенні, з касою, скаліцца над санямі, задаволена ківае чэрапам. Але што гэта? Дзе каса была, там вырачылася руля стрэльбы, а дзе чэрап — вусатая маска ляснога стражніка! І крык:

— Украў! У турму... У турму!!!

— Міхалка! Міхалка!! — клічу хрышчонага і бягу да каня, лейцы знаходжу пад палазамі саней.

А Міхалкі і след прастыў.

## УДАЧА

Свіння зразумела, што ёй не выкруціцца з нашых рук, і сама палезла ў клетку, каб зважыцъ яе ды прадаць.
Сцяпан сказаў:

— Прадамо на тысячу злотых больш.

Так і зрабілі: свіння важыла дзвесце кілаграмаў, але Сцяпан напісаў — трыста!

Я пабег у касу па грошы.

Сцяпан сказаў:

— Вось і зарабілі на тысячу больш: пяцьсот мне і пяцьсот табе!

Так і падзяліліся. Ого, Сцяпан — гэта вялікі ашуканец, і часамі варта пасябрацца з ім, думалася мне. Ажно тут здарылася неспадзяванасць: свіння раптам маргнула да нас вокам ды зашаптала чалавечым голасам!

— Я вам дам заробак, я вам пакажу заробак, свінні вы! — лаяла нас спадцішка свіння.— Свінні вы, кажу гэта вам я, сапраўдная свіння! Усё раскажу, дзе трэба, аб вашых камбінацыях, вашых махлярствах, ашуканствах, свінствах, што ганьбяць нашае добрае, свіное імя!

У мяне і Сцяпана падняліся валасы пад шапкай. Ён першы не ўтрываў, бразнуўся на калені і заплакаў перад лычом.

— Даруй мне, больш не буду камбінаваць на свіннях! Бажуся! — лямантаваў Сцяпан, спрабуючы пацалаваць яе ў лыч.

Перапалохаўся і я. Са страху перахітрыў Сцяпана, забег ад заду ды пацалаваў свінню ў хвост.

Яна павесялела, замахала хвосцікам, скруціла яго спружынкаю.

— У мяне жонка, дзеці... маленькія дзеткі, бы парасяткі! — крычу-малю праз слёзы і ўсё прыглядаюся, дзе б яшчэ пацалаваць гэту свінню, але ўсюды на ёй агідныя фрэнзлі шэрсці.

Мне са Сцяпанам удалося выплакаць ласку ў свінні. Яна разлеглася. Прыдрамала.

А мы, дачакаўшыся вечара, папоцемку вярталіся дамоў. Ішлі сярэдзінаю вуліцы, каб людзі не бачылі. І па лужынах, быццам свінні...



## СПРАВА

Задумаў я стаць прадаўшчыком у вясковым ларку, каб крыху капіталіку прыдбаць. Заязджаю з просьбай да начальніка.

— Не спяшайцеся, не пажар,— пачаў гаварыць начальнік ды ўсё моршчыўся ад маёй нецярплівасці. Урэшце растлумачыў: — Пачакайце яшчэ крыху, пакуль гэтага прадаўшчыка, што ёсць, пасадзяць туды, куды трэба...

«Эгэ, думаю, раз ты так кажаш, значыць, Сцяпан цябе здорава падмазаў! Не выкінеш ты яго...» — Але да таго ж захацелася быць прадаўшчыком, што хоць ты трэсні!

Паехаў я другі раз да начальніка, ды з жонкаю! У Сцяпана ж яе няма, кавалеруе...

— Чаго надакучаеце! — закіпеў начальнік.

— Таварышку дарагі, дальбог не ашукаю вас! — грымнуўся я перад ім. Ён пачырванеў; у тую ж хвілю за маёю спінаю хіхікнула жонка, нібы з мяне, але — чую — начальнік адразу абмяк. «Добра быць з прыгожаю жонкаю ў начальніка».

Куючы жалеза, пакуль яно гарачае, я засунуў руку ў кішэню, у якой нарыхтаваў тысяч з пяць хабару, запячатаных у белым панскім канверце. Ціха па дыване падступаю я да стала начальніцкага, быццам да будкі з бобікам на ланцузе, каб сунуць той канверт з грашыскамі пад мармуровую чарніліцу...

Ажно забягае наперад мяне жонка ды ласкава ляпеча начальніку:

— Будзе абарот і пераабарот. Так, так, будзе!

Бачу, яна дае мне знакі леваю далонню, каб я адступіўся, а праваю ўжо бярэ руку начальніка — і чырыкае да яго, і чырыкае...

— Будзе, пан начальнік, напэўна! Я вам не дзеўка, каб толькі абяцаць...

Ён паглядзеў у яе вялікае блакітнае вока і пачухаў патыліцу. Лысую патыліцу.

Падабрэў...

Так я, на месца Сцяпана, стаў прадаўшчыком... Усё адбылося без хабару.

* * *

Ідуць тыя, янычары імперыі АБЫ-ЖЫЦЬ з шаблямі крывымі, як сумленне, з мушкетамі, у якіх кулі бяздумнасці. Ім усё роўна, чыю зямлю таптаць. Ідуць: лева, лева, лева!

Гавораць. Языкі ў іх кавалкамі мяса. Мова іх не ад сэрца гарачага, але ад звону золата яна. Кожнае слова яе — дукат: купляюць, купляюць, купляюць!

На ўсходнім рынку ўсё можна купіць і прадаць. «Ма-ая-я-аа мо-о-ва-а-а не-э-э з пы-ы-ышны-ы-ых са-аало-о-онаа-аа-аў-ау-у!!!...» Слова яе — паўдуката, па чвэрць дуката і менш! Па два, чатыры і больш слоў маіх за адно, янычарскае. За бесцань!

Калі будуць прадаваць, хачу быць слязамі горычы іх. І плакаць! Калі мову маю паставяць пад сценку абыякавасці, хачу быць яе крыкам! І памерці, маючы гадоў трыццаць тры. Калі ж пачнуць хаваць яе ў магілу, хачу быць канём князя Яцвягіі.

Каб не расстацца з ёю, роднаю!

Ідуць тыя...



## ВЕРУ

Веру ў каханне крынічна-чыстае, ды розум нябесна-бяздонны, і ў годнасць таполе-блакітную. І ў смутак, поле асенняе, веру, і ў радасць, квітненне ўрачыстае, даступныя слязам роспачы альбо захаплення. Веру ў спакой, зорку нявечную, і ў зямлю, глыбіні невядомыя, што даюць нескапчонасць паўтарэнняў альбо бессмяротнасць. І ў гнеў, вяртанне заўзятае, і ў маўчанне, жанчыну зганьбаваную, што дакранаюцца сумлення жывога альбо ўяўлення...

Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.
І ў вечнае, бо бязмежнае.
І ў чалавека.
І ў свет —
веру!

## МАГІЛЫ

На магілы часу, пазначаныя крыжамі нашай эры, падаюць ужо пажоўклыя лісці гэтага года. І бачыць тое цішыня, якой усё роўна, чыё стагоддзе на дварэ... Толькі над магіламі надзеяў, што спапяліліся ў прах бяссэнсу, хіляцца чорныя ўдовы з сівізной недаумення. І плачуць, плакаць яшчэ здольныя. Часам рука — прыгожая, бы гарачасць! — запаліць свечку на магіле кахання; пачуцці, пахаваныя ў глыбінях болю.

Ідзе чалавек, спатыкаючыся, пераважна, аб чужыя магілы. Калі нідзе і нікога, ён укленчыць ля магілы сяброўства. І ля магілы чалавечнасці.

Укленчыць ля магілы годнасці — з галавою на грудзях, са шчокамі ў сораме, а з вачыма, пазычанымі ў сабакі. Ён не ўкленчыць ля магілы мараў, абыдзе магі-

лу веры. Як у горадзе, дзе ёсць дамы такія, да якіх падыходзяць з гонарам ды публічна, і такія, да якіх набліжаюцца крадком ды з агледкаю. І такія ёсць дамы, да якіх ніхто не пакваціцца.

Магіла з часам западаецца, і на яе месцы выкопваюць новую, са здзіўленнем адкрываючы там даўнюю труну, ужо спарахнелую. На яе месца апускаюць свежую.

## СУСТРЭЧА СА СВІНСТВАМ

Я ўгледзеў яго ў аўтобусе гарадской камунікацыі, з Выгоды: здаўся мне несамавітым. Мы паглядзелі адзін на другога і нічога не сказалі: паміж намі заперлася капытамі... Падумалася: пайшоў ты чэрцям на спажыву!
На прыпынку ля забягалаўкі «Сонейка» ён нечага выйшаў, застаўся стаяць на тратуары. Хоць яму трэба было яшчэ ехаць — да прыпынку ля ваяводскага суда...

Па праўдзе кажучы, дык ён нічога дрэннага не зрабіў мне. Наадварот, гэта я скалануў ім калісьці так, што чуць з карэннямі не вываліў ягоную кар'еру. З тупой зацятасцю! Ды ён — ведаю аб гэтым напэўна — нават не здагадваецца, што гэта менавіта я! Даўно было, ужо не памятаю калі. Многія гады я перажоўваў тое, асабліва кладучыся спаць і ўстаючы. Ператварылася яно, успамінанне ўчыненага яму, у рысу майго характару.

У аўтобусе я паглядзеў на яго з такой крыўдай, ад якой сціскаюцца кулакі: свіння ты! Чаму? Не ведаў, але адчуваў: мала сказаць, што я з не зразумелай мне лёгкасцю дайшоў да свінства ў адносінах да цябе — ты проста прымусіў мяне так зрабіць! Калі ж так, дык...

Ён выйшаў з аўтобуса, быццам бобік з сенцаў. Даволі было паглядзець яму ў вочы з дакорам, і ён адразу павярнуўся ў дзверы. З падтуленым хвастом.



На тратуары вырачыўся абы-куды.

Аўтобус крануўся далей. Я нахіліўся да акна, не могучы наглядзецца на гэтае жывое свінства. Яно паклыгала ў цэнтр горада, бы нейкі турыст, які пабачыў нешта ашаламляльнае і зараз ідзе ў пошуках ціхага кафэ, каб сесці за столікам і адпачыць, перадумаць, сабрацца з духам. За паваротам вуліцы ён знік у мяне з вачэй, але я ўсё ўглядаўся ў віратлівы натоўп. Здавалася, вось-вось вынырне ён сярод сустрэчных тавараў. Ад такога майго чакання людзі на тратуарах пачалі як бы клыгаць, як бы паварочваць абы-куды, як бы горбіцца ад нечага цяжкага,— якісьці таўстун з аб'ёмістым партфелем пад пахаю як бы рохкае з выглядам кормніка, што ўжо перастаў адчуваць патрэбу рыцца...

Мяне кінула на падлогу. Не ўпаў, ухапіўся за чыёсьці плячо. Той хтосьці зазлаваў:

— Вы п'яны! — слова «п'яны» амаль выкрыкнуў.

— Выбачайце,— збедніўся я, як чорт пад крыжам.— Прашу ў вас прабачэння. Вельмі!

Аўтобус гамаваў, уздрыгваючы, і ўрэшце спыніўся на прыпынку, што ля ваяводскага суда.

Я выйшаў на тратуар.

Бяздумна пастаяў пад бязлістым дрэўцам, а потым пачаў пераходзіць на другі бок артэрыі, пасярэдзіне якой спужаўся глыбіні Нарвы: перад носам шмыганула легкавая машына, прадаўгаватая, з бліскучым кузавам.

Дайшоў да берага, на якім стараверbіліся боты міліцыянера. Я зразумеў іх, яны прытупвалі ад злосці!

— Што вы сабе думаеце?! Куды вас гоніць?

Я ўзняў вочы.

— Ваш пашпарт!

Паказаў.

— Ага,— ён чытаў у пашпарце.— Настаўнік, значыць, з вёскі.

Я не адказаў. «Чаму гэта настаўнік можа быць толькі з вёскі, падумалася. Быццам ксёндз!»

— Плаціце штраф,— і выпісаў паперку на пяцьдзесят злотых.

Заплаціў.

Ішлося мне дамоў неяк лягчэй, усё роўна як пасля сустрэчы з цудоўным сябрам, які сказаў: «Здымаю з цябе адно свінства і выкідаю яго вон! Во, глядзі». І свінства, у выглядзе якойсьці агіднай анучы, паляцела ў смуродную яму.

То зноў хацелася зарагатаць чортведама чаго, вярнуцца да міліцыянера ды наплясці яму па-дзіцячаму глыбакадумнага: «Вы даверлівы чалавек, пане міліцыянце! Пакаралі мяне за парушэнне правілаў вулічнага руху, бо я перайшоў цераз скрыжаванне пры чырвоных, небяспечных, сігналах, гы-гы-гы... Ой, даверлівы! Вам нат і ў галаву не прыходзіць здагадка, колькі іншых правілаў я парушыў. Напрыклад, правілы сяброўства, га? Не хапіла б блакнота на штрафаванне...»

Уцеха — мая, мая, мая... Аж змучыўся: «Пры чым тут міліцыя? Чым жа яна зможа памагчы мне? Ну, чым?!»

І зноўку зрабілася мне цесна.

Я па-сабачаму нырнуў у пад'езд сваёй кватэры, павярнуўшыся хвастом да растрывожанай вуліцы.

## ВЯРТАННЕ Ў КРЫНКІ

Я свечкі запаліў, у пакоі цішыня велікодная. Бачу Бацьку...

Крынкі халадынанагія! Іду ў даліну пачатку свайго — готыка дзяцінства на небакраі. На вашых выганах бескляпотнасці і ў вішнях радасці рэха загуляла са мною ў схованкі. Чырванею, засаромлены сталасцю.



Крынкі вячэрнезвонныя! Кіра-пані харавством візантыйскім сваім не асудзіла мяне на будзённасць. І, магчыма, супроць волі яе пайшоў я тады прэч з бязбожнай верай у Купалу.

Крынкі ціхалістыя! Вяртаюся пяццю дарогамі пыльнымі з пустыняў жыцця ў крыніцах вашых абмыцца. Знявечаны бізунамі смутку, не паказваюся...

Свечкі гаснуць без памяці.

## ПАН КАРАЛЬ

На складзе Беластоцкай управы аптэк лякарствы ўпакоўваюцца ў памяшчэнні з адным брудным акном.

Стары Карусь звалакае сюды пустыя скрыні, якія прывозяць з аптэк, і бубніць. Ён не пераносіць падгалых фармацэўтак у белых фартухах, іх газетных уяўленняў пра сельскую гаспадарку і нахабнага вымагання ў яго таннага мяса, недарагіх яёк або масла за паўцаны. (У Каруся — гектары пад Беластокам.)

Часамі Карусь ужо не мае сілы ўпакоўваць і сварыцца. Тады ён называе сябе белым неграм...

У суботу прыпхнуў ён на возіку некалькі скрыняў, ухапіўся за верхнюю і бразнуў яе на казлы. Калі кароткім ударам далоні адбіў века, выскачыла адтуль два пацукі. Ён — на стол, што ля ваконца, цераз якое падаюць яму лякарствы для ўпакоўкі... Яму прасунулі кій, і Карусь узяўся за яго аберуч.

Пацукі забегалі. Адзін, атрымаўшы кіем, падскочыў на кардонку, якую трымалі ў пераходзе патрупянелыя фармацэўткі. Карусь біў — то па пацуку, то па чырвона доўгіх кіпцюрыках фармацэўтак, якія ажно вішчалі.

Пацук урэшце ўпаў без памяці, як жмут якіх шматак. Другі, як апантаны, сігануў над кардонкай каля вуха самога загадчыка, што якраз трапіў пад кій Каруся.

Карусь, аддыхаўшыся, досыць спакойна глядзеў на пацука ў агоніі, на акрываўленага кіраўніка, на скурчаных фармацэўтак з паразбіванымі пальцамі.

З таго дня Каруся пачалі называць пан Кароль.

## У ГРЫБОЎШЧЫНУ

У Грыбоўшчыну — лесам; дрэвы і снег. Хвоі, з пахаладзелаю душою, на бялізне безнадзеі. Смутак запоўз на верхавіны і па-савінаму сеў над дарогаю.

Іду трэцюю гадзіну, без вёрстаў.

Наперадзе масток, ад якога павеяла на мяне ўтульнасцю. Збудаванне, з якога я доўга не зыходзіў. Унізе — крыніца жывой вады. У ёй камені з бародкамі водарасцей і шэпт задаволенасці, нешта такое, што жыве пацішку, нацягнуўшы на сябе пухкую коўдру — не з галавою.

Стаяў я на беразе, падняў камень і кінуў у празрыстую яміну. У цішыню. Пачулася нібы затоенае дыханне, ззаду, і наперадзе, і па баках. Было яно быццам пазяханне, перапыненае здзіўленнем. Дрэвы заварушыліся, закалыхалі галінамі.

Лес ажываў.

З хмараў пасыпалася. Вецер падкошваў, і завіруха мацнела.

Асьлеплены, я пайшоў. Да Грыбоўшчыны зрабілася блізка.



## РОЗДУМ АБ НЕКІМ

Ушчырасць тваю паверыць нявопытны або даверлівы. Таму словы твае маюць, праўда, абедзве нагі, ды кароткія: нявопытны перастае быць нявопытным, а даверлівы — даверлівым.

На халодны розум — можна быць нават удзячным табе.

Думкі твае, як шчырасць твая: выбягаюць блізка і вяртаюцца спалоханымі. Для далёкага бегу патрэбны адвага ды розум, і ўсё тыя ж доўгія ногі. Я ж сказаў, што ў цябе іх няма.

Калі сэрца супакоіцца — можна падаць нават руку табе.

Часамі, мабыць, думаеш цвяроза і бачыш далёка. Далей, чым можна таго спадзявацца з цябе. Але ты плюеш на думку сваю і бачанае даляглядна. І ўгнязджваешся па-першабытнаму!

Можна сказаць: твая справа...

Калі б гняздо сабе ўтоптваў ты з нікому не патрэбных саломінак або іншага смецця... Дарэчы — здзіўляешся, што ўсё больш і больш людзей перастае паважаць цябе! Няўжо не падумаў ты, што яны толькі аддаюць належнае табе?

## ЯЕ ПАЧАТАК ЖЫЦЦЯ

Утрэці год пасля шлюбу ён закончыў універсітэт, і ім стала вельмі добра. Яна нарадзіла дзяўчынку. Потым хлопчыка — і тады сказалі ёй, што муж заходзіць да прыгожай ды адукаванай удавы.

Зразумела: ён упэўнены ў сабе! І зрабіла глупства — узяла казённыя грошы, каб за іх выхарашыцца. У су-

дзе, што пасля адбыўся, вылічылі ёй усё, да апошняга гроша. Даведаўшыся ў турме аб тым, што ён пачаў справу аб разводзе, падрэзала сабе вены (ламанай лыжкай). Прыйшлі па яе і вывезлі ў арыштанцкую бальніцу.

Засудзілі яе на чатыры гады, з якіх адседзела тры.

Вярнулася ціха, як сава. Тая ўдава, з якой ён ужо ажаніўся, з зязюльчынай гатоўнасцю аддала ёй дзяцей.

Дзяўчынка цешылася, хлопчыку ж было яшчэ ўсё роўна.

Узялася жыць.

## КВАТЭРА № 13

Было гэта так.

Калі яго схапіў паралюш, яна моцна захварэла. Яе таксама забралі ў бальніцу.

Я пра гэта ўсё не ведаў. Увечары зайшоў у іх трынаццатую кватэру — дзверы адчыніў мне іх старэйшы сын. Пахла запушчанасцю. Дзецям хацелася есці. Яны ўжо колькі дзён не хадзілі ў школу, не выходзілі нават на панадворак.

Ён памёр. Аб ягонай смерці сказалі ёй праз два дні. Сказаў лекар. З прыходам ночы яна шчасліва выскачыла праз акно, вярнулася дамоў, пабудзіла дзяцей, выкупала іх у ванне і ўклала спаць у чыстым. Згатавала абед.

На досвітку — апынулася на могілках, была ўжо звар'яцелай.

Сторож паведаміў у міліцыю — яе выдала бальнічная піжама.

Ёй трэба было ўсё апавядаць аб тым, як гэта на пахаванне яе мужа сышлося мноства народу; як труну з яго целам вынеслі на панадворак; як прыбівалі века, як не было чуваць малаткоў, бо на стадыёне, што побач, якраз забілі гол. І як старэйшы сын плакаў і тузаў тых, з малаткамі... І што праводзілі нябожчыка пунктуальна а семнаццатай гадзіне (шафёр катафалка спяшаўся на наступнае пахаванне)...

Выслухаўшы, яна супакойвалася.

Я наведваў яе штодзень.

Памерла яна праз паўтара месяца. Дзяцей узяла да сябе бабуля.

У трынаццатай пасялілася новая сям'я.

## ЗА ЯРАШОЎКАЮ

За Ярашоўкаю, калі ісці лесам улева, можна напаткаць даліну.

Летам — я, Таня і дзеці — ходзім у даліну, што за Ярашоўкаю. Дзеці бягуць па кветках аж да канца і вяртаюцца. Я размаўляю з Таняй аб цяперашніх ураджаях, якія нават і не сніліся нашым дзядам ды бацькам...

У даліне — сажалкі. У іх спелая вада. Над шпакоўняй далёкай застаўкі хіліцца чыста-белая черомха. Мы прыкмецілі, што да яе прыходзяць хлопец з дзяўчынаю. Ён дорыць ёй галінку ўсхваляванасці. Яны нічога не гавораць, і доўга стаяць.

У бабіна лета мы аблюбавалі сабе месцейка ў зацішшы маладняку, што выгусціўся над далінаю. Пад старым лесам. Тут настой з цішыні і жывіцы.

Адыходзілі мы дамоў, калі сонца ўжо гняздзілася ў аголеных пагорках. За пыльнаю дарогай.

Я адразу не сказаў, што мы прыходзім сюды таму, што над гэтымі сажалкамі некалі была чужая гаспадарка, якая забрала лепшыя гады маёй маці. А яшчэ і таму, што мне ўсё не верылася, каб у так цудоўнай даліне чалавек ад гора выплакаў вочы! І яшчэ для таго, каб

нарадавацца ды наслухацца бесклапотнага смеху маіх дзяцей. Малодшаму з іх восем гадоў.

Восем гадоў было маёй маці, калі стала яна батрачкай у заможнага гаспадара, што валодаў гэтай далінай. Маладосць яе прайшла бокам, за гарамі-лясамі.

## ІСНАВАННЕ

У сонечнае лістападдзе клёны і бярозы ў ялінах — бы нявечнае ў вечным. Пабялелыя ды пажаўцелыя — у маладой зелені. Як прыпамінанне! Таму першай парою года, якую прыдумаў чалавек, з'яўляецца восень...

Ці дзіця думае аб смерці?

Каб гусцей жыць, прыдуманы гадзіны і хвіліны. Бачу лічбы ў вачах тых, што спяшаюць на работу, у кіно, на спатканне або да знаёмых. Прыдумалі таксама вагу і шмат чаго яшчэ, не гаворачы ўжо пра зялёна-шкляныя слепнякі на скрыжаваннях.

Ці можна пералічыць прыдуманае?

Найперш прыдуманы пачатак і канец, з перакананнем, што гэта можа мець значэнне ў бясконцасці, а не толькі з жадання быць патрэбным. Хто зразумеў сваю непатрэбнасць — памірае... Аднак жа трэба адразу сказаць, што і патрэбнасць з'яўляецца такой жа выдумкай, як грошы, або машыны, ці бомбы.

Прыдумваем дзеля штораз іншага існавання. Але існаванню напляваць на ўсё тое, і нават на тое, ці прыдумаем сэнс свету або параскідаем яго ў пылінкі атамаў. Што ні зробім — з'явіцца тым жа існаваннем, як бацькі ў сыне, зямлі ў людзях, матэрыі ў электронах, у нічым...

У бясконцасці.



## ЧАКАННЕ

Сакавік — яшчэ снег, а ўжо сонца высока на небе; яшчэ маразы, а ўжо цяплынь апоўдні; яшчэ зіма, а ўжо сінія вочы ў дзяўчат.

У сакавіку людзі гавораць аб каторымсьці годзе, калі ў гэту пару дзеці хадзілі па зямлі ўжо босымі, такая цёплая яна была. Гаворыць аб гэтым і дзед Кастусь, і мы верым яму, што сапраўды быў такі год...

А калі сыдзе снег, ды запахне зямлёю, і зарунеюць палі, і зашумяць дрэвы — чакаем лета. У беласценным каньёне вуліцы, у якім вецер з пяском гуляюць у схованкі, гавораць аб зіме, аб здаровым ды чыстым паветры. Аб лёдзе, які здаецца восьмым цудам свету! Тады мы не супроць таго, каб была толькі зямля, паветра і... лёд.

Мы ўсё чакаем!

## НАМЁК

Ён пераконвае сябе, што да яго прыйдуць ды папросяць з паклонамі. І будзе яму надта прыемна сказаць ім: не! Чамусьці не падумаў аб тым, што на свеце ёсць здольных больш, чым трэба...

Чакае, самаздаволены і вёрткі. І штораз адважней пераконвае сябе перад самім сабою, што, бадай, не варта, не варта, не варта будзе казаць «не», калі прыйдуць і папросяць. Тое, што нікому ён не патрэбен, скажа сабе значна пазней...

З набліжэннем саракавога года жыцця ён сапраўды зробіць нешта досыць таленавітае. Аднак жа будзе гэта ўжо запозна!

Убачыць, што прачакаў жыццё, а шчырэй кажучы —

змарнаваў яго. Застанецца яму толькі хваліцца страчанымі нагодамі, тымі, што былі, і выдуманымі. Уночы, калі кожны сам-насам з сабою, схопіць яго недаўменне ад таго, што сапраўды ўсяму канец...

Канец!

І яшчэ добра, яшчэ не безнадзейна, калі возьме яго злосць і крыўда бязмежная. Злосць з крыўдай — гэта ўсё-такі шанц!

Можна нават падумаць: яму ёсць што сказаць. Мо нават нешта такое, дзеля чаго не сорамна жыць...

## ТРЭЦЯЯ ПАРА

Ядзя выйшла замуж. Яна пайшла за Стася. Пайшла за яго таму, што ён хацеў жаніцца. І яшчэ таму, што Ядзя дайшла да таго месца ў жыцці, дзе канчаецца вясна і пачынаецца лета.

Тады ўбачылі Ядзю. Убачылі яе кветкаю сярод урачыстай нядзелі.

Кветкаю, калі глядзець на яе ў цішы палёў (далёка звоняць у касцёле).

Ядзя кахае Стася. Яна кахае яго да таго моцна, што аж не думае. Усё роўна бы тая вішанька, што, расчырванелая шчасцем даспеласці, мілуецца з сонцам. Без памяці, зусім без памяці.

Ядзя пакуль яшчэ не апрытомнела настолькі, каб здзівіцца, чаму гэта не з'яўляецца ў снах чарадзейны Юрка. Той Юрка, без якога раніцы маладосці былі днямі пакут, а вечары — адпушчэннем іх. Вечары бэзавыя, вечары язьмінавыя, вяргіневыя...

Час кахання настаў, час і пара — трэцяя з чатырох.



## ЛЕТА Ў МОКРЫМ

Таню з сынам правёў я на вакзал. Яна ў супрацьсонечных акулярах, з бледным тварам. Сын прыглядаецца да паравозаў, да цэлай гэтай фабрыкі падарожжаў.

— Шчаслівай дарогі! — кажу, а сын не чуе.

— Тата! — крычыць сын.

Свістаў паравоз.

Пабыўшы з імі ў купэ, я выйшаў на перон, на гэты пляж развітанняў, на якім прыпякае адзіноцтва: Таня з сынам вось-вось ад'едуць. Яны яшчэ тут, блізка ад мяне, але іх ужо няма, бо я на пероне...

Таня з сынам выйдуць на другім прыпынку, што за Бельскам. У пах палёў, у Падбеллі. А я сыду з перона ў гарачыню вуліцы, і мне будзе прыемна, што ўдалося падарыць ім лета. Падыду да кіёска з півам, але куплю бутэльку з яблыкавым сокам і адыдуся з ёю ў цянёк, у нейкую забетоненую засень, і буду там піць, задраўшы галаву на сцяну з цэглы, што падпірае неба... Неяк у верасні, незвычайна цёплым верасні, у першую яго нядзелю, выбраўся я з сынамі на забеластоцкія сажалкі. Дзеці бегалі па грэблі, асепленыя сонцам. Адзенне пахавалі ў высокай траве, пад бярозаю. Тым часам я таксама распрануўся і паплыў у закуцце вады, моцна наспелай. Дзікія качкі спалохаліся мяне і, адна за другою, пахаваліся ў чаротах; вывадак. Ля дна — восень і карпы-гультаі, ад якіх неяк смакавіта. І ўтульна, мабыць, ад таго, што відаць водарасці, відаць дно і рыбы, і нават качкі, што схаваліся ў аерынай гушчэчы. Ад цішыні круціцца ў галаве. Старэйшы сын, патрывожанае медзведзяня ў залацістым верасні, неспакойна ўглядаецца ў мой бок, і я крычу яму, каб ён бег сюды. Гэй, якая пекната!..

Цягнік чамусьці не адыходзіць, хоць ужо час.

...Праз тыдзень атрымаю ліст ад сына: «У Мокрым

добра. Ірву вішні. Каля хаты — сем куранят, квактуха, чатыры гусяняты, адно з выкручанай нагою. Певень — з падбітым вокам — скача на ўсіх. І тры гускі ёсць; гусак спакойны. Часамі кірую канём. За акном — маліны. Ёсць транзістар і кросны. У лесе вельмі зялёна. Купаемся ў Белай. Робім здымкі».

Як гэта падобна на лета ў Барсуковіне, вёсцы маёй маці: хутар пад яловай пушчай, сушаныя грыбы, васкавіны з мёдам, масла ў крынічнай вадзе, сярпы на падстрэшшы, цяпло гутаркі. Без беларускай гутаркі няма лета! Таму і лета ў Мокрым таксама цудоўнае.

— Таня! — крычу да жонкі ў акне, хоць яна можа не пачуць.— Не забудзьцеся схадзіць у лес...

Нарэшце цягнік рушыў.

## КАР'ЕРА

Урэшце мне пашанцавала: праз знаёмага ўладкаваўся на работу. Калі ўвечары я сказаў аб гэтай рабоце жонцы, яна разрагаталася, не магла супакоіцца. У яе пачалася істэрыя.

Цярпліва тлумачыў ёй, што за такую плату ўсё-такі пражывём.

Праз месяц мне зноў пашанцавала.

Было спачатку так: зранку я са старым Казмерам толькі ўзяўся за работу, як зайшоў наш начальнік. Ён надта сур'ёзна паглядзеў на мяне і сказаў, каб я ішоў на рамонт старых скрыняў!

Рамантавалі іх у павеці, ляжалі яны там у пяць ярусаў.

Пан Жоржык, загадчык транспартнага двара, выдаў мне малаток, абцугі, скураныя рукавіцы і лом, здаравенны ламішча! У першы дзень — ад перамены лёсу! — адрамантаваў ажно трынаццаць скрынак. Угрэўся!



Дзіўны Жоржык паглядзеў на мяне, паглядзеў: я наракаў перад ім на недахоп цвікоў. Назаўтра ён параіў мне залезці ў кут і выспацца. Сапраўды, у закуцці нават мышэй не было, і я спрабаваў там чытаць кніжкі... Дайшло да таго, што за цэлы дзень адрамантаваў усяго адну скрыню. З таго дня ў дзіўнага пана Жоржыка з'явіліся пачаткі прыхільнасці. Першыя позіркі, першыя знакі сімпатыі да мяне.

Я чакаў Жоржыка!

Чытаючы гісторыю еўрапейскай літаратуры, час ад часу наступаў на шнур, на канцы якога павесіў жалезіну. Яна пастуквала ў дошку. Усё гэта прыстасаванне нагадвала трамвайны званок... Пан Жоржык доўга не заходзіў. Мо абразіўся?

Але зайшоў у чацвер.

Прачытаў вокладку кніжкі, якую я трымаў у руках; памацаў шнурок, патрымаў у далоні тую жалезіну; пастаяў як бы ў задуменнасці і пайшоў. Хаця ён не азваўся ні слоўцам, нават не замармытаў, усё ж нарэшце дыхнула ад яго прыязнасцю!

Назаўтра я дачакаўся пана Жоржыка. У мяне ўжо было піва, і мы загаварылі па-свойску. Пасябравалі. У павеці адразу зрабілася ўтульней. Я збегаў яшчэ па піва, і неўзабаве мы гаварылі на «ты». У палове рабочага дня Жоржык сціпла цверазеў у цяньку, а я, разлёгшыся на майскім сонцы, загараў.

У чэрвені — у сувязі з недахопам скрыняў для ўпакоўкі — тэрмінова прынялі на работу двух працавітых хлопцаў, якія нястомна гаспадарылі ў павеці. Пад клапатлівы стукат іх малаткоў я задаволена перажоўваў сваё павышэнне, дзякуючы якому пачаў зарабляць удвая больш. Утварыўся менавіта аддзел рамонту скрыняў. Кіраваў ім Жоржык. Мяне зрабіў ён сваім намеснікам.

Праблема рамонту скрыняў была вырашана. Нас, Жоржыка і мяне, нават хвалілі недзе...

5 Зак 793

## У ДАРОЗЕ

Дождж ды восень за шыбамі. Восень за цёплымі шыбамі легкавой машыны. Мы едзем, як бы чакаючы, каб нехта дагнаў нас: апярэджваюць цяжкія грузавікі, апырскваючы шыбы. Апырскваюць яны гразёю, якую, на шчасце, спалосквае дождж.

Я пачаставаў інжынера папяросаю.

Мы праязджалі праз шырокую даліну Бобры.

— Я не думаю кланяцца нікому,— так сказаў інжынер.

Я сказаў:

— Справа зусім неразважная.

Дым ад папяросаў запах лесам, потым печанай рыбай. Каб не гутарка, у машыне было б надта прыемна: гусцеў дождж і цікава глядзець, як ён гусцее.

Інжынер:

— Ведаеце, мяне нічуць не здзівіла тое, што ён занучыўся. Амаль кожны, раней ці пазней, занучыцца... Здзівіла мяне тое, што сталася з ім гэта так хутка!

Гусцеў дождж.

Інжынер гаварыў:

— Ведаеце, чалавек робіць з сябе анучу наогул тады, калі застаецца яму пяць гадоў да тлустай пенсіі. Законна, не? За пяць гадоў няшмат добрага ўжо можна зрабіць, але шкоды сабе — многа! Можна спляжыць добрую пенсію...

Я згаджаўся, і ён гаварыў далей.

Інжынер гаварыў пра аднаго:

— Яму ж да пенсіі яшчэ дзевятнаццаць гадоў, чорт вазьмі! На працягу дзевятнаццаці гадоў можна два разы моцна прайграць і два разы моцна выйграць...

Меў рацыю. Слухаў я інжынера з пераканаппем, што за кожным яго словам мне рабілася відаць усё шырэй.



— Я хачу запытаць у вас,— зноў інжынер,— што думаеце вы аб такім, які раз ашукаў, але прысягнуў болей не ашукоўваць? Кажуць, што такому паверыць — быццам ваўку, які скаштаваў чалавечыны...

Я прыглядзеўся да бярэзніку з сілуэтамі ялінаў: на тым тыдні мы назбіралі тут зялёнак, інжынер паўторбы... «Мае рацыю: хто скаштаваў раз, той скаштуе і другі раз».

За Карыцінам — могільнік, які пачынаецца ад страмізны: славяне выбіралі высокія мясціны.

— Прыгожы касцёл,— сказаў інжынер аб Карыціне. Ён пачынаў маўчаць.

Чамусьці ўбачыліся мне азёры, што за Падцісоўнікам і ў бок ад Крылаткі. Кольніца — далёкая вада паміж лясамі, мёртвая альбо быццам прабоіна ў зямлі...

— Халера ты! — завішчалі апоны: чуць не наехалі на фурманку.

Я заўважыў вечар, заўважыў, што мы едзем з запаленымі фарамі. Яны асляплялі ўсенька наперадзе, і мы імчалі па нерухомай шашы. Па знерухомленай.

Думаў, з чаго аднавіць гутарку, каб даведацца пра невядомае ды не выдаць менавіта пра што? Узнаўляюць гутарку — той, хто найменш баіцца, той, хто зусім не баіцца, або той, хто яшчэ не перажываў ні страху, ні ўпэўненасці. «Не магу дазволіць сабе доўга маўчаць»,— думалася, і час ад часу рабілася абыякава.

— Яно, вядома, так,— мой голас — і не мой.— Думаю сабе...— і заціх. Гэтак заўсёды, калі вырашыў, але яшчэ не ведаеш, менавіта што і як?

Інжынер глянуў на мяне; чакаў.

— Чалавек у пэўны момант свайго жыцця пачынае гаварыць аб тым, што няма праўды, што ў людзей няма ні пачуцця справядлівасці, ні сяброўства. Ён гаворыць, што няма да чаго імкнуцца. І што засталося глядзець сябе...

Інжынер паглядзеў на мяне з увагай.

— ...калі чалавек так гаворыць — гэта значыць, што ён перастае спраўляцца з жыццём ды паддаецца яму. Значыць, паплыў з вадою. Ад такога трэба трымацца далей, быццам ад таго, хто топіцца: каб не пацягнуў на дно! Ратаваць яго можна толькі за валасы... Чалавек перш топіцца, а крычыць ужо пасля — гэта параўнанне, сябар інжынер. Хачу сказаць, што з такім не варта плысці далей — ні заўтра, ні паслязаўтра. Ніколі! Ён ужо не палезе на глыбіню, будзе плёхацца на плыткім, з дзецьмі... Наўкола, ведаеце, пераважна прытопленыя і таму не прыдатныя для далёкай мэты. Наўкола гавораць аб ашуканстве: кожны ашуканы або будзе ашуканы. Аб тым, што кожны памрэ, людзі гаварылі, відаць, у першае тысячагоддзе нашай эры...

— Хэ-хэ-хэ,— засмяяўся інжынер. Яго сухі смех сведчыў аб адным: мае словы ўспрыняў як намёк.

Пасля смеху, як бы апраўдваючыся, я дадаў:

— Ведаць, гэта адна справа, але ўсведамляць — гэта зусім што другое. Калі аб нечым усе шмат гавораць, гэта значыць, што адбываецца працэс самаўсведамлення. У гэтым, здаецца, і заключаецца істота эпох — скажам, у мастацтве...

— Так яно, ведаеце, у жыцці,— інжынер не выслухаў уважліва.

Паміж намі халадок.

Шаша, як у сне: лявей і лявей. Імчыць яна збоч ад хутароў Рыбніка, сярэдзінаю заполля, паміж кнышынскімі ды пукштэльскімі лясамі. Мы абагналі старую грузавую машыну. Я апёрся аб спінку мяккага крэсла і аглядаўся на грузавік: ён штораз мутней свяціў фарамі, далей і далей ад нас. Ажно пагас за пагоркам, тлеючы зарывам.

Роўна шумеў матор. Па пярэдніх шыбах засякаў дождж, кроплі зіркалі ў сярэдзіну машыны і расплываліся. Спакойна гулі колы, на паваротах яны нават паскавыталі, быццам усцешаныя сабакі.



Мы панаапавядалі сабе розных здарэнняў з прапоранымі апонамі і ўслухоўваліся ў язду. Недалёка выскачыў заяц — раптоўна. Калі даехалі да таго месца, я пачаў углядацца ў лес, туды, адкуль ён выбег.

— Аднойчы палез у багністае азерца лавіць рыбу,— нечакана сказаў інжынер, і адразу было невядома, хто палез.— Ступаў, у паляўнічых гумовых ботах, па сплеценых карэннях нейкіх водных раслінаў. Метраў з пяцьдзесят ад берага сарваліся карэнні пад левай нагою. І неўзабаве — пад праваю. Я пачаў грэзнуць! Паверыце, не спалохаўся. Чорт яго ведае, з чаго я меў тады нервы? Уграз па пояс, сеў на карэннях — вады па пахі! — выцягнуў з багны адну нагу, затым другую, устаў і, па тых жа сплеценых карэннях, выбраўся на бераг. Рыбы, вядома, не налавіў... Цяпер утапіўся б, калі б апынуўся, як тады, першы раз на такім возеры. Утапіўся б! Не тыя нервы, дарагі. Не тыя. Ды і спакой не той: усенька нервуе — гучны смех, гулкая песня, нават радасць або смутак...

Я слухаў. Упершыню шчыра падтакнуў яму. Ён не звяртаў на мяне ўвагі, гаварыў, паўтараючы сказанае: гэта ўжо было балбатанне стомленага.

Неяк падумалася, што гутарка нечым падобна да жыцця: найцікавейшай бывае пасярэдзіне. Спачатку яна ўсё сыплецца і сыплецца, рыхтуючы якуюсьці форму, выгляд. А ў канцы — адбываецца вышліфоўванне яе, вышліфоўванне і вышліфоўванне, якое майстар даручае свайму вучню. Падарожжа, блізкае да канца, стамляе з хвіліны на хвіліну. Калі мы кажам, што нас стаміла дарога,— робімся старымі, якія кажуць, што стомлены жыццём. Тым часам стамляе нас не жыццё, а тое, што знікае цікавасць да яго, паўтарэнне яго, вышліфоўванне. Справа, здаецца, не ў дасканаласці, гладкасці ды бляску вядомага, але ў навізне, у навізне за навізною, калі няма месца і часу на выгладжванне...

Захацелася гэта сказаць інжынеру. Перачакаўшы дзіўную слабасць у целе, сказаць гэта яму.

Мы пераваліліі апошнюю гару і дамчалі да першых кругоў вулічнага асвятлення ў вясковападобным Беластоку.

Не памятаю, ці яшчэ што мы гаварылі. Інжынер спыніўся на маёй вуліцы. Развіталіся, і ён паехаў на сваю.

Усё ішоў дождж.

Пасля вячэры я хутка заснуў.

## КАРОТКАЯ БІЯГРАФІЯ АНІ

Можна сказаць — Аня ад нараджэння ведала, што павінна яна рабіць і як павінна. Пераставала плакаць, калі выносілі яе на свежае паветра. Бездапаможна абуралася на маці, калі тая спрабавала памагаць ёй вучыцца хадзіць. Першую ляльку пашыла сама. Ад пятага года чысціла зубы, мылася па пояс.

Дзяўчынкі баяліся Ані: яна ведала літары!

У школе настаўнікі пацішу недалюблівалі Аню за тое, што яна ўсё наперад ведала. Напэўна, мела б двойкі, але яна ніколі ды нікому нічога не падказала, і таму не было за што прычапіцца да яе. Хлопцы кідалі ў Аню снежкамі...

У ліцэй прынялі яе, вядома, без уступных экзаменаў. За пяцёркі! Не хварэла, не фарбавала губоў, залёты адкідала, а на вучнёўскія вечарыны хадзіла толькі ў адзінаццатым класе, і то, каб ведаць правілы паводзін (не слухала жартаў, засвойвала фігуры танца).

У тым жа адзінаццатым класе Аня ўдарыла Сыльвуся па шчацэ, бо ён хацеў правесці яе дамоў.

Падчас выпускнога балю яна танцавала (хораша!) з бацькам, з маці, з класным выхавацелем і са старшы-



нёй бацькоўскага камітэта. Сіваваласы старшыня, бухгалтар з жывоцікам, п'яна пацалаваў Аню ў руку.

Сыльвусь пакутаваў адзін.

Універсітэт: залікі здавала ўпэўнена, не пацеючы, падыходзіла да экзаменатара мужчынскім крокам, у модных тады ботах французскага фасону. Хлопцы адварочваліся ад Ані.

Уласна кажучы, недзе пад канец трэцяга курса яна бачыла сваю будучыню...

Замуж пайшла за калегу бацькі, яшчэ досыць маладога мужчыну. Пазнаёмілася з ім дома, калі запрашалі гасцей з выпадку атрымання ёю дыплома.

Аніна вяселле адбылося праз тры месяцы пасля той сямейнай урачыстасці, трынаццатага кастрычніка — у трэцюю нядзелю перад Святам памёрлых.

## ДА АДНАГО

Ты, надзьмуты, жывеш галавою. І глядзіш ты на неўгамоннага сябра з нянавісцю, з той віславухай нянавісцю адкормленай свінні, якую прымушаюць устаць, вылезці з берлагу ды пабегаць. Нянавісць твая менавіта ад тлустасці і цяпла.

Сябра свайго ненавідзіш ты перш за ўсё таму, што ён памагае людзям, і то якраз тым, якія прайгралі нешта, дакладней кажучы, трапілі ў бяду. Дарэчы будзе заўважыць, што твая нянавісць нейкая нездаровая, у ёй шмат здзіўлення тым, што камусьці хочацца быць на баку безнадзейнасці. Напрыклад, сябру.

Седзячы за добрым абедам, падумваеш сабе, што было б някепска, калі б сябра забралі ў бальніцу для псіхічна хворых. Бо той, хто бароніць пераможанага, гэта ненармальны чалавек!

Шкадуеш яго. Лічыш, што ён легкадумна марнатравіць свае здольнасці. І цябе, напэўна, ашаламіла б, калі б нехта напісаў у «Сучаснай газеце», што для абароны пабітага патрэбны вялікія здольнасці ды шырокая душа. Палічыў бы гэта друкарскай памылкай або дурным жартам.

Насмешкай!

## РАЗМОВА

Зазваніў тэлефон. Рука падняла тэлефонную трубку, у якую трэба гаварыць і праз якую трэба слухаць, што гаворыць той, здалёку.

— Алё, слухаю. Добры дзень. Ага, гэта ты? Ну, што там у цябе добрага? Хваліся. Як быкуеш?..

— ...Ай-яй,яй, які ты крыўдлівы: слова смачнага нельга табе сказаць. Скачаш, бы заяц у аўсе. Ну, як жывеш?..

— ...Ха-ха-ха, ён з Аняй? З гэтай кучкай?! Што ты кажаш, гы-гы-гы-гы.... Я і не падумаў. Ёй жа валасоў трэба дакупіць, каб мела як чуб дзерці, накрушняваць сабе на галаве...

— ...Што? Я? Скажы свайму тэлефону, каб ён ад майго імя ляснуў табе па дзюбе, бусел ты! Я не з тваім характарам...

— ...Не, не злую. Хіба не ведаеш мяне? Ну, вось...

— ...Не, не паеду. Нічога цікавага: нахлебчуцца ў той Белавежы ды палягуць, а ты хоць на плячах насі іх, валачы ўсіх у машыну, усё роўна як падсвінкаў на базу да Набіноса. Няхай іх халера выкаціць!..

— ...Дальбог, не паеду! Бачыш, шукаюць белага негра. О не! Не...

— ...А-а-а, дык гэта ўжо другое... Гм... Мушу падумаць... Хто? Дырэктар? Ну, падумаю, пазваню табе...



Штосьці хацеў я запытаць у цябе... Зараз здумаю... Забываю, цяжкія дні, работы аж па шыю, аж па... Хэ-хэ-хэ... О! Ведаю! Слухай: што робіш у нядзелю?

— ...Так, разумею. Трэба нам пагаварыць аб той справе... Не, яшчэ не закончана яна. Можна.

— ...Во-во, я таксама... Якія рахункі? А-а-а, будуць. Так. Напэўна. Будуць, кажу! Бажуся табе на свой апошні пальчык...

— ...Добра было б, каб дама твайго сэрца і каралева твайго свету выматалася з кватэры на той час, скажам, да сястры або... брата... Разумееш, баба — бабаю...

— ...А сёмай? Добра! Буду. Га? Якія ногі? Ага, чаму ж не, але за табою і так не даступлюся, ха-ха-ха...

— ...Куды? У Белавежу? Усё роўна не паеду. Я не магу гэтулькі, а яны любяць так заліць сабе слепнякі, што гатовы цалаваць у храпу самую зубрыцу! Такія адважныя робяцца — жах глядзець... Памятаеш, як загадчык паехаў на свінні ў хлеў? Ха-ха-ха...

— ...Ну, тады, калі запальнічкаю прыкурыў сабе нос. Я думаў, хто на ката наступіў! Калі ўбачыў ягоны закураны лыч ды вочы пакрыўджанага пастуха, ледзьве не памачыўся, гы-гы-гы...

— ...Грошы? Ага, ведаю. Скажу, калі сустрэнемся: па тэлефоне не магу, разумееш. Зрэшты, усё адбылося ў лад. У нядзелю раскажу табе падрабязна...

— ...Не слухай яе: пляце пасталы ліпавыя! Ёй бы мужчыну добрага — адразу паспакайнела б. Не дапусці, каб павышалі яе. Раю табе, як самому сабе. Чуеш? Ой, яна калісьці засадзіць цябе на вуліцу Каперніка, пастранамуеш там гадкоў пяць, быдляціна. Пабачыш — каб я быў так просты, як каровячая нага задняя. Каб я вушамі лапатку чухаў! Не жартую...

— ...Значыць, да нядзелі. Мо крыху раней прыйду. Прынясу сёе-тое для палівання зубоў, каб не паржавелі ад гаворкі. Кажаш, не трэба? Трэба, трэба: дзюба, калі

яна сухая, трэскаецца... Даму сваю толькі па-рыцарску неяк вымахлюй вон на гадзін чатыры або накіруй яе на распусту ў які-небудзь тэатр, ці хоць у кафэйку...

— ...Трымайся, бандыт! Да пабачэння.

Рука паклала тэлефонную трубку.

## ПРАЗ ГАРКАВІЧЫ

З гасцінца мы сышлі на сцежку і пасталі. Першы спыніўся я. Сын яшчэ ішоў.

Здалося, што мяне нехта кліча...

Мы прайшлі ля доўгага плота пад старымі вішнямі, у якіх гаспадарылі падлеткі. Яны прытаіліся, і я пачаў з сынам гутарку аб чымсьці непатрэбным, бо баяўся, што ён, ачнуўшыся ад сваіх думак, убачыць зладзеяў. А яму небяспечна яшчэ ведаць пра існаванне такой бяды, як пакражы. Таму прайшлі мы хутка ля надта ж доўтага плота, які быў з навюсенькіх штыхет.

Перад намі слаўся гасцінец.

Адсюль, ад Гаркавіч, да Юраўлянаў пяць кіламетраў.

Кліча яе голас...

Мне зрабілася брыдка, і я не прыдумаў сабе лепшага тлумачэння, як тое, што мы моцна спяшаемся... Але яе голас гукаў пасярэдзіне далёкага панадворка — і не да нас. Яна, павернутая да прасторнага прыгумення, гаманіла з дзіцем. Выпусціла яго са сваіх высока загарэлых рук і, прыкідваючыся страшыдлам, бегла за ім: яно сакатала. Пападалі абое, зноўку пабеглі...

Аж засланілі іх густыя вішні.

Мяне пацягнула назад.

Хлапчукі ў паніцы выраіліся з голля на дарогу і пабеглі ў грады каноплях ды маку. Ззаду гучна засмяяўся



мой сын. Засмяяўся ён смехам дзіцяці, якое збіраецца гуляць у схованкі. Гэта мяне супакоіла. Я падышоў да яго, і мы рушылі ў Юраўляны.

Ішоў я крокам чалавека, якому не дазволена зрабіць нешта такое, чаго потым шкадаваў бы. Адчуваў на плячах яе здзіўлены позірк, вочы, якія пазнавалі... З раптоўнай далечыні.

З такім прыемным зманам я напіўся з крыніцы, у Юраўлянах.

Заначавалі мы ў Крынках, у маёй маці, каб досвіткам выехаць дамоў, у Беласток.

Неба ў тую ноч мела васемнаццаць гадоў, смяяліся зоркі...

## ВУЛІЦА КАСЦЕЛЬНАЯ

Раніцай у Беластоку хораша ісці вуліцай Касцельнай, уніз ад Ліпавай: платы і агароды. Добра ісці гэтай вуліцай. Нават яе назва неяк супакойвае, яна ўрачыстая ды непатрэбная.

Новыя вуліцы ў чымсьці падобныя да тых жанчын, якіх кахаюць без памяці. Падобныя яны таксама і да надта чыстых цалаў, да таго чыстых, што ажно не верыцца, каб елі, дыхалі, пацелі...

Вецер з Касцельнай. Люблю яго, асабліва ўвосень, калі вятры на іншых вуліцах здаюцца мне цынічнымі...

Магістраль у даліне, над Белкаю, рассекла Касцельную і пагналася ў каляровыя кварталы. Маладая! Ад таго на ўзгорку ад Ліпавай пакрывіўся касцёл, а на ўзгорку, што за рэчачкай Белкаю, былое «рэальнае вучылішча» ўшчаперылася ў Варшаўскую вуліцу, яшчэ вышэйшую.

Магістраль буяніць па даліне.

Перабягаю даліну.

## ПЛЯМКА



ндрэю сніўся непрыемны сон. Гэта ўстрывожыла, расплюшчыў вочы — пятнаццаць пасля сёмай.

Плямку на столі заўважыў ён тады, калі павярнуў галаву на заядлы брэх угары, у кватэры суседа.

Жывіна!

Андрэй накрычаў на жонку (без дай прычыны), выпусціў з рук на падлогу шклянку. Нарэшце пагаліўся, апрануў гарнітур, зайшоў на работу, пунктуальна а восьмай. Выпрасіў дзень.

Напісаў скаргу на суседа.

У адзінаццаць гадзін камісія агледзела плямку. Прадстаўнік адміністрацыі жылых дамоў пацвердзіў, прадстаўнік вулічнага камітэта пацвердзіў і паспачуваў, прадстаўнік рады жыхароў выказаў тры дапушчэнні: або сабака намачыў, або водаправодная труба працякае, або дождж закраўся невядомаю шчылінаю. Напісалі пратакол і пайшлі сабе.

Праз дзве гадзіны пасля гэтага камісія дырэкцыі ўсіх адміністрацый жылых дамоў перамерала плямку, абнюхала яе, пацвердзіла пратакол грамадскай камісіі.

Сусед бажыўся, калі камісія наведалася і да яго... Сабака брахаў у туалеце.

Пайшлі.

Плямка расплылася ў пляму. Назаўтра сказалі Андрэю: сам галоўны інжынер гэта абнюхваў... Сказалі — не сабака. У чацвер брыгада рамонтнікаў выбрала сцяну да водаправоднай трубы: не працякала. У пятніцу выбілі каваліска столі: шчылінкі не знайшлі.

Аднак, сабака!



## СОН БЮРАКРАТА



он гэты прысніўся бюракрату ў канцы года, у час ліхаманкі са справаздачамі. Мо і не прысніўся б яму, калі б аднаго разу з немалым здзіўленнем зразумеў, што дакумент з'яўляецца доказам недаверу да чалавека. Магчыма — не кожны, але ў яго былі якраз такія...

Вось што прыснілася: на месцы адміністрацыйнага кіраўніцтва ўтворана кіраўніцтва словамі — на прыступках вялізнага будынка незлічоны натоўп, кожны трымае ў руцэ даўжэзны спіс слоў, сказаных учора, а сёння прынесеных для зацвярджэння, без якога словы сказаныя не з'яўляюцца яшчэ сказанымі — маўчаць.

На месцы банка — кіраўніцтва вартаснымі словамі. Тут натоўп значна меншы, натоўпік, і спісы слоў таксама невялікія, змешчаныя на спецыяльных фармулярах.

Маўчаць.

Дзе была рэдакцыя — кіраўніцтва жартамі ды анекдотамі, затлумленае дзіўна прыгорбленымі людзьмі, анекдотчыкамі, твары якіх пакрывіліся поснымі мордамі. Не жартаваць!

Не жартаваць!!

Замест бальніцы — галоўнае слёзакіраўніцтва, дзе да жудасці ціха, хаця тут можна і трэба жартаваць.

Цяпер, гартаючы старонкі спраў, успамінаў сон. Не любіў гэтага ўспаміну, псаваўся ад яго настрой. Бачыў нейкую долю рацыі ў гэтым сне. Даволі паслаць камусьці паперку ад пракуратуры, і той захліснецца страхам. Ананімка аб здрадзе мужа штурхне на край роспачы; акт аб шлюбе ўзнясе на сёмае неба; смяротны прысуд...

З-за кожнага слова выглядае палец, ківае перад носам: шануй слова, шануй яго, шануй!

Ён падышоў да пісьмовага стала, пастаяў, сеў за ім, узяў пяро, паперу, выпісаў на чарнавіку нейкі адказ

у сувязі з чымсьці, камусьці, а з-за кажнюткага слова выглядваў палец. Смешна!

Аднёс машыністцы.

Сказаў ёй:

— Дарагая Вера, гэта тэрміновая справа.

— Добра,— адказала Вера. Ёй было ўсё роўна.

— Вера?..

Яна выпучыла кнопкі вачэй.

Падумаў аб іх: «Кнопкі! Сапраўды, кнопкі, вялікія, бы гузікі!»

— Што яшчэ? — сказала яна.

— Не, нічога,— адказаў ёй, стараючыся выглядаць заклапочаным.

Устрымаў сябе, каб не расказаць ёй пра сон. Гэта было б без сэнсу. Так, напэўна.

Машыністка хутка выстуквала слова за словам.

Шмыгануў у свой кабінет.

## ФІЛОСАФ



али яму мянушку Філосаф. І смяяліся.

Ён разважаў усё аб адным і тым жа.

Пачынаў:

— І чаго гэта крыўдуем на тое, што так многа навокал нядобрасумленнасці? Дзівуемся, што чалавек чалавеку — нішто! Бо зараджэнне кожнага з нас адбывалася — або з жарту, або з ганьбы, або з-за неасцярожнасці...

Рагаталі з ягонай праўды:

— А ты, Філосаф, узяўся з ганьбы ці з неасцярожнасці?

Рагаталі, хапаліся за жываты.

Кіраўнік таго аддзела, у якім Філосаф працаваў справаводам, часам паглядаў на яго і з палёгкаю ўздыхаў: «Дзівак. Сапраўды, дзівак ён, хаця і не дурань».



...Ужо добры кавалец часу гаварыў да Філосафа чалавек, які прыйшоў дабіцца чагосьці. Падмогі? Спачування? Філосаф не чуў яго, але ўставіўся ў ягоны твар зацікаўленымі вачамі, фальшывымі. Моршчыў ён лоб, што магло значыць: «Чалавеча, дай мне закончыць думку, і тады я выслухаю цябе і зраблю ўсё, чаго хочаш. Чалавеча!» І сказаў:

— Гэта не мая справа!

Чалавек адхіснуўся ад яго, быццам ад нечаканага брэху сабакі. Вочы адбою!

— Як гэта?! — тыя ж вочы адбою.

— А так! — Філосаф не ведаў, у чым справа, але вырашыў пазбыцца чалавека.

У маўчанні, якое разгарадзіла іх, Філосаф пайшоў да свайго: «І чаго гэта крыўдуем на тое...»

— Слухайце, я ж казаў вам...— вочы чалавека прапаноўвалі згоду.

— Зайдзіце заўтра,— Філосаф западозрыў, што гэтага чалавека назнарок накіравалі да яго сябры.— Заўтра будзе на месцы...— спатыкнуўся: «Чакайце-чакайце, які ж гэта начальнік заўтра мае быць на месцы і ў чым будзе ён патрэбны мне, гэтаму чалавеку, ды наогул у сувязі з чым?»

— Так,— дадаў.— Заўтра. Так, так, заўтра.

Філосаф бачыў чалавека ўжо ля дзвярэй, усяго з ветлівасці. Той гаварыў:

— Выбачайце за клопат, які прычыніў вам. Выбачайце! Буду заўтра. Яшчэ раз прашу прабачыць... Да пабачэння! — адчыніў дзверы рашуча, з трэскам.

«Заўтра я падашлю яго табе, кінчыба!» — падумаў Філосаф аб адным, які найбольш кпіў з яго.

Толькі пасля выплывалі на паверхню памяці Філосафа кавалкі той гаворкі. Мо і не выплывалі яны, мо проста заўважаў іх таму, што глядзеў усё далей і далей. Зірне на іх, як на бярвенні ў возеры, набрынялыя ды таемныя. На такім бервяне не паплывеш, не паратуеш-

ся: патоне, і ты ўтопішся. Гэту дасведчанасць Філосаф ужо набыў. Ён не хапаўся за справы, прынесеныя жыццём, што стукалі ў ягоныя дзверы і ўваходзілі з выглядам людзей, перакананых у тым, што ён, Філосаф, на тое сядзіць тут, каб хапацца за ўсё!

Прыглядаўся да людзей і цікавіўся, ці ўжо з'явіўся той, у якога вочы без надзеі, твар без перакананасці, голас без рацыі. Без праўды.

Такіх не было.

## ТАРАКАН

Таракан залез на Тадзіка а дзесятай гадзіне трыццаць сем хвілін. Так паказваў пабіты гадзіннік на прыгожай ручцы панны Ноны, якая, убачыўшы таракана на гальштуку калегі, схапілася з-за пісьмовага стала і ўпала на падлогу. Ад яе віску пашырэў пакой, расчыніліся дзверы — і ўсе ўбачылі здарэнне.

Тадзік таксама ўсхапіўся, але так няўдала зачапіў палою за вылічальную машыну, што не паспеў нічым памагчы панне Ноне. Аб тым, што на ягоным гальштуку таракан, ён даведаўся апошні.

Ікаючы з перапуду, страсянуў таракана на стол і прастрэміў яго навылет алоўкам.

Пра таракана гаварылі з тыдзень.

Адны тлумачылі, што вінавата ўсяму прыбіральшчыца. І панна Нона пацвярджала гэта, дадаючы моцныя словы. Сябар Тадзік маўчаў, бо ён ведаў, што прыбіральшчыца — сваячка некага з радні шэфа.

Другія зноў тлумачылі, што тараканы завяліся з-за неахайнасці намесніка шэфа, які, адказваючы за гаспадарскія справы, не паклапаціўся, каб купілі прыбіральшчыцам адпаведных парашкоў, што атручваюць блохі, тараканы і ўсякую поскудзь. Нона і гэта пацвярджала, выказваючы нядобрыя думкі наконт намесніка шэфа. Тадзік маўчаў, бо ён ведаў...

Доўга прыходзілі і гаварылі.

Панна Нона нястомна пацвярджала сказанае.

Сябар Тадзік хацеў нешта сказаць ёй, давесці да ведама, ды звычайна баяўся зрабіць гэта такой панне Ноне, якая яшчэ не ведае, на чым свінка хвост носіць.

Праз месяц Нона атрымала звальненне з работы.

І Тадзік ні ў чым ужо не мог ёй памагчы.

## ШЭПТ, ПАЧУТЫ ЗУСІМ ВЫПАДКОВА

Ён ляжыць на канапе і мармыча:

— Кажуць, што Уладак здольны, го-го-го! А мне што да таго? Хай сабе здольны на здароўе!

— Ты, кажуць, дапамажы Уладку, ратуй яго ад заедзі прanыраў! Гы, дапамажы... Памагайце, калі вы такія спагадлівыя. Ну — памагайце, памагайце! Ага, не можаце, не маеце такіх магчымасцяў, як я. Значыць, у мяне яны ёсць і павінен я на сваю галаву здольнага ўзваліць? Вы што? Дурня знайшлі? Га?

— Ён, бачыш, пакутуе без дапамогі: ратуй талент, кажуць, твая заслуга будзе. Заслуга? Якая? Якая заслуга, дазвольце спытаць?! Ці такая, што пастаўлю Уладка на ногі, дам яму зарабіць ды пражыць? А ці вы — вы, спагадлівыя,— ці падумалі аб тым менавіта, чаму гэта Уладку так цяжка? Га? Ведаеце чаму?.. Калі так, дык пайшлі вы ўсе, ведаеце куды?!. Знайшліся дарадчыкі. Вон!

— Заслуга. Гм, заслуга... Каб вас выкаціла да нагі! Талент паратую, сабакі! А мяне — хто паратуе, калі начальства дасць па шапцы за дапамогу Уладку? Вы, аблупленікі? Уладак? Не, сябры: начоўп ён супроць начальства, наплявузгаў, нашумеў без ніякай адказ-

насці, дык няхай цяпер паскача, філосаф! Задобрамеў, чалавеча! Захацеў думаць, хваляваацца, мараль мецъ ды ўсё такое, стаўбун! Думаў, ніхто не абыдзецца без яго, усе будуць плакаць і кінуцца ратаваць прарока. О, не! Хай яму не здаецца...

— Ведаю адно: без згоды начальства — ні кроку! Цьфу, што гэта пляту я?! Згоды? Хіба мне белы хлеб абрыд, каб яшчэ пра згоду думаць? Эх, язык-язычок, ядры тваю палку...

Тут чалавек, які высока зайшоў (на яго думку, вядома), захроп. І, як здараецца ў п'янага, пакуль добра захрапе,— намармыча шмат чаго яшчэ.

Мармытаў:

— Ведаю... ого, што я ведаю... Адно ведаю: жартаваць толькі з... цукарніцы Манькі кумпястай, о! Тое самае... ну, лістоў не пісаць, не, не... не... і не адпісваць, крый божа! Нават... матцы, бо... чорт ведае, што за яна, гэта маці... Калег к чорту! Сяброў тым болей... ніякіх, чуеш?! Увогуле! Нічога — і цішыня... Павышэнню, браце, сяброўства ўсякае... ну, як катастрофа! Сябры... таго... хлеба не дадуць... не накормяць, не! Ведаю, ого... нябось што я ведаю... Нікога... аднаго сябе глядзі... Хто гэта выдумаў сяброў, га? Які... гэ-эта... дурань, га?.. Ах... Пхі...

Захроп. І неспакойна раскрыжаваў рукі.

## ПАН «ІНЖЫНЕР»

Пацяшаліся, слухаючы яго. У старога засекі махлярства: гэтым ён жыў.

Здаецца, што найболей смяшыла нас тое, як заляцаліся да яго чатыры дзяўчыны, якіх адагнала жонка. Ён расказваў аб гэтым ужо трэці раз. («Яны, бачыце, да таго ўтрэскаліся ў мяне!..») Мы сінелі, каб быць сур'ёзнымі. Душы нашы ржалі! І ўсё не верылася мне, што яшчэ сяджу, яшчэ не заграбаю нагамі падлогу ды не выю, быццам ад вар'яцкай казыткі... («Я, бачыце, схаваўся за дзвярыма!..»)

Франак не ўтрываў, але спрытна прыкінуўся, што папярхнуўся чаркаю.

Сядзелі мы на ўскраіне Беластока, у Антанюкоўскім квартале гарадскога сялянства, у нейкай электрамеханічнай майстэрні, на хрыбтах неадрамантаваных адпыльвачаў.

Сцябалі гарэлку.

— Ого, тады было мне ўсяго шэсцьдзесят гадоў.— Стары дзед выпіў паўчаркі і ўзяўся смактаць квашаны агурок. Каўтнуўшы яго, працягваў:— Вы, панове, не бачылі маёй жонкі? Як маліна! Ёй трыццаць восем гадоў. Яшчэ ліцэісткай я ўзяў яе. Плакала, але сказаў, што ў грашах спаць будзе і пяць тысяч у руку ёй — бах! Назаўтра другія пяць. Яна пасядзела, пасядзела, пералічыла грошы і абціхла. Во, як жаніўся...

У Франка павузелі вочы.

Стары шчасліва змяніў тэму. Я ўстаў, каб прайсціся. Мяне даганялі словы пахвалы, я спатыкаўся аб жалезіны, бляхі, віткі дратоў.

Захацелася ўпіцца.

— Вып'ем, пане інжынер. Вып'ем! — перабіваў я яго гамонку.

Стары і недавучаны, ён саладзеў, калі называлі яго інжынерам.

— Ну...

Стары хваліў начальніка, аб якім было вядома такое, ад чаго і агонь пабялеў бы.

— Начальнік аднаго разу кажа мне: сядайце, пане інжынер. Так сказаў ён: пане інжынер, сядайце. І кажа: ахвотна вас, пане інжынер, я прагнаў бы, ды нікога такога на ваша месца не знайду. Абы-каго не хачу, дык слухайце: даю вам тысячу злотых у дзень! Вы таго варты. Ці згодны?..

Ні Франак, ні я не даведаліся, чаму быў ён варты ажно столькі. Нам, зрэшты, было напляваць: дапілі недапітае і добрую гадзіну думалі, як адчапіцца ад яго.

Франак, папрасіўшы разоў пяць прабачэння, выйшаў у туалет і па-прасцяцку не вярнуўся. Пакінуў мяне з ім. І здавалася, стаіць ён за рогам ды рагоча...

Стары нагаварыўся, потым памаўчаў і спытаў у мяне аб чымсьці, чаго я адразу не зразумеў.

Спытаў:

— Купіце адпыльвач?

Я нават зацікавіўся. «На халеру мне твой лом!» — хіхікаў я пад вантробаю, сціснуўшы зубы.

— У добрым стане...— хуценька дадаў ён.— Таргавацца не буду, от, за палавіну аддам... Ведаеце, жонка мая кажа: нашто нам адпыльвач, сама прыпарадкую кватэру, прадай. Думаю, праўда. Добрая ў мяне жонка...

Я ўбачыў, што мне ад яго не выкруціцца. Схапіўшыся, сарваў з цвіка сваю куртку і, паказваючы на гадзіннік, наплёў старому чорт ведае чаго.

Ён, не выцверазеўшы, паплёўся за мною.

Падышлі да стаянкі таксі, я ўваліў старога на задняе сядзенне чорнай «Волгі», заплаціў шафёру падвойны тарыф.

Сам пайшоў наўпрасткі.

## ЛІПЕНЬ У ВАРШАВЕ



ліпені ў Варшаве я аддаў нямала грошай вулічным прадаўшчыкам вады. У скверыку, што за ўказальнікам дарог Еўропы, цыганкі з п'янымі ад гарачыні вачамі наглядалі за смуглявымі дзяцьмі, якія купаліся пад фантанам. І было вельмі дзіўна глядзець на пустыя трамваі, што ішлі адзін за другім...



Мне трэба было ў выдавецтва «Іскры», і ўжо колькі дзён я адкладваў гэту справу. «Іскры» знаходзіліся за вялікай паверхняй чорнай смалы, за чортавым млынам з жорнамі Новага Свету і Ерусалімскіх Алеяў.

Каб не задыхнуцца, я хутка і глыбока ўцягваў паветра. Думаў аб тым, што захварэю на рак ды памру ў пакутах, як у вялікім горадзе. Хацелася ў Беласток, у гэтае далёкае мястэчка, дзе няма з кім плакаць, і таму там добра. Дзе паэт раскажа мне, як ён краў кветкі ў гародчыках вуліцы Міцкевіча і дарыў іх чарнабровай лекарцы, несезоннай пекнаце, закаханай у грашавітага доктара медыцынскіх навук, сына контрабандыста з Сеннага рынку. Дзе ўбачу на балконе суседняга будынка дзве падрослыя дзяўчыны, якія, склаўшы далоні ў трубку, клічуць суседчынага сына, і будзе мне гэта міла слухаць.

У Варшаве, у скрыгаце машын, ніхто нікога не кліча. А дзяўчаты тут ахінуты маўчаннем.

У Варшаве баюся сустрэч з землякамі. У іх паводзінах знаходжу нешта эмігранцкае, нешта такое, ад чаго таксама цяжка дыхаецца і ёсць ахвота ўцякаць куды вочы глядзяць!..

У ліпені ў Варшаве я думаў пра Беласток, пра Беласточчыну.

У Фаленіцы пад Варшавай, куды я ездзіў па справе, сохлі травы і сінелі ельнікі.

З Фаленіцы вярнуўся начным аўтобусам, апошнім, і забыўся ў ім свой ручны багаж — чорт з ім! Адзінае, што я вывез адтуль,— гэта вялікія, спелыя зоркі.

У Ялёнках, што на ўскраіне Варшавы, жыў я з Юркам. Ён спяваў з польскім акцэнтам «В степи молдавской», а я плёў яму пра пушчы над вытокамі Супраслі, Нарвы, Бобры. Былі гэта залатыя ночы. Удзень мы каторы раз безбілетна прарываліся на кінафільм «Жанчына-д'ябал», у якім нязвыклы вецер у нязвыклых трыснягах. І нязвыклая яснасць жыцця. Ён напазычыў

у мяне столькі грошай, што пад канец ліпеня нам давялося галадаць. І тады наведаў я выдатнага паэта, што жыве за плошчай Парыжскай камуны, у якога еў на абед далікатнае курынае мяса. І яшчэ з'ездзілі мы ў «Шанхай». (Ад ягоных сапраўдных вершаў я паціху закахаўся ў паэзію, быццам бедны кватарант у адзіную дачку гаспадара.)

Вяртанне з Варшавы ў Беласток, у ліпнёвае лета, праплакаў я рабінавымі слязамі. Кандуктар, беластоцкі беларус, выклікаў мяне ў тамбур.

— Чаго плачаш? — запытаўся з аглядкаю.— Едзеш без білета? Многа не вазьму — абыдземся без міліцыі...

— Мне курыць хочацца,— змахляваў я.

— На, бяры! — тыцнуў тры папяросіны. Адна зламалася.

У Беластоку апынуўся я на золку. І доўга мыўся ў бялюсенькай ванне, мыўся і мыўся. І ўсё нешта не змывалася з мяне.

Дзень праспаў. Снілася чыстае.

## НА ПАХАВАННЕ


ўтобус увесь трымцеў.

Андрэй глядзеў на краявід, які спыніўся, і ўявіў сабе, што кола аўтобуса круціцца ў снезе, як валак у верцясе з макам перад каладамі, хутка і роўна. Смешна адтапырыўся капялюш у кагосьці наперадзе. Залекацелі шыбы; аўтобус затрымаўся якраз насупроць хвойніку, што на ўзгорку.

Шафёр выйшаў. Відаць яго службовая шапка. Яна соваецца ўнізе, з канца ў канец шыбаў, як бы думаючы, чысціць вокны ці не.

Шапка спынілася. У аўтобусе заўважылі гэта і перасталі гаварыць.



Нехта пастукаў Андрэю ў плячо. Ён азірнуўся проста ў чорныя вочы на ўсходнім твары.

— Пан Андрэй?

Ён устаў.

— Так,— адказаў. Чорныя вочы як прыліплі.— Так...

«Дзяўчына? Жанчына? Адкуль?»

— Вы, пэўна, ведаеце, дзе прыпынак...— сказала назву, польскую, іншую, і Андрэю выдалася, што ніколі не чуў пра такі прыпынак. Недзе ў патыліцы памяці ён меў гэтую назву, яшчэ заняты думкаю, адкуль яна ведае яго.

— Я еду туды,— адказаў, рассоўваючы непатрэбныя думкі.

— Вельмі добра,— вочы на ўсходнім твары не здзівіліся — яны нерухомыя, вочы-гузікі, вочы-кнопкі. Нібы хацелі пачуць ад Андрэя больш, і таму сказалі: — Шкада цёткі...

«Едзе на пахаванне,— здагадаўся.— Чыя яна? У нашай радні няма такой пароды. Чыя гэта жонка?»

— Так, шкада,— адказаў, пацвярджаючы яе словы.

— Яшчэ маладая была.— Чорныя вочы чамусьці пагарачэлі. Яны не збіраліся пайсці на сваё месца.

Андрэй маўчаў.

Неяк па-дзявочы пастаяўшы перад ім, пайшла на сваё месца. І тады ён неяк сарамліва паглядзеў ёй у шыю, у пуховую шапку. Потым павярнуўся і паглядзеў на ногі, на ногі ў цёплых цесных панчохах.

Адчыніліся дзверы, увайшоў шафёр у службовай шапцы.

— Людзі! Трэба выйсці і папхнуць аўтобус, бо засеў у снезе...

— Жанчыны таксама,— дадаў мужчынскі голас. І пагрубіяніў: — Яны ж дабіваюцца роўнасці...

Шашу задзімаў паўночны вецер. Твары пухлі і

чырванелі. Андрэй аберуч папіхаў кузаў аўтобуса, яго левы бок. Ззаду пакрыквалі: «Ра-а-аза-а-а-ам...»

Холад адступіўся, мацаў косткі, ступакі.

Выпхнуўшы машыну на сярэдзіну дарогі, паехалі хутчэй. На нейкім прыпынку Андрэй саступіў месца бабулі, бачыў збоку стары, спечаны твар і думаў аб смерці. Аб смерці цёткі. Думаў, як паводзіць сябе ў час пахавання, і злаваўся на тое, што цётка памерла.

— Выходзім,— нецярплівіліся за Андрэем ногі ў цесных панчохах.

Выйшаў без слова.

«Я не прапусціў яе першай...»

— Выбачайце,— сказаў ёй на шашы. Яна не зразумела.

Воддаль, на палявой дарозе, чакалі сані.

— Ну і мароз! Ну і пячэ! — зарагатала, як маладая жарабіца заржала. Затупацела, выраблгаючы нагамі нейкі танец. Супакоілася і растлумачыла мне: — Мой муж — сваяк цёткі. Яму няма калі. Ён на рабоце, месячны план не выканалі...

— Нічога, гэта ж не на вяселле,— апраўдаў яе мужа. «Які ён? Я ж зусім не ведаю яго!»

— Мы сваякі,— цяпер сказала яна толькі аб сабе і Андрэю.

— Ага,— Андрэй прыглядаўся да блізкіх саней, да чалавека.

— Шкада цёткі: маладая баба была, эх!

Амаль перабіў яе:

— Гэтыя сані, здаецца, па нас прыехалі...— Андрэй пазнаў ля іх цётчынага зяця.

Падышлі да яго, і ён сказаў, паказваючы пугаўём:

— Сядайце. Ногі добра ўкрывайце кажухом.

Уехалі ў лес.

Андрэй думаў, пазіраючы то на лес, то ў неба.

Яна ўсчала гаворку з зяцем цёткі. Андрэй час ад часу ўслухоўваўся ў іх размову і з усяе сілы прыдушваў у сабе прыкрасць. На невысокую яліну, у зацішшы, села варона.

— Шкада бабы,— прыціскала жанчына ногі да Андрэевых, пад кажухом.

Потым сказала яна штосьці непрыстойнае, штосьці такое, што не кожны можа, і ўхапілася за Андрэева плячо: сані моцна гайдануліся на яміне. Яму здалося, што яна была гатова нават абхапіць яго, нават пакаціць у саламяны катух і, расхрыстваючыся да белых грудзей, прыгаворваць з беспрытомнай усмешкай недагледжанай чужой жонкі: «Ну і мароз! Ну і маразіска! Пагрэемся!! Давай пагрэемся, ха-ха-ха-ха...»

Андрэй супыніў яе жартам, ад якога самому зрабілася брыдка. Яна зарагатала.

Смутак, абражаны, пайшоў у далёкія лясы.

...Цётку пахавалі пад вечар.

Чорныя вочы заплакалі раз, адзін раз. Слёзы выцякалі на твар, які не пабялеў.

Калі рыхтавалі жалобную вячэру, Андрэй скарыстаў момант, каб выйсці.

Чорныя вочы дурманілі яго. І ён не вельмі быў упэўнены ў тым, што яны не мелі рацыі...

## НАЧЛЕГ



Баюся хутара Барсуковіна. Занадта пуста там, каб можна было ўспамінаць дзяцінства. Маці прывозіла мяне сюды, на сваю радзіму...

Баюся яго, відаць, яшчэ і таму, што тут пастарэлі толькі дарослыя з маёй памяці. Прончыха, як зазвычай, крычыць: «Куды прэшся, зараза!» Карова па-даўнейшаму лезе за парог. Над яе збітым рогам — мухі. Певень пазірае па-шуляцку...

Выйшла дзяўчына. Зняла з парканіцы высахлы цадзільнік; у яе точаная шыя, натуральны загар і сардэч-

на знаёмы ўзмах рукі. Яна паглядзела на гасцінец, пажаночаму боязна-сур'ёзна, і я зразумеў, што бачу сястру Мірці. «Божа мой, няўжо гэта ажно дваццаць пяць гадоў, як з Мірцяй гуляў я ў схованкі?! Аднаго лета пабіўся за яе з пастухом...»

Я накіраваўся да хроснага з намерам застацца нанач. Ведаў, што вымасцяць мне пасцель на сухім сене, у гумне, і застануся сам са сваімі думкамі. Прысніцца загарэлае цела Мірці, прапахлае лесам ды жывіцаю. Бурштынавае! І, быццам разбойнік, што прыходзіць на месца свайго злачынства, захацеў убачыць Мірцю ў тым жа гумне, у якім праходзілі дзіцячыя гульні і яна абяцала пацалаваць мяне.

...Пад поўнач я застаўся адзін, у гумне.

Зашахацела асіна. Яе шмат на лузе Радэля, на гэтай козіцы, на якой дзікая трава ды куп'ё. Падпоўз я, уяўны падшыванец, да дзіркі ў шчыце — той самай! — і прыгледзеўся да Барсуковіны.

Месяц каціўся на спатканне з бурай, клубавалі хмары, як густы дым ад вялікага пажару. Маланка мігцела дзесьці над Чортавым балотам. У старым лесе крычаў пугач, а зоркі-маргайкі толькі і ведалі бяздумна разбягацца па глыбіні неба. Далёка тупацелі грымоты, і ад таго заціхала наваколле. Раптам здалося, што імчыць па пушчы смяротная паніка, здратоўваючы верхавіны. Дыхнула вільготнай гарачынёю, і мой твар у момант успацеў.

— Мі-і-ір-ррр-рця-я-я-ааа!!! — даляцеў скрыгатлівы крык.

Я, не гледзячы ні вока, ні бока, ссунуўся на ток і выбег на прыгуменне: у акне Прончыка грамнічная свечка — і нікога нідзе. Бог кінуў жмут бліскавіцаў; у хляве захроп конь і, хіба сосну, абляяла авечка.

На вочапе жураўля рыпацела вядро: ір-р-р-р... і-р-р... Белым духам уздыбіўся вецер на пыльным гасцінцы, ажно патрупянелі бярозы ды панагіналіся, нібы



для ўцёкаў, з перапуду не могучы зрабіць ні кроку. З-пад страхі фыркнула нейкая птушка і, адурэлая, знікла.

Дождж ударыў густою шрапнеллю, ля самых маіх ног. Я адступіўся за падваротню. Зусім блізка жыхнуў і выбухнуў пярун; зазвінела кола сячкарні.

Неспадзявана для самога сябе — разапхнуў дзвярыны гумна і, увесь у мігценні, пабег да акна, на святло грамнічнай свечкі. Там, начною цемраю прыцiснуты да сцяны, глядзеў, як на каленях моліцца Прончыха і кліча дачку. Яна, вылітая Мірця, выйшла да маці, і я пачаў шаптаць ёй паўзабытую малітву і трызніць, быццам ужо бяру Мірцю на рукі, а ногі мае нецярпліва чакаюць бегу. Абхапіла мяне Мірця за шыю, вусны-маліны расхіліла ва ўсмешцы, вочы-ягады росна блішчаць ад радасці, грудзі дыхаюць хутка-хуценька... Як добра быць патрэбным, як гэта цудоўна быць жыццём для другога чалавека! Мірця, я мару быць жыццём тваім!! Дзе ты? На якой невядомай вуліцы невядомага горада? Зайздрошчу той вуліцы, якая бачыць цябе!

Апамятаўся пад раніцу.

Расплюшчыў вочы пасля кароткага сну: тапіўся ў рэчцы!

Ляжу на сене.

Спалохана шэпчацца голле бярозы над страхою. Дождж шуміць у зелішчы. Бліскавіцы скачуць па заполлі, у жытнёвых ды аўсяных палетках. Дзесьці ў пушчы прагула вузкакалейка, і я зразумеў, што неўзабаве павіднее і праз якую гадзіну будзе аўтобус у Беласток.

Выйшаў, ні з кім не развітаўшыся. Рассвежаным бярэзнікам дайшоў я да берагоў Слоі, у якой на лапухах воднай лілеі ўжо зіхацела сонца. З-над Дзявоцкіх віроў шуганула ў сінечу чародка дзікіх качак.

Не даходзячы да халоднага зарасніку смуродзін, прыпыніўся.

Удалечыні Мірця моцнымі рукамі расчыняла вароты: Прончык выязджаў у поле. На яе галаве гусіным пер'ем бялела хустка.

Я пайшоў.

## ДЫРЭКТАР

Генік закончыў школу ў той год, калі была суша. Тады ў Антолі, удавы пад лесам, зжаўцела сенажаць.

Налета ён прывёз нарачоную, дзяўчыну, імя якой маці не магла вымавіць. Аднаго ранку сказала ёй:

— Не злуй на мяне, старую: буду клікаць цябе — Юля.

Дзяўчына перастала заграбаць сена. Адказала:

— Вельмі мне падабаецца гэтае імя.

Маці ўсцешылася не на жарты.

— Перад тым як нарадзіўся Генічак, падумала я, што, калі будзе дзяўчынка, ахрышчу яе Юляй,— маці ўсё больш радавалася.— Не пры табе кажучы, Юля, я хацела мець дзяўчынку... Будзеш маёю дачкою.

Увечары Юля сказала Геніку:

— У цябе, мой Генічак, залатая маці!

Яны мыліся ля калодзежа, ад лесу пахла перагрэтай жывіцаю.

Сенавалі ў раніцы і адвячоркі. Ад гарачыні бялела неба. Да абеду — Генік з Юляй хадзілі ў маліннікі пад Сасновіцкім борам. Ён хутка распранаўся і нырaў у затонне рачулкі, што выплывала з багонніка каля Новай Вёскі. Юля ішла ў маліны, і калі Генік канчаў купацца, выходзіла да яго, на бераг. Прыносіла яму маліны — вялікія і не ўсе чарвівыя.

Жартавала:

— Мядзведзік ты мой!



Аднаго разу Генік абняў Юлю, але яна вырвалася. Паглядзела яму ў вочы неяк паўжартаўліва: рэшту жарту прыхавала. Сказала:

— Назва мядзведзя, ведаеш, ад чаго? Што гэтае стварэнне ведае і любіць мёд: мёд-вед, мядзведзь...

Генік наставіў вушы.

Яна засмяялася.

— Ты,— сказала яму,— павінен называцца малінаведзем,— і пачала заходзіцца ад смеху.

— Ах ты, смяхуня! — вычаўпаў Генік.

Ён апырскаў Юлю.

Пасля абеду яна згледзела, што на целе парабіліся чырвоныя плямы, балючыя.

Маці насварылася на Геніка:

— Ты як дурман які! Хто гэта бачыў, каб у такую спёку пырскаць вадою, га? Юля далікатненькая...

Юля не чула.

Яна сядзела ў сенцах і крэмам шмаравала плямы.

У сваёй злосці прызналася Геніку праз пятнаццаць гадоў, калі ў калядны ўспаміналі лета.

Юля прызнавалася:

— Тады я малавеле не плакала...

Генік:

— Ведаеш, не памятаю... Выбачай, калі так было... Пачакай, пачакай: калі гэта было? У якое лета?

Няважна!

Яны ўжо маюць легкавую машыну. Па праўдзе кажучы, шчасліва абмінулі іх тыя перажыванні, што выварочваюць вантробы. Генік нарэшце стаў дырэктарам, а Юлі трэба нарадзіць дзіця, дзяўчынку; ёсць мода радзіць менавіта дзяўчынкі. Іх менш. Ну і трэба ім дабіцца чатырохпакаёвай, абавязкова чатырохпакаёвай, кватэры ля Алеі Трыццацігоддзя. Чацвёрты пакой будзе дзіцячы...

Генік з Юляй жывуць шчасліва.

У чацвер пазваніла маці. З хаты солтыса. Яе голас

прагучаў нечакана. Ён выдаўся Геніку голасам прыгожай пані інжынера, якая палохае тым, што пазвоніць Юлі і назаве сябе ягонай каханкаю.

— Генічак! — кажа маці.— Слухай, сынок...

— Я цябе чую, мама,— адказваў,— добра чую!

— У нас, чуеш, няшчасце, Генічак! — амаль плакала маці.

— Што кажаш, мама? — дапытваўся, хоць хваляванне не адчуў: цягнула ў кухню, да застаўленага стала з бутэлькай хатняга віна.

Юлі не цярпелася адной.

— Генічак! — крычала маці здалечыні.— Сынок! Зараза выкаціла гаспадарку! Прыедзь гной выкінуць з хлява, бо я слабая... А няма каго наняць, Генічак! Памажы... Заўтра прыедзь. Так сказалі ў гміне: гной выкідаць заўтра! Дэзінфекцыя, ці што, будзе... Якаясьці дэзінфекцыя...

Генік слухаў.

— ...З раніцы прыедзь. Буду чакаць... Няма каго наняць, чуеш мяне, Генічак? Каб было каго — не званіла б, галавы не дурыла б... Грошы ад цябе атрымала... Дзякую...

Слухаў.

Размова не зацягнулася.

За сталом сказаў Юлі:

— Маці наша дзіўная: звоніць, каб даведацца пра здароўе. Ёй штосьці кепскае снілася...

— Замнога даеш матцы грошай,— адказала Юля.

У вачах Геніка яна бачыла грошы і толькі грошы; мо крыху бляску здзіўлення бачыла, які ў сапраўднасці быў водбліскам махлярства.

Генік паехаў выкідаць гной з хлява маці, а Юлі пазваніў, што выязджае на нараду і вернецца позна.

Вярнуўся абціхлы. І вельмі ж напарфумаваны. Ён адразу ж палез у ванну.

«Звалацужыўся!» — не здагадалася Юля



# ПАДЛІКІ

Толік разумее ды нават адчувае, што не павінен так рабіць, але... Вінавацію сябе бясконца многа разоў, і чым мацней, тым часцей дапускаў глупства.

«Ісці да дырэктара, ці — не ісці?» — запоўніў ён гэтым нядзелю і панядзелак. Да пятніцы.

Перад адзінаццатай зайшоў у сакратарыят.

— У вас прыгожая сукенка! — ляскатаў сакратарцы.— І наогул вы прыгожая...

Яна — быццам блін. Сапраўдны блін! Парумянены ад прыемнасці.

— Вы хваліце, бо маеце справу.

— Я? Наадварот — ніякай! — паглядзеў на яе памужчынску, з той гідкай нахабнасцю, за якую жанчыны абражаюцца толькі дзеля прыстойнасці.— Хаця, шчыра кажучы, так: вы адгадалі — маю да вас справу!

Паказытала яго:

— Ага, бачыце! Калі магу вам што-небудзь або ў чым-небудзь дарадзіць, дык перш за ўсё шчырасць...— залётненька ківала яму пальцам.

Паказытаў і яе:

— Ад вас нічога не ўтоіш...

— Ага!

— Я прыйшоў да вас! — паглядзеў яшчэ болей памужчынску.

— Слухаю вас,— у яе вачах бліснула іскрынка спалаху.

— Хачу менавіта сказаць, што вы цудоўна прыгожая жанчына! Не падумайце, што я... Проста, прыгожым трэба гаварыць, што яны прыгожыя. Гэта абавязак! — І сам сабе: «Здурэў я!»

— Гэта тая справа, з якой вы зайшлі? — яе крыху разгубленыя вочы на імгненне пацвярдзелі, каб неўзабаве засмяяцца па-хатняму, быццам у спальні.

— Так,— з выглядам адукаванага ідыёта адказаў ён. Можна ўжо выйсці...

«Але ж я не за тым прыйшоў сюды, каб плясці вянок з ружаў гэтай... якая пляла на мяне! Не за тым, чорт вазьмі, цьфу...» — браўся выходзіць.

— Дзякую,— так яна.

— Выбачайце,— ён. Ледзь не сказаў: «Да пабачэння». Гэтак кажуць адно другому пасвараныя культурныя людзі або службоўцы з іншых устаноў, якія прыходзяць уладзіць справу.

Усё браўся выходзіць, нечага чакаючы...

Дзверы ў кабінет, што побач, адляпіліся ад сцяны, і з-за іх паказаўся дырэктар. Ён быў апрануты да выхаду ў горад.

Здзівіўся:

— Вы да мяне? — заўважыў Толіка.

— Так,— гэтак жа хутка адказаў яму. Сакратарку засланяла дырэктарава футра, і Толік мог не чырванець.

— У мяне мала часу.— Дырэктар глянуў на гадзіннік.— Калі на нядоўга, прашу!

— Выбачайце,— утоптваў сябе Толік: «Лапаць я!»— Я на хвіліну да вас...

— Калі ласка,— дзверы зусім адляпіліся, ледзь трымаючыся на круках.

«Адразу ўвайсці! Не думаючы, цалкам не думаючы. Справа, з якой ідзеш, здасца табе няважнай, смешна няважнай, калі ліхаманкава зноў задумаешся над ёю перад тварам сур'ёзнасці, на казачным дыване, у падушках мяккай канапы, сярод першакласнай мэблі, завершанай іканастасам паказных дыпломаў на сцяне, якраз за сталом з сагнутымі ад павагі ножкамі. І пачнеш заікацца, і прайграеш, пакуль выкладзеш галоўнае. Прайграеш нават яшчэ перад тым, як пачнеш гаварыць... Таму праныры нярэдка выйграюць!» — Толік ступіў шырэй.



Дыван, крэслы — лом, і нічога болей. Удар нагою — і няма ўсяе гэтай зграбноты!

Удар:

— Пане дырэктар! Я хачу запытаць вас, чаму я не дапушчаны...

Усё сказаў!

«Ну! Адбівайся, дырэктар! Добра сказаў я, не падвалакаючы: кінуў, і ўсё. Што ж: калі хвост зашчэмлены, то і мыш дзярэ па вачах»,— падумаў і пра сябе. Самакрытычна.

Дырэктар абышоў стол і наблізіўся да Толіка амаль упрытык, але для таго, каб зачыніць дубальтовыя дзверы.

«Баіцца сакратаркі!» — Толік намерыўся чакаць адказу.

— Бачыце, трэба пачакаць,— ён не ўтаропіўся ў Толіка, а адвёў вочы.— Дапаможам вам, але зараз не можам салідарызавацца... Ну самі разумееце, чаго вы начаўплі... Так, трэба перачакаць.

Толік разумеў, чаго начоўп, але ён не мог прыняць на сябе тую кару, якая напаткала яго: раптоўную абыякавасць да ягонага лёсу! Абыякавасць, якую можна выказаць прыблізна так: «Не дуры нам галавы, чаго прылез?!»

Дырэктар увесь нібы падштурхнуў Толіка да выхада.

— Дзякую вам, пане дырэктар! Выбачайце, што дуру вам галаву сваёй справай. От, хацеў я запытаць... пры нагодзе... Быў у канцылярыі, па справе, вядома, зайшоў да...— больш няўклюдных слоў нельга было нат і прыдумаць.

Толіку здавалася, што ён усё-такі крыху дабіўся свайго. Малады, паверыў у сілу просьбаў і не цяміў, што прайграў надоўга, мо і назаўсёды!

Увечары трашчала яму галава ад розных думак: «Аж такая кара!» Апоўначы прагнала іх цэлая гайня

6 Зак. 793

іншых: «Толік, падумай, ці справа тут у пакаранні цябе? Ці існуе сэнс усведамлення кары чалавекам, якога асудзілі на шыбеніцу? Пакаралі, Толік, не таму, каб дапамагчы табе. Пакаралі, каб напалохаць — так, напалохаць! — тых, якія маглі б пайсці тваім следам. Разумееш? Кара, як турма, не выхоўвае. Вучыць яна — або хітрыць, або цалаваць боты, або закопвацца. Падумай добранька, Толік! Цябе — ужо! — спісалі на лом. Успомні: калі дзіця, на вачах сваіх сяброў, зваліцца з плота ды скруціць сабе шыю, застаецца калекаю. Але, мабыць, дзякуючы ягонаму калецтву, не палезлі на плот і не скруцілі сабе шыі другія дзеці, равеснікі, аднагодкі. Просты рахунак. Ты, Толік, ужо рэалізаваны і знаходзішся ў архіве. Яшчэ пажывеш...»

Халодны пот...

«...Падумай таксама і аб тым, што пакаранне тваё, магчыма, было патрэбнае на тое, каб каго іншага пакараць мацней! Можа, твая кара — гэта ўсяго звяно ў ланцугу, які — калі замкнецца — будзе звычайна выкінуты на горбу металалому. Табе гэта выйдзе на адно...»

Напусціў у ванну вады. Яму свярбела цела.

Выгодна ўлёгся ў вадзе, галавою апёрся аб край, глядзеў у белую столь — і бачыў распаленае неба, і баяўся, каб да яго ног не падплылі п'яўкі, аднекуль з халоднай раўніны, на якой, дзесьці вельмі далёка, лодкі. Воддаль вярба. Яна ўшчаперылася ў высокі бераг, павісла голлем над вадою. Падзімае ветрык... Не першы раз у паўночнай краіне азёраў: «Валачыў туды свае турботы і сушыў іх тыднямі водпуску. Паварочваў, бы рыбіну, пакуль яны не паменшалі настолькі, каб можна было праглынуць іх і забыцца...»

Ванна выстыла.

Толік выцерся ручніком і апрануў піжаму. Прыкурыў папяросу, зацягнуўся. Супакаенне нашэптвала Толіку і такія развагі: «Ці я, будучы на месцы дырэктара, бараніў бы кагосьці, ведаючы, што за гэту абарону заўтра перастану быць тым, кім стаў? Мала таго, ці такую абарону можна назваць абаронаю? Ці зганьбаваная жанчына менш нешчаслівая ад таго, што яе муж загінуў, баронячы яе ад шайкі? Што гэта, абарона?..»

Захадзіў з кута ў кут. «...Трэба думаць аб апоры, аб захаванні апоры!»

Не ведаў — якой.

Асляпіла яснасцю: «Што з тае апоры, якая з яе карысць, калі яна толькі не дазваляе ўпасці! Падняцца на ўвесь рост, трымаючыся за яе, не вельмі патрэбнае. На віду ўсіх жа падаў ты і гэтаксама хочаш падняцца, выпрастацца, на віду тых усіх. І калі нават удасца табе гэта зрабіць, дык усё роўна застанешся тым, які падаў, які — мабыць — зноў упадзе... Каму патрэбен той, хто падае?.. Ці калі вучышся коўзацца на каньках, робіш гэта з такім, які сам не лепшы за цябе?..

Гарачка апала:

«Упаўшы — адпаўзі далей убок, там падымайся і вярніся назад, быццам пажартаваўшы, згуляўшы ў схованкі. Некаторыя падумаюць, што ты хацеў выпрабаваць іх, прыглядзецца, ці не зарагочуць з уцехі? Тады паверацьтабе і ў цябе. Будзеш карыстацца даверам, чымсьці такім, што робіць цябе патрэбным. І то без цэну падазрэння, што ў табе затаілася бяда, рызыка...»

Усміхнуўся:

«...Дзед, калі не меў грошай, хадзіў на кірмаш купляць каня!.. Бабуля ж, калі даставала ад дзеда лейцамі, не бегла да суседак. Яна апранала на сябе лепшае адзенне, і нікому не прыходзіла ў галаву здагадка, што ёй цяжка, баліць... Вызлаваўшыся, яны дабрэлі адно да другога. Вучыся ад іх...»

Толік заснуў, забаўна схаваўшыся з галавою пад коўдру.

## ДРОБЯЗЬ

Націснуў клямку. Зрабіў гэта ў задуменні: рука адскочыла, схамянулася, што трэба перш намацаць ключ у замку і перакруціць яго ўправа, два разы, і толькі пасля таго — расчыніць дзверы. Рука памацала, зноў памацала: ключа не было.

За дзвярыма зазваніў тэлефон, залівіста і як бы ўсцешліва. Мазгі рыхтавалі словы: «Вы забылі мой ключ!» Язык чакаў. Ногі ішлі, але вочы ўжо бачылі распоўзлы твар парцье, які забыўся ўкласці ключ у гэтыя дзверы на пятнаццаць хвілін да пачатку работы.

— Халера! — прастагнаў парцье. Ён падскочыў да зашклёнай шафкі з ключамі.— Праўда!

У парцье ні збянтэжанасці, ні прыкрасці.

— Зараз, зараз...— і з ключом у руцэ рушыў зрабіць нязробленае.

Перапыніў парцье:

— Нічога. Я сам.

Не дужа ветліва адабраў у яго ключ і накіраваўся ў калідор, да дзвярэй, за якімі анямеў званок тэлефона. У калідоры зрабілася цёмна.

Калі ўвайшоў у пакой, тэлефон на стале таіўся чорнаю кошкаю, абражана маўчаў. Усё маўчала. Але адразу пачуўся добра, як гаспадар, што вярнуўся ў драўляную хату з паездкі да сына ў гарадской кватэры.

Пакой, кожная яго часцінка пазіралі цэлымі васкавінамі спраў, якія выройваліся і выройваліся дзень у дзень, гулі ў вушы настолькі міла, наколькі патрапяць гусці пчолы, удзячныя пчаляру. Пчаляру, які ведае, як дагледзець васкавіны, каб вырастала здаровая чарва, а вулей поўніўся цяжкім мёдам, сапраўдным, мёдам непадробленым, неашуканскім, духмяным. Мёдам, як бурштын.



Даўно перастаў быць здольным уявіць, што пакой пабудаваны з цэглы. Яму ён быў са спраў. Як хата са сварліваю жонкаю не на фундаменце стаіць, не — на крыках стаіць яна, і да таго ж моцна стаіць, што, калі нават памрэ такая жонка, фундамент яшчэ доўга крычыць, пакуль не акамянее зусім ды не заціхне.

Пакой, як нара, а сам у пакоі, як ліс.

Тэлефон зазваніў. Ён не мог доўга не званіць.

У ім пачулася пытанне:

— Славак?

— Я.

— Слухай, Славянятка, патрэбна мне...— патрэбна няважнае, зусім няважнае, да таго ж няважнае, аж невядома што. І, мабыць, таму часам цяжэй даецца няважнае, чымсьці важнае.

Гэта так, Славак ведае.

* * *

Ад чужога пытання запахла лістападам, сапрэлаю лістотаю. У тую адзінокую восень Славак напаткаў яго менавіта ў парку. Здарылася гэта далёка, на ўскраіне. Зусім побач рунела далечыня палёў, і здавалася, крычаць жуpавы ў небе, хаця неба чыстае, а журавы адляцелі ў пачатку восені, у капанне бульбы.

Слаўку было кепска, вельмі кепска. «Слухай,— пачаў гаварыць Славак да яго,— слухай, мне патрэбна алібі. Ці дасі мне алібі?» — «Нашто табе алібі?» — даслоўна гэтак запытаў ён. Славак расказаў, што працаваў кладаўшчыком на складзе, які тры ночы назад абакрала шайка, падпаліла...

Міліцыя дапытвала да рання, цэлы дзень і ноч: Дзе вы, паночку, былі паміж восьмай і дзесятай вечара?! — «Спаў».— «Спаў?» — «Дальбог, спаў!» — «Так рана?» — «Нездаровілася, ну».— «Чаму нездаровілася?» — «Слабасць напала».— «Слабасць са страху? Са страху, што

абакраў і падпаліў?!» — «Я не падпаліў, я не абакраў!!» — «Не крычы так, лепей прызнайся, га?» — «Не маю ні ў чым прызнавацца». — «Напэўна, няма ў чым?» — «Напэўна, панове».— «Тады, што рабілі вы паміж восьмай і дзесятай гадзінамі?» — «Спаў».— «Ці ты, чалавеча, бачыш перад сабою дурняў, га? Што рабіў...» — «Спаў...»

Выпусцілі ў дзесяць гадзін вечара, дакладна (згодна з законам!) праз двое сутак пасля таго, як прыйшлі пад дзверы, разбудзілі, сказалі апранацца, пасадзілі ў машыну, уключылі сігнал. У тыя двое сутак, відаць, свет забываў Слаўка. І зрабіў гэта да таго ж добрасумленна, да таго шчыра, што, калі Славак вярнуўся, ніхто не пазнаў яго.

«Нашто табе алібі?» — загучала ўжо не як пытанне, а як сцвярджэнне. Усё роўна нібы сказаў: «Гэта камень». Камень! Сапраўды, камень. Праўда, во, ляжыць. Або ўсё роўна як сказаў: «Я і ты, бо ты — не я, а я — не ты». Усё, што ні сказаў бы,— праўда. А таму праўда, бо толькі сказаў: нават не спытаў, нават — праўду кажучы — не сцвердзіў. Толькі сказаў. Сказаў. Тое самае, што ідзеш полем зялёным, далінаю сонечнай, летам залацістым і закрычыш у прастору зіхатлівую: «Свет цудоўны!» Не запярэчаць табе маткі хворых дзяцей у капіцах вёсак, не пацвердзяць табе гаспадары, змардаваныя ў дрыгве клопатаў ды турбот без канца. Ты адзін, ты сам, ты кажаш сабе, ты маеш рацыю, а таму маеш яе, што твая яна, твая. І іншым напляваць на яе: у іх свае рацыі, свае беды, свае няшчасці, свае праклёны, хваробы, слёзы, стогны...

«Нашто?» — даслоўна азвалася яго рацыя. Нашто? Сказаць у міліцыі, што Славак быў у яго кватэры да паловы дзесятай, падпілі, Слаўку зрабілася нядобра, і ён правёў Слаўку дамоў, нат дапамог яму распрануцца ды легчы спаць ды выйшаў ад яго перад дзесятай, мо дзесяць — пятнаццаць хвілін перад дзесятай, уклаўшы



Слаўку ў пасцель... Мог бы, вядома, сказаць усё тое, змахляваць.

Махлярства стала б праўдаю, сродкам да праўды — пагоняй за злодзеем. З'явілася б яно той лыжкай чыстай вады, якую даюць чалавеку, хвораму на рак, каб ведаў ён, што яго лечаць.

Славак глядзеў яму ў вочы.

— Нашто табе маё алібі? — запытаў ён у Слаўка.— Табе ж нічога не даказалі, нічога не дакажуць. Ты не вінаваты. Твой дырэктар надта заспяшыў, беспадстаўна звольніў цябе з пасады.

Ён добры конь, крыху палахлівы... Яго трэба вярнуць на дарогу.

Славак сказаў:

— Міліцыя мае права і абавязак не верыць. Сябар такое права павінен перш даказаць, а потым карыстацца ім... Я не абакраў!!!

— Што ты! — выкрыкнула павага ў ім.— Хіба я мог падумаць?

І ўпэўнена закончыў:

— Пайду ў міліцыю, скажу так, як дамовіліся. Вядома, што пайду! Дробязь.

Так і зрабіў.

І Славак зноў стаў чалавекам.

* * *

Славак усё яшчэ трымаў трубку тэлефона, час ад часу пазяхаючы ў яе. Той гаварыў і гаварыў, і патрэбна было яму штосьці няважнае, штосьці страшэнна няважнае, аж невядома што. Яшчэ раз пазяхнуў і прачнуўся. Сказаў у трубку:

— Так. Добра! Будзь пэўны, зраблю.

Паклаў трубку тэлефона і важна ўстаў з-за стала.

## ВЯСЕЛЛЕ НА ДРУГІ ДЗЕНЬ КАЛЯДАЎ

Музыканты рэжуць модны танец: вясельнікі ні то танцуюць, ні то скачуць, дрыгаюць, як тыя коні на лузе ў полудзень.

Бабуля Наста выгінаецца маладзіцаю ў танцы з маладзёнам, які, выціраючы пот, ускрыквае: «Гоп! Го-оп!! Го-о-оп!!!»

Віруе вяселле.

А зяцёк пачапіў даўжэрны ручнік за электрычную лямпачку, вяжа сабе пятлю і ўсхліпвае. Слёзы цякуць яму з-пад прыплюшчаных павекаў, разліваюцца па грудзях. Ён ірве на сабе кашулю і лямантуе. Аб чым гэта ён? Не чуваць, нічога не чуваць. Толькі Настулінае «Го-оп!» штораз шпарчэй раскручвае пары, ажно ператтвараюцца яны ў самавітыя шпулі.

Весялосць глушыць сум.

Над развяселеным вяселлем мільганула бліскавіца. Асляпіла. Пярун узяў ды гакнуў так, што аж шыбы паляцелі і імпэтам вымела ўсіх з хаты.

Адзін зяцёк гайдаецца на ручніку пад столлю.

Пуста.

Няма ні гасцей, ні сталоў, ні лаваў.

А зяцёк сваё:

— Вешаюся, людцы дарагія, вешаюся... Цесць шкадуе мне пасагу, дачцэ сваёй роднай! Не даў ён ні «фіята сто дваццаць шэсць», ні гумавіка з дубовымі аглоблямі... Як жа мне цяпер людзям у вочы глядзець? Я мушу павесіцца! — і вываліў бельмы вачэй, быццам варона на сыр.

— Злазь, целяпень! — крычу.— Ці ты здурэў з-за пасагу вешацца?! Злазь, бо ручнік папэцкаеш! Чуеш, дурыла п'янае?

Грымоты ляскаюць на загуменні, ажно звіняць ледзяшы на бярозах. Віхура прэ вясковаю вуліцаю снежную завіруху і скавыча за вугламі.



Усе танцуюць на панадворку, круцяцца як заведзеныя. Музыканты, рассеўшыся на жэрдках, якраз урэзалі белае танга ў новым, дугападобным стылі. Бабулька Наста без памяці ўзлезла на плот і выкрыквае:

— Го-оп!.. Го-оп!..

Зяцёк ажыў.

Злез на падлогу і кажа:

— Не буду сёння вешацца, каб не папсаваць пагоду.

Адразу настала цішыня.

Трашчаць на марозе дрэвы, месяц са смеху качаецца па небе, ажно зоркі пужліва разбягаюцца перад ім ва ўсе бакі. А ў вокнах — дзіва дзіўнае! — з'явіліся шыбы з замарожанымі елачкамі. У хаце зноўку натоўп народу, і ўсе зладжана гукаюць:

— Не трэба «фіята сто дваццаць шэсць», не трэба гумавіка з дубовымі аглоблямі, і пасагу не трэба!..

Але дзе гэта наша Зінка? Не бачу яе.

— Дзе наша дачка?! — пытаюся з перапалохам. У адказ дружбанты ажно за жываты хапіліся, а дружкі пагляздзелі ў падлогу.

— У гумне твая Зінка, у гумне! — падсмейваецца з мяне Наста і ліжа свой апошні зуб, што спераду застаўся.

Выбягаю на ганак.

Зінка мая далёка, ля рэчкі, паміж кустамі. Ходзіць з доўгаваласым кавалерам. Ён, байдун, у калматым кажусе, а яна, курапатка, у суконачцы без рукавоў. І без шаліка! Падаюць у гурбы снегу, гоняць адно другога. Ушчэнт задыхаліся ад уцехі.

— Застудзішся! Чуеш? Застудзішся, зараза! — хачу сысці з усходкаў, ды так коўзка, што нагою ступіць не магу.

Хлопец схапіў Зіну за руку, і разам пабеглі ў гумно.

— А вы — куды?! — крычу да іх.— Куды вас нясе?!

Зінка расчыніла вароты і цягне хлопца ў застаронак.

— Ну, пачакай ты, кіпенька паганая, скажу бацьку!

Здзяжыць ён табе лейцамі па задзе, што ажно ўсяго адхочацца...

Але яна паварочваецца ў мой бок і язык мне паказвае. Мне, роднай матцы! А кавалер яе паморшчыўся і цераз зубы так сказаў:

— Нам не патрэбны пасаг, не патрэбны «фіят сто дваццаць шэсць». І гумавік не патрэбны нам. Нам не трэба пасагу!

Тут я і анямела.

Схапіла гэта мятлу і хуценька — па ўсходках уніз. Ды як пакаўзнулася, як паляцела з распасцёртымі рукамі, не маючы за што зачапіцца...

Гакнулася вобземлю так, што ад абурэння ўсю мяне разнясло. Галава пакацілася аж пад рэчку, рукі закінула на гумно, а ногі ўлезлі ў зямлю, быццам два калочкі. Столькі было ў мяне таго абурэння!

Са страху — прачнулася. Муж хроп як пшаніцу прадаўшы.

Я ўстала і пайшла накрыць Зіну: яна ссунула з сябе пярыну і скруцілася ў клубок. Прыехала на тыдзень з Беластока, дзе вучыцца ў Медыцынскай акадэміі. Будзе лекарам!

Я доўга не магла апамятацца ад радасці, што гэта быў усяго толькі сон.

За вокнамі, у досвітку, клубавала снежаньская мяцеліца.

## АНАСТАС



н захварэў.

Усё той жа сон: паляна ў цёмнахвойным лесе, пасярод яе — хата, драўляная, з пахам жывіцы, здаровая і ціхая; за сцяною ручаёк, цурчыць спакойна і ласкава, чыста. Хата, якой нідзе! Адкуль яна?

Смаловыя сцены, півоня за акном...



Прачнуўся ад удару перуна — невядома чаго выбліснуў з неба.

Расплюшчыў вочы: за дзвярыма кватэры бляшаны грукат пустога, вялікага і лёгкага. Слухаў вачыма — дзіця суседкі ізноў спатыкнулася на ўсходах, з вядром смецця.

Чаму не баліць галава — нямоцна, з ныццём, як заўсёды?

Не баліць. Боль галавы, відаць, ад таго, што трэба вычысціць вушы, абмыць твар, памыцца пад пахамі, пачысціць зубы, апрануцца, прыдумаць снеданне, абуцца, выйсці на работу і не забыцца замкнуць кватэру. Ад таго самага і таго самага! Боль ад неабходнасці рабіць манатоннае, ад нецярплівасці да той гадзіны, калі ёсць магчымасць заняцца тым, што цікавіць, ад чаго ажно дрыжыш ад жадання.

Урэшце дабягаем мы да жаданай мэты, якая, аказваецца, бы край свету, далёка-далёка на небасхіле маленства...

Стаміўся.

Заплюшчыў вочы. Пайшоў дарогаю пасля дажджу, пыльнаю дарогаю сярод жытоў і пасля невялікага дажджу. Паветра маладое, прапахлае. Спяваць? Плакаць? Запыленыя думкі абмыты, апалосканы, а вочы кінулі рукі ля снапоў і схапіліся пабегаць па нябёсах... Крапіўка паміж каменнямі, якімі засыпана калдобіна на Піражкоўскім гасцінцы. На ёй, на яе лісточку, на кончыку яго, кропелька. За гонямі, далёка цячэ неба, падзіраўленае бліскавіцамі. Што гэта будзе, калі яно выцеча?.. Пабегчы мяжою, прыпыняцца ў гурбах радасці — сіняй, жоўтай, барвовай. Сядаць — і хаваць галаву да самой зямлі, каб знізу паглядзець угору: ад хмары да хмары сунецца вялізнае стварэнне, мурашка. Калі прыплюшчыць адно вока, левае, дык кветка рэдзькі хістаецца ветраком у заполлі. А калі легчы на плечы, глыбока ў радасці, нябёсы здаюцца бяздоннымі. Тады паду-

маецца аб тым, што чамусьці не любім лепшых за сябе...

Іншы раз падумаецца, што многія пераходзяць цераз мяжу і таго поля, на якім нават жарты вырастаюць на тое, каб даць жменьку ўмалоту. Пераходзяць тыя, якія хочуць больш, чым дадзена ім. Можна вяртацца з-за мяжы, можна зважаць, каб пераходзіць яе не занадта часта. Але нікому не пазбыцца ўражання, што ўсё пайшло бокам, бы першае шчасце. І выпустыньваюцца разлогі нашых жаданняў, абсыпаецца лістападдзем зелень мараў...

Здзівіўся з таго, што ніхто не сказаў яму аб жыцці, якое заўжды нагадвае ў кожнага тую новую драбіну, наконт якой невядома, ці не трэсне? Узлазяць па ёй адважныя, моцныя. Баязлівы або слабы пастаіць на першай або другой прыступцы ды сыдзе на зямлю. Падумае і не зазлуе, калі прыйдуць і забяруць тую драбіну. Нават, усцешаны, пабяжыць паглядзець, пад кім яна трэсне, заломіцца? Калі ж такое не здарыцца, тады пачне (здалёку!) выкрыкваць, што яе ў яго ўкралі... Але яго прагоняць. Крыкнуць — і ён пабяжыць пад другую (не, не красці!), не пад сваю, зблізку паглядзець-прыгледзецца, як узлазяць, і дзе часам дазволяць яму ступіць на першую, другую або і трэцюю прыступку. Мог бы і на чацвёртую, ды збаіцца; зробіць тое ў адвячорак жыцця, калі прыступкі будуць выпрабаваныя, выкаўзаныя, не скрыпучыя...

Ёсць людзі, якія, замест жыць, толькі хваляцца жыццём.

Учора бачыў дзяўчыну на тратуары. Зрок свой спыніў на бровах яе белых, выбеленых сонцам, далёкім сонцам над жытнёвымі стрэхамі, пад якімі цянёк, каля якіх нядзельныя вяргіні і цёплыя словы. Душа вярнулася з пыльнага бяскраю, прыпынілася над яе вачыма, быццам валошачкамі ў ніве, гэтымі асколкамі сіняга неба пасля грымотаў, калі жніво ўселася на першых па-



горках, дванасткамі. Валасы дзяўчыны серабрыліся хвалямі спелых палеткаў і пахлі прасторамі. А губы яе, набрынялыя дабром, былі са спакою. Словы — з цішыні ранкаў росных, садоў у квецені, крыніц чыстых-чыстых, некранутых. Потым, у гушчы гадоў, не раз клаў памяць сваю пад яблыняй квяцістай або ў полі на Івана; паіў яе ў крыніцы пад Гаспоравым лесам. Час ад часу, паваляўшыся ў брудзе, ехаў туды і абмываў там усяго сябе, пасля чаго ішоў у Беласток пехатою, не чакаючы аўтобуса...

Чацвёртага верасня, у абед, яму сказалі:

— Ты — свіння!

Здзівіўся:

— Я?!

— Ага.

— Чаму?

— Таму свіння, што шчыры.

Не зразумеў:

— Таму, што шчыры?

Крыху растлумачылі:

— Вельмі шчыра пра ўсё гаворыш... Ці табе гэта няясна?

Усміхнуўся да іх па-дзіцячаму:

— Трэба махляваць?

Крыкнулі:

— Дурнямі нас лічыш, га?! Кажы!

Анастасаў бацька падпёр неба лбом, адным вокам паглядзеў уважліва, як бы хацеў сказаць: «Яшчэ ўтрымаю неба, не бойся, сын. Я моцны! Выслухай іх да канца — я патрымаю... патрымаю...»

Ён, Анастас, сын бацькі, пытае:

— Я вас не разумею. Вы, мабыць, не тое гаворыце?

Закіпелі:

— Круціш.

— Як?

— Ведаеш як!

— Не ведаю...

Пайшлі.

Анастасу зрабілася спакойна і пуста. Такой памятае менавіта восень аднаго года, раннюю восень, калі вераб'і падурэлі ад абжорства. Яны раніцай высаджвалі са шпакоўняў галоўкі ды разглядаліся па-шпачынаму: ні то зладзеявата, ні то спалохана. Аднаго разу на грушу сеў шпак і заспяваў, але так, што зляцеліся да яго іншыя шпакі ды моўчкі слухалі. Той, пяюн, выдаўся запозненым у развіцці ці звар'яцелым, або, звычайна, абыякавічам і ўсёдзіваком, што заўсёды выклікае пустую зацікаўленасць... Дзіўны шпак у дзіўны час дзіўнай восені застаўся ў памяці назаўсёды. Ні год, у якім здарылася такая восень, ні іншыя справы, якія тады вынік-лі, толькі шпак, той шпак запамятаўся.

Памятаем незвычайнае.

Пасля тых роспытаў пачаліся ў яго бяссонныя ночы. Злаваў: «Ніяк не сплю, хоць ты вочы зашывай!»

Думкі кусалі яго, як сляпні каня.

Чалавек з'яўляецца самай высокай формай існавання матэрыі, але часта толькі з выгляду, думаў са з'едлівасцю. І яшчэ адно: у кожным з нас заўжды два чалавекі, як у прасторы — шырыня ды даўжыня. Любім шырыню... Няма такіх, якія б не разумелі таго хоць прыблізна. Затое шмат якія не здольны прыкмячаць, што большае за іх саміх, а што меншае і што — пад сілу. Не трэба баяцца зазнайства ў людзей таленавітых, бо яно можа аказацца тым антыбіётыкам, які ратуе ад сухотаў, або — звычайна — неістотнай шырмай, уяўна прыстойнай заслонаю, аполістым плотам вакол саду ў белені... Мы ж забываем і забываем аб тым, што свет ідзе наперад крокамі ўсё-такі адзінак. І зусім не таму так, што свет вельмі ж схільны да выгоднасці...

У выгодзе можна заўважыць імкненне да перавагі аднаго над другім. Некаторыя зноў кажуць, што тая выгода спарадзіла адзінае дзіця, званае абыякавасцю



і хрышчанае цынізмам, эгаізмам, апартунізмам... Можна таксама сказаць, што гэта няпраўда, што людзі імкнуцца да выгоды! Яны намагаюцца абмінуць жыццё, як сухім месцам абыходзяць калюгу, як навакольнымі сцежкамі — падла... Гэта праўда. Дзіця, усяго цікавае дзіця ўлазіць у калюгу, з халяўкамі боцікаў улазіць яно. І цешыцца! Яно пачынае жыць — часамі такім жыве чалавек на працягу ўсяго свайго векавечча. Тады называюць яго актывістам, ідыётам, ненармальным, гультаём — назвамі, пераважна, замежнымі.

Пазбываемся жыцця.

Задаволенасць ім трэба прыраўноўваць з задаволенасцю гаспадара, якому даўся багаты ўраджай. Працавітаму аратаму. Залочаныя збожжам нівы, васількі-валошкі, жаваранак-жаўручок, сонца, далечыня, пах далёкасці... Гавораць, што нельга пражыць смеючыся, бо ўсё роўна хтосьці адплакаў за цябе.

Ці можна есці хлеб, не пацеючы на яго?

Есці свой, не чужы, не кімсьці запрацаваны, урэшце не крадзены!

У Анастаса аслаблены нервы.

Надышла хвіля плачу, але меў на гэта свой спосаб: успамінаў смешныя здарэнні, надта ж смешныя. Заплакаў бы, быццам дзіця, якое набіла маці, а пасля суцяшала яго, пацешна перадражніваючы піск парасяці ў плоце,— і дзіця плакала смеючыся. Гэтак заплакаў бы; смутак асеў глеем і не прапусціў ні слязінкі. Розум пасвяточнаму тлумачыў бяссэнс плачу без прычыны, у вечаровым адзіноцтве, з позіркам у запаленыя сонцам шыбы, за якімі вуліца з людзьмі ды машынамі.

Баяўся такіх хвілін, не разумеў і адначасова чамусьці любіў, шанаваў іх.

Назаўтра гэтаксама свяціла сонца.

Анастас устаў нейкі абноўлены.

Яму захацелася прайсціся.

Выйшаў на вуліцу.

## ГУТАРКА СУЧАСНАГА З ХВОРЫМ

Гэту гутарку запісаў Хворы. Сучасны, вядома, не меў калі. Здасца яна крыху тэндэнцыйнай, а месцамі і зусім...

Вось яе змест.

Хворы. З таго часу, калі з-за майго языка пацярпеў мой знаёмы,— я адвучыў сябе называць імёны, адбываючыся агульным — адзін. Гэта, праўда, аслабіла маю памяць на імёны... Сказаў адзін, што праявай крайняга адзіноцтва з'яўляецца купля пакаёвага сабачкі.

Сучасны. Каб балабаніць, што сліна на язык прынясе, ды не дастаць за гэта па мазгах, трэба быць братам дырэктара. Родным!

Хворы. О так: адкрылі вы крыніцу праўды!

Сучасны. Якую зноў крыніцу? Звычайна — не трэба быць дурнем! Трэба другіх рабіць дурнямі. Нішто так не прыліпае, як кляймо дурня. Улічыўшы ў чалавеку гэту схільнасць, каб у іншым бачыць дурня, не знойдзецца такога ворага, якога нельга было б знішчыць.

Хворы. У вашых разважаннях бачу істотную рызыку: калі праўда менавіта тое, аб чым вы сказалі, дык можа знайсціся хтосьці такі, які захоча зрабіць дурнем — выбачайце — вас! Ці не бяспечней прыняць, што кожны кімсьці ашуканы? Думаю — справа толькі ў тым, хто і каго ашукаў больш! У чымсьці большым... Так.

Я ж, можна сказаць, люблю, калі ашукоўваюць мяне, але ў дробным. З часам ашуканец пачынае нават шанаваць цябе за тое, што паддаешся ягоным нязначным ашуканствам. Быць тысячы разоў ашуканым, але ў дробязях, і ні разу ў чымсьці вялікім,— гэта годнае прарока!

Сучасны. Здзіўляюся вашаму ўмельству ўскладняць сабе жыццё. Па-мойму, кожны, хто не я, з'яўляецца кандыдатам у дурні. Так гледзячы, можна нечага дабіцца... Важнае — яснасць погляду!



Хворы. Вашы высновы гучаць амаль радасна: даволі, каб кожны пачаў жыць па-вашаму, і дурняў — практычна беручы — няма! Аднак жа, нягледзячы на прастату вашых думак, яны — фантазія і утопія. Перш за ўсё таму, што, бадай, знойдзецца такі, хто сам сябе палічыць дурнем, шчыра. Таму я ўспрымаю вашы высновы з сумам... Не будзе перабольшвання ў тым, што за дурноту аднаго чалавека адказвае ўвесь свет!

Сучасны. Няхай будзе па-вашаму, але без мяне.

Хворы. Ці не прыстойней альбо хоць зручней было б прыняць, што ўсе мы пазіраем на сябе, быццам шукальнікі дурняў?

Сучасны. Калі вам так падабаецца...

Хворы. Яшчэ падумалася мне, што было б някепска скласці слоўнік дурных учынкаў ды выдаць яго масавым тыражом, па даступнай цане. Карысць ад такога выдання — велізарная, можна сказаць, агульначалавечая! Лічу, што...

Сучасны (як гэта часта ў яго, перабіваючы). Мне падабаецца гэта задума. Вельмі! Гэтакі слоўнік, надрукаваны на галоўных мовах свету, даў бы нядрэнны капітал. Цвёрдую валюту! Падабаецца!

Хворы. Не тое я меў на ўвазе, пане Сучасны... (У Хворага выступіў пот на лбе, ён адчуў сябе слаба, страшэнна слаба!)

Тут Сучасны пачаў паводзіць сябе надта ж энергічна. Ён доўга і ясна гаварыў аб тым, што яго, Хворага, бачыць аўтарам такога карыснага выдання, якім несумненна з'явіўся б слоўнік дурных учынкаў. З уласцівай яму панурай вобразнасцю — расказваў і расказваў, як гэта тысячы і мільёны людзей кінуліся б купляць, купляць, купляць! Чытаць, чытаць, чытаць і зноў — купляць новыя выданні, папраўленыя і дапоўненыя, якія прадаваў бы толькі ён, Сучасны, і якому было б забаўна бачыць, як гэта людзі вераць у тое, што можна перастаць быць дурнем.

Калі праз нейкі час пасля Сучасны наведаў Хворага, застаў яго ў роздуме.

Падаў дождж, бубніў па шыбах.

Хворы. Быў я здаровы — сябры былі...

Сучасны. Вядома, каму гэта патрэбен хворы? Я, для прыкладу, гавару з вамі таму, каб запоўніць вольны час. Сяброўства — гэта форма карысці. Так вось і сябрую з вамі...

Хворы. Усё ж існуе нешта падобнае да бескарыслівасці. Маю на ўвазе дзяцінства.

Сучасны. Бескарыслівасць з'яўляецца праявай дзіцячасці, мой паночку. Пара ведаць тое, што ёсць і такія, якія застаюцца дзецьмі аж да пенсіі, і цяжка сказаць аб іх, што ў старасці яны дзяцінеюць.

Хворы. Не магу пагадзіцца з вашымі меркаваннямі.

Сучасны. Дайце прыклад іншага сяброўства. Калі ласка!

Хворы. Далёка не шукаючы — муж з жонкаю!

Сучасны. Якое ж гэта сяброўства паміж мужчынам і жанчынаю? Гы-гы... Хіба што абое маюць па сотні гадоў і ўжо забаўляюцца вязаннем лялек... Усур'ёз кажучы, паночку, муж і жонка — гэта дзве магчымасці, якія аб'ядноўваюцца дзеля адной мэты, патрэбнай і аднаму, і другому. Напрыклад, дзеля кватэры, аўтамашыны ці звычайнага, сытнага жыцця, мяшчанскага. Так, жаніцьба скарачае дарогу да стабільнасці, дабрабыту. Доўгую і пакручастую выбіраюць мастакі або недарэкі...

Хворы. Гаворыце вы абы-што!.. Прабачце мне, я знерваваўся! Хацеў сказаць, што зараз адчуў сябе шчаслівым таму, што не ажаніўся...

Сучасны. Я ж казаў, што гэта такое — карысць. А тое, што вы не ажаніліся, дык гэта ваш разлік.

Хворы. Няхай. Тут скажу вам, што майго знаёмага, калі той апынуўся ў цяжкіх абставінах, выратаваў адзін дырэктар, якому ад таго ніякай карысці. І што вы на гэта скажаце, пане Сучасны?



Сучасны. Наогул бывае адна прычына, дзеля якой дырэктары памагаюць падначаленым. Гэта — павялічыць лік сваіх прыхільнікаў. У даным выпадку не выключана і тое, што дырэктару зажадалася пабыць добрым чалавекам, звычайна памыцца ў крыніцы, каб было лягчэй валацужыцца, рыць.

Хворы. Бачу, не любіце дырэктараў?

Сучасны. Не адкажу на гэтае пытанне, яно такое ж беспрадметнае, як пытанне аб пачатку і канцы свету. Адкажу іначай: я разумею дырэктара. Застацца ім абазначае атрымаць магчымасць многа дапамагчы, але некаторым. Абазначае таксама выбар: каму? А таксама: ад каго чакаць карысці за дапамогу? І наколькі істотнай? Дапамога, мой паночку, быццам грошы: трэба ўмець гаспадарыць ёю.

Хворы. Сумна слухаць вас. Калі можаце, заходзьце ў ясныя дні. Тады лягчэй пераношваю я вашы мудрасці. У дождж — цяжка.

Сучасны. Разумею вашу просьбу, зайду паслязаўтра, бюро пагоды абяцае сонца ў пятніцу.

Хворы. Дзякую.

Сучасны пайшоў. Хворы ляжаў з вачыма ў столь. Калі б ён быў моцна хворы, пэўна, памёр бы! Ды ў яго ўсяго прасцяцкая застуда, тлустая ежа, чай з мёдам і аздобны кошычак з садавінаю. Яму добра, бо мае час думаць аб няшчасці і...

А ў пятніцу:

Хворы. Добры дзень, пане Сучасны! Як ваша здароўе?

Сучасны. Нічога, добрае: жару, бы жывёла, сплю, бы падла! Вас, бачу, звалацужыла — не пазнаць. З суседкаю пачынаеце, га? (Гэта быў знак, што Сучасны неўзабаве запрапануе гаварыць на «ты»).

Хворы. Я? Што вы! Відаць, добра адчуваеце сябе?

Сучасны. Ого, я — бы бізун! — магу карове ногі перабіць, быка за храпу грызці...

Хворы. Галоўнае, ведаеце,— гэта здароўе. Няма здароўя — няма нічога!

Сучасны і Хворы замаўчалі.

Сучасны. Што ў вас там, пане Хворы, чуваць добрага?

Хворы. Не магу пазбыцца ўражання, ведаеце, што свет — з закаханых і незакаханых...

Сучасны. Адкуль вам такое залезла ў галаву?

Хворы. Кожны, бачыце, да чагосьці прагны: да грошай, да кар'еры, да славы, да ідэі, да жанчын, да аўтамашыны, да...

Сучасны. Можа, лепей было б падзяліць людзей на прагных і няпрагных? Я калісьці прапанаваў славутаму граматыку ў беластоцкіх школах, каб замест родаў увёў полы! Бадзяга, чутанькі не з кулакамі кінуўся на мяне, гы-гы...

Хворы. Лічу, што з'ява кахання ў чалавеку ёсць крыніцай ягоных цывілізацыйных пачынанняў. Не відаць розніцы паміж істотаю, сутнасцю кахання і сутнасцю цывілізацыі: мець, зноў мець і зноў мець!

Нейкі казанавізм!

Сучасны. Таму вернасць у каханні з'яўляецца яго смерцю. Не я гэта сказаў, не я.

Хворы. Неглыбокія вашы думкі, пане Сучасны... Ужо Леанарда казаў, што крыніцаю пазнання з'яўляюцца пачуцці.

Каханне — гэта адкрыццё штораз новага! Так.

Сучасны. Я ў сваёй жонкі ўсенька паадкрываў да сярэдзіны першай ночы, гы-гы...

Хворы. Каханне, калі дазволіце,— гэта сутнасць жыцця. Людзі бываюць закаханыя ў неверагодна дзіўнае, напрыклад, у рыбу або ў жукоў, ці камені, у плёткі, у бяссэнсе. Іншы раз здаецца, што кахаю іх за закаханасць... Вы ж усё дашукоўваецеся сэнсу, які, калі жадаеце ведаць, з'яўляецца выдумкай чалавека і канчаецца разам з ім.



Сучасны. Няхай сабе і канчаецца — люблю сэнс! Дзеля яго я гатоў паверыць вашым рацыям, пане Хворы.

Хворы. Дзякую за гатоўнасць, але мяне не цешыць вера ў мае рацыі. Лепш, каб вы прызналі іх правільнымі пасля ўласных разважанняў. Апрача таго, пане Сучасны, ісціны старэюць, паяўляюцца ўсё новыя і новыя, больш бліскучыя... Таму верыць у штосьці — гэта ўсё роўна што ў элегантнай форме прызнаць сябе — выбачайце за вашу тэрміналогію — дурнем!

Сучасны. Я не заслужыў такой іроніі з вашага боку!

Хворы. Не абражайцеся, пане Сучасны: шуканне сэнсу — тыповае ў тых, якія аглянуліся і ўбачылі, што жыццё пражылі толькі для сябе і хочуць у гэтым знайсці вялікі сэнс. Таму, мабыць, надта ж патрэбен гэтым людзям менавіта сэнс! Для надломленага сумлення.

Сучасны (са злосцю). Ну добра, а дзе ж вашы незакаханыя?

Хворы. Незакаханымі лічу немаўлят. Яны не ведаюць аб тым, што жывуць. Нават голаду не ўсведамляюць сабе — вішчаць па-парасячаму!

Сучасны. Дагаварыліся-дапляліся вы, пане Хворы, да ручкі! Паводле вас няма незакаханых людзей, бо немаўляткі яшчэ толькі будуць імі, людзьмі...

Хворы (занепакоена). Абыходзячы вашу зласлівую заўвагу наконт немаўлят, скажу, што вы, пане Сучасны, зрабілі адпаведныя высновы з маіх слоў: няма незакаханых. Дурань закаханы ў дурноту, гультай — у гультайства, наіўны — у сяброўства... Між намі і на асабісты ўжытак кажучы, я надта баюся тых, што закахаліся ў шэфа: яны гатовы выканаць любы ягоны загад! Мала таго — заўсёды гатовы перавыканаць! У сувязі з тым раскажу вам анекдот, які толькі з выгляду недарэчы тут. Паслухайце: двое ўрадоўцаў праводзілі шэфа на вакзал, да цягніка. Хвалілі ягоную дурную ідэю, дашукоўваліся ў ёй ажно старажытных карэнняў і давалі яму адрасы знаёмых жанчын у горадзе, куды ён выбі-

раўся па службовых справах. Уваходзяць на перон ды бачаць, што цягнік ужо рушыў у дарогу. Паперлі за ім, быццам адурэлыя ад абжорства падсвінкі. Цягнік набіраў хуткасць, але яны, бы тыя маладыя жарабцы, дагналі яго і паўскоквалі ў вагон, каб свайму каханаму начальніку заняць добрае месца на дарогу... Начальнік — цягніка не дагнаў.

Сучасны. Не дагнаў? Гы-гы... А тыя занялі яму месцы ў купэ, гы-гы...

Сучасны расказаў свае анекдоты. Пасмяяліся.

Падвялі вынікі гутарак:

1. Свет — з закаханых.
2. Дурны — гэта толькі дурнейшы.
3. Сяброўства з'яўляецца формай карысці.

## Эпілог

З далейшых запісак Хворага вынікае, што Сучасны ўзняў пратэст супроць фармулёўкі: «Дурны — гэта толькі дурнейшы». Спрэчкі зацягнуліся да паўночы. Хворы саступіў. Пункт другі загучаў так:

«Дурны — гэта не я».

Працяг спрэчак паміж Хворым і Сучасным знайшоў я ў чацвёртым камісарыяце міліцыі, што на Выгодзе. Паказалі мне пратакол авантуры — у Сучаснага быў разбіты нос, а Хвораму, ад удару кулаком, вылезла левае вока, якое лекары ў бальніцы ўціснулі яму назад. Мяркуючы па гэтым, пункт другі ўсё-такі канчаткова не ўзгоднены.

Падаю абедзве версіі:

«Дурны — гэта толькі дурнейшы»;

«Дурны — гэта не я!»

Ці Хворы з Сучасным пагадзіліся і зноў сустракаюцца, каб паразважаць,— невядома. Невядома нават і тое, дзе яны цяпер.

## СЛОЎНІК МЯСЦОВЫХ СЛОЎ І ПАЛАНІЗМАЎ

ронд — урад, ад польскага — жонд
апона — шына (гумавая)
шматы — анучы
фатэль — мяккае крэсла
баюра — лужына
багоннік — малое балота
плоць — плотка
«сучка» — малыя санкі
інвігіляцыя — нагляд
абарог — брог, стог сена
файрант — канец работы
захаборыць — даць хабару
здухамэнты — ледзь жывы, ледзь дыхае
гамаваць — тармазіць
пачка — пачак, пасылка
самаход — грузавік; артэзіянскі калодзеж
гумавік — воз з гумавымі коламі
кінчыба — злыдзень
адпыльвач — пыласос
ровар — веласіпед
вярцяха — макацёр, цёрла
байдун — чалавек, які пляце нешта неверагоднае

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Член Саюза польскіх пісьменнікаў, беларускі празаік Сакрат Яновіч нарадзіўся 4 верасня 1936 года ў мястэчку Крынкі на Беласточчыне. Бацька яго шавец, маці краўчыха.

«Чытаць і пісаць,— успамінае сёння Яновіч,— навучыў мяне савецкі настаўнік, які, пасля ўз'яднання Беларусі, кватараваў у нашай хаце зімой саракавога года. На ўсё жыццё запомніў я з тых дзён Купалаў верш «Хлопчык і лётчык».

У апошнюю зіму пад гітлераўскай акупацыяй сямігадовы Сакрат пачаў хадзіць у тайную школу, наладжаную падпольшчыкамі. Аднак неўзабаве абодва яго настаўнікі,— «адзін надта хлапечы, а другі надзвычай строгі, засяроджаны»,— пасля ўзрыву крынкаўскай электрастанцыі «некуды зніклі», а потым іх бачылі ў адным з атрадаў брыгады імя Каліноўскага.

«Мая маці,— успамінае далей, у пісьме да мяне, Сакрат,— яшчэ з дзявочых часоў мела дзве тоўстыя кніжкі, вельмі даўнія. Гэта былі зборы твораў Пушкіна і Лермантава, якія маці атрымала ад удавы лесніка, адзінага, як яна кажа, адукаванага чалавека ў тагачаснай лясной ваколіцы, у яе малой айчыне — Барсуковіне, вёсачцы з чатырох хат. Я паціху выкрадаў гэтыя кнігі з матчынага куфра на гарышчы і чытаў: «Белеет парус одинокий», «Погиб поэт, невольник чести...» Чамусьці найбольш упадабаўся мне «Евгений Онегин» — васьмігадоваму хлапчуку...»

Цёпла ўспамінае пісьменнік людзей, што першыя навучылі яго любіць беларускае паэтычнае слова — аднаго з арганізатараў савецкай улады ў Крынках у верасні 1939 года, работніка раённай міліцыі Клімовіча і беластоцкага гадзіннікавага майстра Клімука, ва ўласнай бібліятэцы якога былі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Васілька...

У тыя дні Яновіч ужо вучыўся ў электратэхнікуме, які закончыў у 1955 годзе. Праз два гады ён паступіў у «завочную настаўніцкую студыю», на аддзяленне беларускай філалогіі, дзе «з асалодай слухаў» лекцыі вядомых мінскіх выкладчыкаў. У канцы 1973 года пісьменнік Яновіч, зноў жа завочнік, абараніў дыплом на філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта.

Як і ў кожнага культурнага літаратара, вучоба ў яго не гэтым пачалася і не на гэтым закончылася. Галоўным была і назаўсёды засталася кніга, вучоба ў любімых папярэднікаў. Сярод іх Сакрат называе Талстога, Дастаеўскага, Хемінгуэя, Паўстоўскага, Маравію, Бабеля, Купалу, Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Быкава... Пра Мележа згадвае так: «Самай вялікай кнігі Ён, мабыць, не напісаў... У студзені 1970 года Ён пісаў мне: «...Усіх слухай, але сваім розумам жыві». Можна дадаць, што так Яновіч і стараецца жыць, працаваць, у гэтым «сакрэт» яго поспехаў.

Дэбют маладога пісьменніка, калі не лічыць падлеткавых практыкаванняў на рускай і беларускай мовах, звязаны з арганізацыяй беларускай газеты «Ніва», якая пачала выходзіць у Беластоку ў 1956 годзе. Сам Яновіч пачаткам яго сапраўднай творчасці называе 1962 год, час

напісання мініяцюр «Фэст», «Сыну», «Валошка», якіх ён, як прызнаецца ў вышэй названым пісьме, не саромеецца і сёння.

У 1969 годзе ў Беластоку выйшла першая кніга Сакрата Яновіча «Загоны», даволі аб'ёмны зборнік апавяданняў і мініяцюр.

У замалёўцы «Загоны», якой адкрываецца кніга, першая фраза гучыць амаль праграмна: «На загонах, як у жыцці — усяго пакрысе». І сапраўды, Яновіч піша пра ўсё, што бачыць у акаляючым яго жыцці, ён углядаецца ў гэтае жыццё пільным і назіральным вокам чалавека нестаронняга, шчыра закаханага ва ўсё добрае, ў сённяшні дзень свае народнае дзяржавы, у светлую будучыню працоўных. І, разам з тым, ён бачыць і не без поспеху намагаецца выкрываць усё тое, што запаскуджвае жыццё сваёй дурнотай і мярзотнасцю.

Таленавітае слова маладога беларускага сабрата неўзабаве было заўважана польскай літаратурнай грамадскасцю. У 1970 годзе яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў ПНР, а на трэцім годзе пасля гэтага варшаўскае выдавецтва «Іскры» выпусціла кнігу навел Яновіча ў перакладзе на польскую мову. Зборнік гэты, пад назвай «Wielkie miasto Bialystok», перакладала цэлая група сяброў беларускага слова, сярод якіх такія вядомыя перакладчыкі нашай паэзіі і прозы, як Ян Гушча, Мацей Юзаф Канановіч, Віктар Варашыльскі, Ежы Літвінюк, які, дарэчы, склаў зборнік, адрэдагаваў пераклады і напісаў прадмову.

У прадмове гэтай Е. Літвінюк слушна гаворыць:

«Яновіч — няхай сабе гэта і здасца камусьці парадаксальным — народны паэт, які карыстаецца прозай. Паэт ён таму, што ў яго не знойдзеш апісання дзеля апісання, не знойдзеш нават і сказа, не пранізанага хваляваннем. А народны ён згодна з акрэсленнем Брэхта: «Народны гэта не тое, што пра народ, але тое, што народ цікавіць».



У кнізе «Сярэбраны яздок» беларускі савецкі чытач знойдзе нямала цікавага.

Гэта і аповесць, назва якое вынесена ў загаловак кнігі,— яшчэ адно свежае слова пра паўстанне, адным з чырвоных правадыроў якога быў легендарны рэвалюцыянер-дэмакрат, мысліцель і публіцыст Кастусь Каліноўскі,— гэта і паэтычныя навелы, замалёўкі, мініяцюры, даволі ўдала падабраныя з усяго, што напісана таленавітым празаікам у гэтым нялёгкім жанры.

Для прозы Сакрата Яновіча, я паўтараю, характэрны добрае веданне жыцця, удумлівае пранікненне ў яго глыбінны змест, шчырыя пошукі сацыяльнай справядлівасці, любоў да чалавека працы, адчуванне красы прыроды і роднага слова.

Праўда, сям-там у яго зашмат бывае надзеі на падтэкст, крыху залішняя для прозы, а то і выразна знарокавая, ледзь не штучная паэтычнасць, мнагавата часамі стамляючай інверсійнасці, заўважаецца не заўсёды карысны ўплыў польскай мовы на граматычны лад і слоўнік Яновіча, у цэлым у яго свабодны і сакавіты.

Аднак усё гэта — толькі «недахопы росту», і яны, у чым я ўпэўнены, не перашкодзяць нашаму чытачу прыхільна ацаніць цікавую, добрую прозу Сакрата Яновіча ў яе першым савецкім кніжным выданні.

**Янка Брыль**

## ЗМЕСТ

Паявілася ўжо ў мінскім выдавецтве „Мастацкая літаратура“ кніжка белавежца Сократа Яновіча „Сярэбраны яздок“. Віншуем!

6. VIII 1978.

Сократ Константинович Янович
СЕРЕБРЯНЫЙ ЕЗДОК
Повесть, рассказы, зарисовки, юморески
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар У. М. Дамашэвіч. Мастак А. А. Бятанава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Паппкова. Карэктары Л. С. Мануленка, В. В. Шарамета.
ІБ № 94
Здадзена ў набор 21.11.77. Падп. да друку 18.05.78. АТ 09694. Фармат 70×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура балтыка. Друк высокі. Ум. друк. арк. 8,40. Ул.-выд. арк. 8,48. Тыраж 6000 экз. Зак. 793. Цана 65 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.